31 студзеня 2020 | № 4 (663)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144





**Гамлет па-казахску**

стар. 20

**4 КААПЕРАЦЫЯ ПАД ВЫБАРЫ**

У 2020 годзе з'явяцца новыя рэдакцыі Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях

**5–6, 19 РАСІЙСКІ ЎПЛЫЎ І КАНТРОЛЬ У БЕЛАРУСІ**

Амбасада Расіі ў Беларусі — адзін з асноўных рэалізатараў расійскай стратэгіі «мяккай сілы» ў нашай краіне

**7–18 Літаратурная Беларусь**

**22–23 НЯВОЛЬНІКІ РЭЙХА**

Набор рабочай сілы гітлераўцы праводзілі як пры блакадах, помсцячы за дапамогу партызанам, так і планава.




# Беларусь — у Еўропу?

Сяргей ПУЛЬША

**Іншым часам, калі прагнозы спраўджваюцца, — пачуццё супярэчлівае. У мінулым годзе, калі Парламенцкая асамблея Савета Еўропы ўзнавіла паўнамоцтвы расійскай дэлегацыі (насуперак здароваму сэнсу, бо яе выключылі праз анексію Крыма, якая нікуды не падзелася), «Новы Час» задаўся пытаннем: «Час на Беларусь?»**




Фота oxu.az

Як пісаў тады Алесь Кіркевіч, «застацца за бортам Савета Еўропы, у які нават Расію вярнулі, ужо неяк сорамна. Выццам гэта ў нас "Боінгі" збіваюць ды дасылаюць разліваць "навічок" па ўсім свеце супрацоўнікаў спецслужбаў... Крыўдна».

І вось — пачалося. Дэпутат расійскай Дзярждумы і член расійскай дэлегацыі ў ПАСЕ Леанід Слуцкі заявіў, што Беларусь павінна атрымаць статус спецыяльна запрошанай у ПАСЕ. Прычым, гэта ён сказаў падчас абмеркавання справаздачы лорда Дэвіда Бленкатры па выбарах у Беларусі, якія прайшлі 17 лістапада. Згодна з высновамі еўрапейскіх місій назірання, яны «прайшлі спакойна, але не адпавядалі міжнародным стандартам дэмакратычных выбараў».

У справаздачы канстатуецца, што беларускія ўлады не выканалі рэкамендацыі міжнародных назіральнікаў, дадзеныя пасля выбараў 2016 года. Сярод асноўных недахопаў выбарчай кампаніі еўрапейцы адзначылі збыткі для нас рэчы — незбалансаванасць складу выбарчых камісій, абмежаванні пры галасаванні, парушэнні правоў кандыдатаў, абмежаванні пры рэгістрацыі кандыдатаў, знятце кандыдатаў з выбараў па нязначных прычынах, крымінальную адказнасць за паклёп, што вядзе да самацэнзуры СМІ. Дзяржаўныя СМІ не асвятлялі кампаніі ўсіх кандыдатаў, таму выбаршчыкі атрымлівалі недастаткова інфармацыі пра незалежных кандыдатаў, і гэтак далей, далей, далей.

Біргір Торарынсан з Ісландыі ўвогуле заявіў, што «ніколі да гэтага не бачыў такіх выбараў». «Яны былі несвабоднымі, непразрыстымі і недэмакратычнымі. Беларусы — прыязныя, сумленныя і ветлівыя людзі. Яны заслугоўваюць большага», — сказаў ён.

І на фоне гэтага ўзнікла прапанова Слуцкага па вяртанні Беларусі ў ПАСЕ ў якасці «спецыяльна запрошанай». Слуцкі заклікаў зыходзіць з прагрэсу Беларусі, які краіна зрабіла за некалькі гадоў.

Цікава толькі, дзе ён пабачыў той прагрэс, калі ўсе астатнія казалі, наадварот, пра рэгрэс? Прынамсі, зазначалася, што, у адрозненне ад ППНС склікання №6, у ППНС №7 не ўвайшоў ніводны апазіцыянер. А выбары ад пачатку былі прызначаныя з парушэннем правоў дэпутатаў ППНС №6, якім па-валюнтарысцку «абрэзалі» тэрмін паўнамоцтваў амаль на год. Можа гэта, на думку Слуцкага, і ёсць «павелічэнне правамоцтваў Палаты прадстаўнікоў»?

Расію можна зразумець. Ёй адной у ПАСЕ няўтульна. Тым больш, што расійскай дэлегацыі актыўна супрацьстаяць Украіна і краіны Балтыі — аж да таго, што на гэтай сесіі было аспрэчана абранне прадстаўніка Расіі Пятра Талстога віцэ-прэзідэнтам ПАСЕ. Каб стаць віцэ-прэзідэнтам Асамблеі, яму цяпер давядзецца прайсці працэдуру таемнага галасавання. А прадстаўнікі Літвы і Латвіі ўвогуле прапанавалі перагледзець паўнамоцтвы расійскай дэлегацыі. Паводле рэгламенту, для прыняцця прапановы патрабаваліся галасы не менш за 30 дэпутатаў з 5 нацыянальных дэлегацый, і такая падтрымка была атрыманая.

Калі Расія прасуне ў ПАСЕ Беларусь, нават у статусе «спецыяльна запрошанага», ёй будзе лягчэй. У нас жа не толькі «Саюзная дзяржава», ЕАЭС і АДКБ. У нас існуе і пагадненне паміж Міністэрствамі замежных спраў па каардынацыі дзеянняў у міжнародных арганізацыях. То-бок, беларуская дэлегацыя, згодна з гэтым пагадненнем, проста вымушаная будзе падтрымліваць пазіцыю расійскага боку. Прычым, ключавое слова тут — «вымушаная».

Але, насамрэч, справа тут больш цікавая. Як вядома, Расія вядзе сваю гульню ў Еўропе. Па меркаванні заходніх аналітыкаў, дзеянні Расіі ў Еўропе заключаюцца ў «размыванні» еўрапейскіх каштоўнасцяў, еўрапейскай ідэнтычнасці, і як вынік — еўрапейскага адзінства. Гэта робіцца праз падтрымку папулістаў-еўрафобаў, умяшанне ў выбары, інфармацыйныя спецаперацыі і «фабрыкі троляў»... Гэтыя захады павінны аслабіць Еўропу, што будзе карысна для Расійскай Федэрацыі.

Прапанова Слуцкага — менавіта ў гэтым: падрыў аўтарытэту ПАСЕ, арганізацыі, якая пакліканая абараняць дэмакратыю і правы чалавека, праз уключэнне ў яе склад відавочна аўтарытарнага рэжыму, які правы чалавека не выконвае і не збіраецца гэта рабіць. Які фальсіфікуе выбары і адзіны ў Еўропе ўжывае смяротнае пакаранне.

Відавочна, што з такім «чальцом», нават проста «спецыяльна запрошаным», аўтарытэт ПАСЕ скоціцца ніжэй за плінтус. Што цалкам укладаецца ў стратэгію Расіі ў ЕС.

Пакуль прапанову Слуцкага, падаецца, пракацілі. Прадстаўнік Літвы Эгідыюс Варэйкіс адзначыў, Беларусь не можа ўваходзіць у ПАСЕ толькі таму, што яна знаходзіцца ў Еўропе. ПАСЕ — не геаграфічная арганізацыя, а арганізацыя, якая абараняе правы чалавека.

Але спробы працягнуцца. І толькі ад ПАСЕ залежыць, ці застанецца яна на каштоўнасным падмурку, альбо, як з пытаннем узнаўлення паўнамоцтваў расійскай дэлегацыі, пераважыць «рэалпалітык».

# «Лепш быць свабодным у рабстве, чым рабом на волі»

НЧ

**Навагодні ліст ад Міхаіла Жамчужнага юрыст Міхаіл Пастухоў атрымаў з вялікім спазненнем.**

Уім Жамчужны падзяліўся слоганам, якога прытрымліваецца ва ўмовах няволі: «Лепш быць свабодным у няволі, чым рабом на волі». Ён мае на ўвазе становішча беларусаў у сваёй краіне: быццам бы і вольныя, але нічога не могуць зрабіць, нават выказаць пратэст супраць інтэграцыі з іншай дзяржавай.

Нягледзячы на ціск з боку адміністрацыі калоніі, які працягваецца, Жамчужны адмаўляецца прайсці ў атрад, дзе, па яго дадзеных, утрымліваюцца асуджаныя з нізкім турэмным статусам. Зносіны з імі аўтаматычна прыводзяць да пераводу асуджанага ў гэтую ж сацыяльную праслойку. Таму палітвязень праводзіць час то ў ШІЗА (штрафным ізалятары), то ў ПКТ (памяшканні камернага тыпу).

Жамчужны паведамляе, што колькасць лістоў да яго ў апошні час рэзка скарацілася, што само па сабе не дзіўна на фоне масавых рэпрэсій супраць удзельнікаў снежаньскіх акцый пратэсту. Ён піша, што перыядычна чытае «Новы Час» і «Свабодныя навіны плюс», дзе пра яго часам узгадваюць. Гэтыя газеты ў «зоне» пераходзяць з рук у рукі і з'яўляюцца глытком свабоды ва ўмовах няволі.

Жамчужны павіншаваў Пастухова з Новым годам, але віншаванне напісаў на паштоўцы «З днём народзінаў» — бо не было больш прыдатнай. Да паштоўкі ён прыклаў сшыткавы лісток з тэкстам. Гэта ўсё, што знайшлося ў яго сціплай «гаспадарцы».

Пісаць вязню можна на адрас: 213410, ПК-9, бр. 31, ПКТ, вул. Дабралюбава, 16, г. Горкі, Магілёўская вобласць, Беларусь. Жамчужнаму Міхаілу Ігаравічу.

# Лукашэнка хацеў паглядзець прадпрыемства, а яно — банкрут

Ілля ГОРЫН

**Першапачаткова чакалася, што ў Шклове кіраўнік Беларусі пабывае толькі на заводзе газетнай паперы. Але ён раптам вырашыў змяніць маршрут. Адной з кропак, акрамя іншых, ён пазначыў «Шклоў Форэст ЛТД». Але...**

Пакуль Лукашэнка глядзеў іншыя прадпрыемствы, высветлілася, што дрэваапрацоўчае прадпрыемства не працуе. Яно моцна закрэдытаванае, і ва ўласнікаў няма сродкаў вырашаць назапашаныя праблемы, паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы. І дапоўніла: мясцовая ўлада таксама не ведае, што рабіць з гэтай вытворчасцю. Кіраўнік краіны даручыў разабрацца з гэтым пытаннем і падрабязна праінфармаваць яго пра сітуацыю.

А цяпер пра гісторыю прадпрыемства, якое замест узорна-паказальнага стала банкрутам, а з яго інвестараў «знялі габлюшку».

Заснавальнікамі кампаніі «Шклоў Форэст Лтд», створанай у 2002 годзе, былі амерыканская фірма «Камандэр Кэпітал ЛЛК» і буйная латвійская лесанарыхтоўчая і трэйдарская кампанія Lindeks. На той момант гэта быў сур'ёзны бізнес, які працаваў у асноўным з сырой драўнінай. На піку яго развіцця гадавы аб'ём продажаў складаў 200 тысяч кубаметраў драўніны на суму 40 мільёнаў долараў.

Беларусь прыцягнула замежных інвестараў магчымасцю нарыхтоўваць і экспартаваць усыхаючы ельнік. Потым яны пачалі вырабляць у Шклове піламатэрыялы.

Лукашэнка ўпершыню наведаў «Шклоў Форэст» у 2005 годзе. Тады ён запатрабаваў «паглыбіць перапрацоўку драўніны», накіроўваўшы прадпрыемства на шлях мадэрнізацыі.

У снежні 2012 года кіраўнік дзяржавы зноў зрабіў незапланаваны візіт на гэты завод: «Мы тут створым узорна-паказальнае прадпрыемства і пакажам той шлях, па якім трэба мадэрнізаваць прадпрыемства ніжэйшага ўзроўню».

Тады ж ён даручыў да 7 лістапада 2013 года ўстанавіць новае абсталяванне для выпуску прадукцыі з большай глыбінёй перапрацоўкі. «Напружвайце, выклікайце ўласніка-прыватніка гэтага і рабіце ўсё, што трэба. Калі ён адмовіцца і не можа — рабіце самі», — загадаў Лукашэнка чыноўнікам.

Прыватнік палічыў немэтазгодным дадаткова ўкладваць грошы ў шклоўскае прадпрыемства. У пачатку 2014-га кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Кабякоў даручыў Магілёўскаму аблвыканкаму знайсці новых інвестараў. Пошукі поспеху не мелі. Сёння гэтае ўнітарнае прадпрыемства лічыцца ў спісах банкрутаў. Некалькі гадоў таму маёмасць кампаніі пайшла з малатка.

***Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ***

# «Вы на каго працуеце?», альбо Справа пра тры літары

Зінаіда ЦІМОШАК

**Амаль два гады таму НЧ пісаў пра жаданне случакоў мець паказальнікі вуліц горада таксама і па-беларуску. На зварот 630 жыхароў горада райвыканкам адпісаўся, што ў нашай краіне дзейнічаюць дзве дзяржаўныя мовы, таму на шыльдах дастаткова адной дзяржаўнай мовы — рускай. Цяпер справа атрымала працяг.**

Уякасці аргумента супраць змены шыльдаў райвыканкам таксама назваў адсутнасць на гэта грошай. Пры гэтым мясцовыя камунальнікі не шкадуюць грошай на новыя рускамоўныя шыльды, што як грыбы вырастаюць у розных мікраёнах горада.

У студзені 2020 года інфармацыя пра жаданне грамадзянаў мець беларускую назву «міліцыя» на паказальніку паступіла з Нясвіжа. Жыхарка Нясвіжа і сябра аргкамітэту па стварэнні БХД (Беларускай хрысціянскай дэмакратыі) Наталля Бордак на працягу некалькіх месяцаў безвынікова перапісвалася з упраўленнямі ўнутраных спраў розных узроўняў. Мастачка і паэтка Наталля Бордак дасылала ліст нават у Міністэрства ўнутраных спраў РБ.

Яна распавяла, што на рагу будынка Нясвіжскага РАУС у вертыкальным выглядзе маецца двухбаковая шыльда «милиция» на рускай мове. Наталля ні ў якім разе не выступала супраць рускамоўнага боку шыльды, а прасіла, каб на другім баку заняла сваё дастойнае месца беларуская назва беларускай міліцыі.

У перапіску ўцягнулася нават галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы Міністэрства ўнутраных спраў, якое сур'ёзна патлумачыла Наталлі, што ў нас дзве дзяржаўныя мовы і «паводле артыкула 31 Закона аб мовах, афіцыйныя назвы дзяржаўных органаў і іншых арганізацый даюцца на беларускай і (або) рускай мовах». Парушэння нормаў дзеючага заканадаўства пры адказе на папярэднія звароты міністэрства не выявіла, і навет параіла звярнуцца грамадзянцы ў суд, калі тая застанецца незадаволенай такім адказам.

Наталля называе ганебным такі адказ з Міністэрства ўнутраных спраў і лічыць беспадстаўнай адмову дадаць беларускую мову на шыльду Нясвіжскага РАУС.

— Калі б гэта быў будынак аддзялення ўнутраных спраў Расійскай Федэрацыі, то хай бы той надпіс хоць пяць разоў быў напісаны па-руску, уздоўж і поперак, у даўжыню і шырыню, — выказвае сваю думку неабыякавая беларуска. — Аднак Нясвіж пакуль не з'яўляецца часткай Расіі. Таму лічу законным, правамоцным і лагічным, каб паказальнік на будынку Нясвіжскага РАУС меўся і на беларускай мове. Інакш міжволі на язык просіцца тое знакамітае пытанне з фільма пра шпіёнаў: «Вы на каго працуеце?»

Старшыня Рэспубліканскага таварыства беларускай мовы Алена Анісім коратка пракаментавала сітуацыю з безвынікавай барацьбой за беларускамоўныя шыльды ў Нясвіжы і Слуцку:

— На жаль, сённяшняя рэчаіснасць сведчыць пра тое, што рэферэндум 1995 года, як і прадказвалася, быў задуманы з мэтай знішчыць беларускую мову цалкам. Прыведзеныя факты пацвярджаюць, што ў адносінах да тытульнай мовы нацыі мы не можам разлічваць на Закон. Толькі там, дзе ў мясцовых органах улады працуюць патрыятычныя людзі, у якіх прысутнічае здаровы сэнс, там парадак і нармальная сітуацыя як з беларускай мовай, так і з вырашэннем іншых пытанняў, важных для людзей. Бяда нашая ў тым, што занадта многа на дзяржаўных месцах сядзіць бяздушных кар'ерыстаў, якія гатовы прадаць што заўгодна, у тым ліку і сваю Радзіму Беларусь. Асабліва небяспечна, калі гэта датычыцца органаў бяспекі. У дадзеным выпадку трэба падумаць над сітуацыяй і, магчыма, накіраваць ліст у Саўмін і ў Савет Бяспекі.

Таксама Алена Анісім параіла неабыякавым грамадзянам Слуцка і Нясвіжа не здавацца і надалей змагацца за права беларусаў жыць у беларускамоўным і ўтульным для іх асяроддзі, а таксама за аздараўленне свядомасці міліцэйскіх і райвыканкамаўскіх чыноўнікаў.

# «Суверэнітэт з'яўляецца канстытуцыйным падмуркам Рэспублікі Беларусь»

**Рада Беларускага ПЭН-Цэнтра зрабіла заяву адносна падзей у падтрымку Незалежнасці Беларусі і пераследу за ўдзел у мірных сходах.**

«27 студзеня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска завяршыўся судовы разгляд па справе Лявона Баршчэўскага, ч. 1 арт. 23.34 КаАП (23.34 ч.1 (Парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавых мерапрыемстваў), — адзначаецца ў заяве. — Згодна прысуду, Лявон Баршчэўскі павінен сплаціць штраф у памеры 30 базавых велічыняў.

Лявон Баршчэўскі, перакладчык, рэдактар, мовазнаўца, ганаровы старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра, старшыня ПЭН-Цэнтра ў 2003–2005 гадах, палітык, які стаіць ля вытокаў беларускай Незалежнасці; дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, што ў 1990 годзе прыняў «Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце», паводле якой Беларусь была абвешчаная суверэннай дзяржавай.

Асуджаны, арыштаваны сумарна на 30 сутак і аштрафаваны Павел Севярынец, грамадскі дзеяч і пісьменнік. Асуджаныя і аштрафаваныя літаратары: Уладзімір Някляеў, пісьменнік, сябра і ганаровы старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра; Уладзімір Арлоў, адзін з заснавальнікаў Беларускага ПЭН-Цэнтра, пісьменнік; Лявон Баршчэўскі, перакладчык, рэдактар, мовазнаўца, ганаровы старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра; Алесь Марачкін, мастак і пісьменнік; Пётра Садоўскі, перакладчык, эсэіст, дыпламат; Ян Грыб, паэт; Мікола Трафімчук, паэт.

Асуджаныя і трапілі за краты паводле рашэння суда блогеры: Сяргей Ціханоўскі (Гомель, Youtube-канал «Страна для жизни») — 15 сутак, Дзмітры Казлоў (відэаблогер «Шэры кот») — сумарна 120 сутак арышту, па арт. 23.34 КаАП (за ўдзел у акцыях і за распаўсюд заклікаў да ўдзелу ў іх).

Асуджаныя і аштрафаваныя журналісты і блогеры: Вольга Быкоўская (Мінск), Дзіяна Серадзюк (Мінск), Эдуард Пальчыс (Мінск), Алена Янушкоўская (заснавальніца групы "Настоящая Беларусь", Віцебск)».

У сувязі з гэтымі падзеямі Рада Беларускага ПЭН-Цэнтра яшчэ раз звяртае ўвагу грамадскасці на Супольную заяву праваабарончых ды іншых арганізацый грамадзянскай супольнасці ад 21 студзеня 2020 года.

«Мы канстатуем, што ў перыяд важных электаральных падзеяў і ў сітуацыі пагрозы Незалежнасці краіны 2020 год можа стаць годам, калі для людзей асабліва важным будзе выяўленне сваёй пазіцыі і выказванне меркаванне.

Мы заклікаем улады Беларусі ўстрымацца ад практыкі пераследу ўдзельнікаў мірных сходаў, прывесці ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі заканадаўства і практыку правапрымянення ў адносінах мірных сходаў і распаўсюду інфармацыі, гарантаваных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі нормамі ў галіне правоў чалавека — Міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах», — адзначае ПЭН-Цэнтр.

Рада Беларускага ПЭН-Цэнтра нагадвае, што суверэнітэт Беларусі з'яўляецца канстытуцыйным падмуркам Рэспублікі Беларусь і выказвае падтрымку ўдзельнікам мірных акцый.

**Паводле прэс-рэлізу**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Бездапаможнасць сістэмы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Падаецца, Рыгоравіч пачаў кампанію па пераабранні сябе, любага, на чарговы тэрмін кіраўніка Сінявокай. Зразумела, яго нязменная сяброўка спадарыня Ярмошына намалюе яму столькі, колькі ён захоча. Але ў сучасных варунках гэтыя лічбы «элегантнай перамогі» трэба нечым пацвердзіць. То-бок, зрабіць нешта такое, каб можна было сказаць: «Вось менавіта з-за гэтага народ і падтрымаў нашага лідара!»**

Атрымліваецца пакуль не вельмі добра. Найперш, кіраўнік Беларусі паспрабаваў перацягнуць на сябе імідж «адзінага барацьбіта за незалежнасць Беларусі». Ён шмат кажа пра тое, што незалежнасць і суверэнітэт — гэта святое, гэта нікому не аддадзім, і гэтак далей. Але такім заклінаннем шмат хто веры не дае. Таму што, па-першае, усе памятаюць, хто стварыў праект «Саюзнай дзяржавы» ды хто і з якой нагоды ў Крамлі пабіў келіх, як «чалавек не то неп'юшчы, не то мала п'юшчы».

У той жа час, як гэта звычайна бывае, свінню Аляксандру Рыгоравічу падклала Міністэрства ўнутраных спраў. Штрафы за «маршы ў абарону незалежнасці» агулам перасягнулі па суме 60 тысяч долараў. Мажліва, гэта звязана з тым, што кіраўнік Беларусі папросту прыраўнаваў, і сапраўды жадае застацца адзіным барацьбітом за незалежнасць. Аднак карныя дзеянні судоў выглядаюць на тое, што нельга несанкцыянавана выступаць нават у падтрымку дзеянняў існага кіраўніка дзяржавы. І звычайныя людзі перажываюць нейкі «разрыў шаблону»: з аднаго боку, выступы за незалежнасць караюцца, з іншага — гарант выступае за тую ж незалежнасць. Значыць, хтосьці хлусіць.

Да таго ж Рыгоравіч сам сабе псуе малюнак, кажучы, што мы штогод стаім «на каленях, просячы нафту ў Расіі». Неяк не вяжацца з іміджам «ненахіляемага».

Зноў пачаўся розыгрыш традыцыйнай карты. Кіраўнік краіны чарговым разам спрабуе стаць «галоўным антыкарупцыянерам». У мінулую пятніцу сілавікі разгарнулі самалёт Мінск—Мюнхен проста ў паветры, каб зняць з борту дырэктараў Гарадзейскага цукровага камбіната Міхаіла Крыштаповіча і дырэктара Слуцкага цукрарафінаднага завода Мікалая Прудніка. З працоўнага месца знік дырэктар Жабінкаўскага цукровага завода Віктар Міронаў, а таксама Зміцер Ягораў, які ўзначальвае завод у Скідзелі. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, па «цукровай справе» ўжо затрыманыя 11 чалавек. Паводле тых жа неафіцыйных звестак, па справе праходзіць і кіраўнік Беларускай цукровай кампаніі Дзмітрый Кірылаў.

Гэта выклікала шквал каментараў. Напрыклад, эканаміст Леанід Заіка падлічыў, што мы купляем цукар-сырэц па 25 цэнтаў за кілаграм, а прадаём насельніцтву гатовы цукар па 75 цэнтаў. Прычым, Расіі той жа цукар штурхаем па 50 цэнтаў. Атрымліваецца, што на цукры можна «наварыць» звышпрыбытак. Нават калі з улікам вытворчасці, сабекошт цукру атрымліваецца 40 цэнтаў, то рэнтабельнасць яго (з улікам кошту для беларусаў) вельмі вялікая.

Можа быць, Аляксандр Рыгоравіч плануе разгарнуць гэтую справу якраз пад выбары — у ліпені-жніўні, калі людзі масава вараць варэнне, скінуць кошты на цукар, забяспечыўшы сваю папулярнасць?

Але гэта вельмі танны прыём, які наўрад ці дасць чаканы вынік. Народ ужо задаецца пытаннем: да чаго прывяла маштабная «справа медыкаў» мінулага года? Можа, кошты на лекі знізіліся? Ці бальніцы раптам напоўніліся сучасным медыцынскім абсталяваннем? Альбо заробак у дактароў значна вырас?

Нічога гэтага не адбылося — апроч таго, што за краты пасадзілі з дзясятак чалавек. То-бок, перавялі іх з адной катэгорыі бюджэтнікаў у іншую, бо месцы зняволення фінансуюцца з бюджэту таксама, як і медыцына. Большых вынікаў проста няма.

Можна смела прарочыць, што «цукровая справа» скончыцца гэтак жа. Проста таму, што дырэктары цукровых заводаў да кошту цукру, насамрэч, ніякага дачынення не маюць. «Цукар белы крышталічны» — гэта пункт шосты ў пераліку сацыяльна значных тавараў, кошты на якія рэгулююцца ўказам кіраўніка дзяржавы яшчэ ад 2011 года. А таму ў «завоблачных» коштах на цукар вінаваты той, хто стварыў і падпісаў гэты ўказ. Адпаведна, у межах «цукровай справы» кіраўнік Беларусі павінен арыштаваць сам сабе. Ці дачакаемся?

**Дырэктары цукровых заводаў да кошту цукру ніякага дачынення не маюць. Цукар — гэта сацыяльна значны тавар, кошты на якія рэгулююцца ўказам кіраўніка дзяржавы. А таму ў «завоблачных» коштах на цукар вінаваты той, хто стварыў і падпісаў гэты ўказ**

Ну і, канешне ж, напярэдадні пасяўной наш кіраўнік чарговым разам заклапаціўся станам сельгаспрадпрыемстваў — цяпер на прыкладзе Віцебскай вобласці. Пазыкі прадпрыемстваў Віцебшчыны перавысілі паўтара мільярда (!!!) долараў! А таму Лукашэнка заявіў: «Размовы пра спісанне даўгоў быць не можа!» І ў той жа час: «Гаворка можа ісці толькі пра нейкую атвору, каб маглі свежага паветра глынуць».

А «атвора», аказваецца — гэта назапашванне пазыкаў. «Ці пакідайце гэтыя даўгі ў калгасах і саўгасах (мы іх адтэрмінуем, і банкі будуць на іх у перыяд адтэрміноўкі нармальна глядзець, а не каэфіцыенты лічыць), ці мы перададзім гэтыя даўгі галаўному прадпрыемству, ці акумулюем у агенцтве (сярод прапаноў — стварыць арганізацыю па кіраванні даўгамі)», — сказаў Лукашэнка.

То-бок, аддаваць даўгі насамрэч ніхто не збіраецца. Больш за тое, Румас прапанаваў Лукашэнку правесці «тэхнічную расчыстку» балансаў прадпрыемстваў, каб у іх на балансах не лічылася даўгоў. Гэта аўтаматычна паляпшае каэфіцыенты плацежаздольнасці прадпрыемстваў, яны стануць больш прывабнымі пазычальнікамі.

Больш прывабнымі пазычальнікамі! Напэўна, для таго, каб яны зноў набралі пазыкаў? Добрая рэформа, здымаю капялюш.

Але самая цікавая прапанова — па падтрымцы маладых спецыялістаў у сельгаспрадпрыемствах. Падавалася б, што тут складанага: зарабіў — атрымай. Не зарабіў — не атрымаеш. Але Лукашэнка пачаў казаць пра фонд падтрымкі маладых спецыялістаў, які павінен фарміравацца вельмі дзіўна. «Багатых людзей нямала. Папрасіце ў іх крыху, хай дадуць вам у гэты фонд, разумеючы, што нам трэба сялян ратаваць. А вы з гэтых фондаў будзеце падтрымліваць спецыялістаў. Ці яшчэ нейкі варыянт знайдзіце», — сказаў Лукашэнка.

То-бок, сяляне павінны не зарабляць, а хадзіць з працягнутай рукой па «багатых людзях»? А можа быць, адразу іх адправіць пабірацца ў электрычкі і на вакзалы?

Будзем шчырымі: такімі захадамі ўзняць АПК не атрымаецца. Але іншага рэцэпту, акрамя як «забраць у багатых і падзяліць паміж беднымі» ў сённяшняй улады, падаецца, няма.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Казлоў

**Аршанскі блогер па мянушцы «Шэры Кот» на тыдні атрымаў чарговыя 15 сутак арышту за акцыі ў падтрымку незалежнасці Беларусі.**

На Дзмітрыя Казлова агулам склалі восем пратаколаў паводле артыкулу 23.34 КаАП (за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях і за распаўсюд заклікаў да ўдзелу ў іх). Апошні па часе суд адбыўся 27 студзеня. Агулам Дзмітрый Казлоў атрымаў 120 сутак адміністрацыйнага арышту, альбо практычна чатыры месяцы зняволення.

Гэта змусіла праваабаронцаў выступіць з супольнай заявай, у якой яны падкрэслілі, што тактыка асуджэння грамадскіх актывістаў адразу на некалькі адміністрацыйных арыштаў запар і раней выкарыстоўвалася беларускімі ўладамі ў мэтах палітычна матываванага ціску. Напрыклад, актывіст Іван Амельчанка ў 2012 годзе адбываў запар 52 содні адміністрацыйнага арышту ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў Мінска.

Праваабаронцы адзначаюць, што пазбаўленне волі Казлова па сваёй працягласці суадносная з пакараннем у выглядзе арышту ў межах Крымінальнага кодэксу і адбываецца «выключна ў сувязі з рэалізацыяй апошнім свабоды мірных сходаў, выказвання меркаванняў і распаўсюду інфармацыі, гарантаваных як Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, так і міжнароднымі нормамі ў галіне правоў чалавека — Міжнародным Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, у прыватнасці».

Праваабаронцы нагадваюць, што пазбаўленне волі (у тым ліку і адміністрацыйны арышт) у сувязі з негвалтоўным ажыццяўленнем свабодаў, гарантаваных міжнароднымі нормамі права ў галіне правоў чалавека, з'яўляецца падставай для прызнання такой асобы палітычным зняволеным. Праваабарончая супольнасць патрабуе адмены вынесеных у дачыненні да Казлова пастаноў суда і спынення раней распачатых супраць яго адміністрацыйных працэсаў.



## Марына Касінерава

**Грамадская актывістка, удзельніца кампаніі dissident.by даведалася, што супраць яе складзены пратакол «за экстрэмізм» у сацсетках.**

Падставай стаў фотаздымак Вячкі Касінерава ў шапцы з надпісам «класавая вайна» па-англійску, апублікаваны ў фэйсбуку Марыны аж 8 траўня 2017 года. Праўда, разабраць, які менавіта надпіс на шапцы Касінерава на тым здымку, атрымліваецца не з першага разу. Паводле пратаколу, «экстрэмісцкае» фота было выяўлена пры аглядзе старонкі Марыны 10 студзеня 2020 года.

Чаму раптам узнікла цікаўнасць да публікацыі трохгадовай даўніны? На думку актывісткі, «складанне пратакола — гэта проста чарговы паказчык таго, што за намі і за нашай дзейнасцю сочаць, і сочаць вельмі ўважліва. Гэта ў тым ліку адна з формаў псіхалагічнага ціску».

Апроч таго, Марына мяркуе, што ўлады нервуюцца з-за дзейнасці ініцыятывы dissident.by, якая прысвечана дапамозе палітычным вязням у Беларусі: іх колькасці, агучванню любой інфармацыі і падтрымцы. «Бо ініцыятыва выходзіць за межы Беларусі, і людзі не толькі пра гэта чытаюць, але пішуць лісты і распаўсюджваюць інфармацыю, што вельмі не зручна для ўладаў».

## Ганна Канапацкая



**Былая дэпутатка Палаты прадстаўнікоў у студзені наведала Маскву і праз Facebook адразу ж выдала сенсацыю.**

«З дакладных крыніц стала вядома пра сур'ёзную хваробу Уладзіміра Пуціна. Зараз становіцца зразумела, чым выкліканая такая спешка пры рэалізацыі плана "В"», — напісала яна.

Нагадаем, што ў студзені ў Расіі быў істотна зменены склад урада, а таксама абвешчана пра правядзенне вясной усенароднага галасавання з нагоды маючых адбыцца зменаў у Канстытуцыю.

Невядома, што за «дакладныя крыніцы» ў Канапацкай, але чуткі пра хваробу Пуціна ходзяць аж з 2015 года. Нягледзячы на гэта кіраўнік Расіі, як кажуць, «жывейшы за ўсіх жывых».

# КаАПерацыя пад выбары

Павел КІРЫЛАЎ

**У 2020 годзе з'явяцца новыя рэдакцыі Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчага кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях — яны павінна быць гатовыя да 1 траўня. Днямі скончыўся збор прапановаў ад грамадзян па змяненнях у гэтыя, бадай, самыя часта ўжываныя заканадаўчыя акты: так альбо інакш з імі мела справу кожная беларуская сям'я — ну хто калі-небудзь штонебудзь нешта не парушаў, не плаціў штраф? Хаця б за парушэнне Правілаў дарожнага руху. Разбіраемся: дзеля чаго і як павінны быць перапісаныя КаАП і ПВКаАП?**

## Ці магчыма гуманізацыя сістэмы?

Заканадаўства наконт адміністрацыйных правапарушэнняў і пакаранняў за іх мяняецца пастаянна — па некалькі разоў на год. Яно карэктуецца ў сувязі са змяненнямі ў законы і з'яўленнем новых указаў. Так, цэлы шэраг новаўвядзенняў уступіў у сілу ўжо ў студзені 2020-га, хаця гэты год толькі пачаўся, яшчэ некалькі карэкціровак пачнуць дзейнічаць увесну. Новыя рэдакцыі можна назваць рэформай дзеля спрашчэння Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчага кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях, каб яны сталі больш зразумелымі.

Нельга не адзначыць, што выпадкова ці не, але па часе актыўная праца прыпала на перыяд перад сёлетняй прэзідэнцкай выбарчай кампаніяй. Улада пачала дбаць пра свой імідж. Нездарма адмысловую нараду, прысвечаную змяненням у заканадаўстве аб адміністрацыйных правапарушэннях, у снежні правёў кіраўнік краіны. Тэма ў сацыяльна-палітычным плане розгаласная, улічваючы статыстыку па гэтых самых адміністрацыйных правапарушэннях, якая апошнім часам біла рэкорды. Перадусім міліцэйскімі стараннямі. У 2017 годзе па ўсёй краіне было складзена амаль 4 мільёны пратаколаў аб адміністрацыйных правапарушэннях, у 2018-м — ужо крыху больш за 4 мільёны! Самыя папулярныя — з вялікай перавагай па колькасці — парушэнні ПДР (перадусім перавышэнне хуткаснага рэжыму), распіванне алкагольных напояў у грамадскіх месцах, дробнае хуліганства.

На згаданай нарадзе гаворка вялася ў тым ліку пра хібную практыку валавых справаздачных паказнікаў для ацэнкі дзейнасці службовых асобаў упаўнаважаных ведамстваў. «Дагэтуль у нас не выкараненая палачна-птушачная сістэма. Гэтым грашаць практычна ўсе: міліцыя, мытныя органы, падатковая інспекцыя, пажарная служба, санстанцыя ды іншыя. Даходзіць да таго, што кіраўніцтва з супрацоўнікаў наўпрост патрабуе прынесці не меней 3–5 пратаколаў аб правапарушэннях за дзень, а калі не — застануцца без прэміі», — заявіў Лукашэнка. І ў звыклай манеры дадаў: «За гэта трэба саджаць у турму без суду і следства. Інакш мы не развяжам праблему, будзе балбатня».

Пажывем — паглядзім, ці атрымаецца зрабіць так, як анансуецца на словах: каб галоўным крытэрам плённай працы сілавых ды іншых структур была не колькасць выяўленых запратакаляваных парушэнняў і выпісаных штрафных спагнанняў, а скарачэнне адміністрацыйных учынкаў. Як вынік іх прафілактыкі і эфектыўнага дзяржаўнага кіравання ў розных сферах жыцця. Каб дзейны Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях не ўжываўся пераважна як карны спосаб развязання канфліктных сітуацый. Па словах заклапочанага Лукашэнкі, «гэта фарміруе ў грамадстве меркаванне аб празмернай жорсткасці органаў улады і ўлады ўвогуле, а часта і адчуванне несправядлівасці практыкі прымянення адміністрацыйных санкцыяў». Але ці здольная сістэма ў прынцыпе гуманізавацца і адысці ад карнай інерцыі: усё ж 25 гадоў з падачы якраз кіраўніка краіны панаваў савецкі стыль адміністрацыйнай пугі?

## Голас народа

Якім чынам мяркуецца мадэрнізаваць і гуманізаваць Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчы Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях?




**Правапарушэнні распішуць па катэгорыях — у залежнасці ад ступені грамадскай небяспекі і цяжкасці наступстваў — як у Крымінальным кодэксе. Адпаведнай будзе і градацыя пакаранняў. З'явіцца больш падставаў для вызвалення ад адміністрацыйнай адказнасці**

Правапарушэнні распішуць па катэгорыях — у залежнасці ад ступені грамадскай небяспекі і цяжкасці наступстваў — як у Крымінальным кодэксе. Адпаведнай будзе і градацыя пакаранняў. З'явіцца больш падставаў для вызвалення ад адміністрацыйнай адказнасці. Будзе скарочаная колькасць дзяржаўных органаў і арганізацый з правам складаць пратаколы па «адміністрацыйцы» — цяпер такіх ведамстваў каля 80. З КаАП знікнуць каля паўсотні артыкулаў. Увядуць нешта накшталт зніжак па выплаце штрафаў: іх памер будзе зменшаны, калі штрафы будуць аплачаныя адразу на месцы правапарушэння або цягам 10 дзён пасля яго здзяйснення. У выніку новыя рэдакцыі КаАП і ПВКаАП павінна быць складзены так, каб мінімум гадоў пяць не спатрэбілася ўносіць туды змяненні.

Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі на партале Pravo.by з канца снежня мінулага года збіраў прапановы беларусаў па карэкціроўцы кодэксаў. «Новы Час» вывучыў іх і склаў Топ самых папулярных тэмаў. Гэта — хуткасны рэжым для аўтамабіляў і правілы паркоўкі, ужыванне алкагольных напояў у публічных месцах, а таксама разнастайныя сітуацыі, звязаныя з жыллём і зямлёй.

Што тычыцца жыллёвых пытанняў, то, напрыклад, народ прапануе змякчыць адказнасць па артыкуле «Самавольнае будаўніцтва». Гаворка пра выпадкі, калі штраф даецца за няўзгодненае ўзвядзенне навесу над ганкам ці над кладам дроваў. Таксама суровым падаецца людзям пакаранне паводле артыкула «Самавольнае заняцце зямельнага ўчастка» — штраф ад 10 да 30 базавых велічыняў: «У практыцы маюцца выпадкі, калі праваўладальнік зямельнага ўчастка нязначна выходзіць за межы пры будаўніцтве або іншай дзейнасці (часцей гэта адбываецца ў сельскай мясцовасці), што не нясе вялікай шкоды». А штраф нярэдка перавышае месячны заробак на вёсцы.

Шмат розных прапановаў наконт шуму ў жылых шматкватэрных дамах — у якія гадзіны павінен захоўвацца рэжым «цішыні». Як вам, напрыклад, прапанова ўстанавіць яго з 21.00 па 9.00 і цэлыя суткі па нядзелях?

Асабліва жвавая дыскусія сярод грамадзян разгарнулася датычна адміністрацыйнай адказнасці за распіванне алкаголю ў грамадскіх месцах, а менавіта — піва. Яго многія прапануюць рэабілітаваць: «Нават для кіроўцаў транспартных сродкаў адказнасць настае пры дасягненні мінімальнага парогу ў 0,3 праміле. Для пешаходаў такога мінімальнага парогу няма. Атрымліваецца, што да пешаходаў і проста грамадзянаў, якія знаходзяцца ў грамадскіх месцах, патрабаванні больш строгія, чым да кіроўцаў, а любы грамадзянін можа быць прыцягнуты да адказнасці толькі за тое, што ўжыў, да прыкладу, куфаль піва ў адведзеным месцы, хаця ніякай небяспекі не ўяўляе, знаходзіцца ў адэкватным стане і грамадскі парадак не парушае». «Ёсць мноства паводзінных тэстаў, якія паказваюць празмернае ўжыванне алкаголю. Калі чалавек іх не прайшоў — адвезці на медыцынскі агляд, калі перавышаны парог 1,2 праміле — вось тады штраф і выцвярэзнік!»

На довад, што дрэнна піць нават піва навідавоку ў дзяцей, прыводзіцца контраргумент пра магчымасць ужывання піва, пакладзенага ў непразрысты пакет, а таксама пра крывадушнасць дзяржавы, якая ўхваліла па ўсёй краіне размяшчэнне шапікаў па продажу цыгарэт «Табакерка».

Што тычыцца ПДР, то ёсць, да прыкладу, прапановы зменшыць нештрафавальнае перавышэнне хуткасці ў населеным пункце з дзесяці кіламетраў на гадзіну да трох, узмацніць санкцыі за няправільнае паркаванне, а за першасныя парушэнні правілаў, апрача грубых, спачатку даваць папярэджанні, а ўжо пры паўторных — спаганяць вялізныя штрафы, большыя па памерах за цяперашнія.

А што вы думаеце наконт такой прапановы: «Скасаваць "калідор" штрафаў, каб за кожнае парушэнне было дакладнае пакаранне, а не размытае "папярэджанне або штраф ці пазбаўленне правоў", бо гэта глеба для карупцыі»?

З іншых народных пажаданняў адзначым замену адміністрацыйнага арышту грамадскімі працамі ці адмену кампенсацыі адміністрацыйна зняволенымі расходаў на харчаванне падчас адбывання арышту.

Арыгінальнымі падаюцца ідэі ўвядзення пакарання за марудную язду ў горадзе, калі «кіроўца едзе на 11 меней за дазволеную хуткасць», або за навязлівыя рэкламныя тэлефанаванні.

Ці такая прапанова, каб больш караць паводле КаАП: «Дазвольце часткі супрацоўнікаў ППС хадзіць без формы і выдаваць штрафы людзям, якія ўчыняюць правапарушэнні, — у прыватнасці, парушэнні выгулу сабак, паркоўкі, курэнне ў грамадскіх месцах, выкід смецця ў неналежным месцы... Гэта дазволіць зрабіць гарады чысцейшымі, папоўніць бюджэт і дысцыплінаваць грамадзян на культурнае стаўленне да парадку».

Якія прапановы падаюцца вам слушнымі і што змянілі б у КаАП вы?

# Расійскі ўплыў і кантроль у Беларусі: рэзідэнтура. Частка 4

Дзяніс ІВАШЫН

**Ад моманту свайго заснавання Амбасада Расіі ў Беларусі валодае значным патэнцыялам для здзяйснення знешняй выведкі спецслужбамі РФ і ёсць адным з асноўных рэалізатараў расійскай стратэгіі «мяккай сілы» ў нашай краіне.**

Заключную частку расследавання пачнём з аналізу інфармацыі пра ключавыя змены, якія адбыліся ў апараце вайсковага аташату расійскай Амбасады ў Беларусі. Пасля працяглай адсутнасці кіраўніцтва на чале гэтага апарату з'явіўся новы аташэ ў пытаннях абароны, а ў ваеннага і ваенна-паветранага аташэ адбылася ратацыя памочнікаў і пашырэнне іх складу.

З усіх чальцоў вайсковага аташату Амбасады РФ у Беларусі, дадзеныя пра якіх мы публікавалі ў папярэдніх частках нашага расследавання, застаўся толькі вайсковы і вайскова-паветраны аташэ Кірыл Калючкін.

У 2014 годзе ён быў затрыманы супрацоўнікамі СБУ на месцы здзяйснення ім агентурнай акцыі і, паводле дадзеных Цэнтру «Міратворац» і групы «Інфармацыйны супраціў», з'яўляецца падпалкоўнікам Галоўнага ўпраўлення Генштабу Узброеных Сілаў РФ (колішняе ГРУ, далей выкарыстоўваецца гэтая абрэвіятура).

Дастаткова працяглы час, з пачатку кастрычніка 2019 года, вайсковы аташат пры расійскай Амбасадзе ў Беларусі не меў кіраўніка. Гэта ўскосна пацвярджае версію пра тое, што папярэдні аташэ ў пытаннях абароны Раман Спірыдонаў быў адкліканы з Мінска, меркавана, праз раскрыццё яго выведавальна-агентурнай дзейнасці. Відавочна, расійскі бок не змог аператыўна здзейсніць замену праз адсутнасць неабходнай кандыдатуры.

Паводле атрыманай інфармацыі, новым кіраўніком вайсковага аташату прызначаны Аляксандр Іванавіч Пашчанка. Вядома, што ў студзені 2002 года ён быў памочнікам вайсковага, ваенна-марскога і ваенна-паветранага аташэ Амбасады РФ у Індыі, на той момант меў званне падпалкоўніка. У 2010-х гадах яго зноў накіравалі ў Індыю ў якасці ўжо ваеннага, ваенна-марскога і ваенна-паветранага аташэ. Вызначана, што разам з Пашчанкам падчас яго другой камандзіроўкі ў Індыі ў складзе расійскага дыппрадстаўніцтва працавала сямейная пара Сяргея і Юліі Араевых. Абодва мелі ранг другога сакратара. З 2019 года яны былі пераведзеныя ў Амбасаду РФ у Беларусі ў рангу першых сакратароў. І Пашчанка, і Араевы, відавочна, накіраваныя ў Беларусь з улікам асабістых пажаданняў амбасадара Дзмітрыя Мезенцава, які, пэўна, узаемадзейнічаў з імі ў межах Шанхайскай арганізацыі супрацы, генеральным сакратаром якой ён быў, і да якой Індыя далучылася ў 2017 годзе.

Характэрна, што пасля публікацыі другой часткі расследавання, у якой мы раскрылі дадзеныя пра памочніка вайсковага аташэ пры Амбасадзе РФ у Беларусі Іллю Мелітоўскага і пра яго бацьку, падпалкоўніка УС РФ, які з 2015 года знаходзіцца ў акупаваным Крыме, у новым складзе вайсковага аташату яго прозвішча ўжо адсутнічае. Паводле інфармацыі праекту «Інфармацыйны супраціў», Ілля Мелітоўскі з'яўляецца адмыслоўцам у правядзенні гібрыдных аперацый, мог быць заангажаваны ў рэалізацыю агрэсіўнага сцэнару дэстабілізацыі і паглынання Беларусі Расіяй.

Замест Мелітоўскага былі прызначаныя аж два новыя памочнікі ваеннага і ваенна-паветранага аташэ: Аляксандр Аляксандравіч Бадрагін і Уладзімір Юр'евіч Балабанаў. У адкрытых крыніцах інфармацыі дадзеныя пра іх практычна адсутнічаюць.



**Нарукаўны знак на кіцелі Балабанава сведчыць пра прыналежнасць да Галоўнага камандавання Сухапутных войскаў УС РФ.** Фота kirovsk.by

Чалавек з імем і прозвішчам Аляксандр Бадрагін напрыканцы 1990-х гадоў быў вайсковым аташэ Амбасады РФ у Рэспубліцы Карэя, меў званне палкоўніка. Уладзімір Балабанаў — маёр. Паводле нарукаўнага знаку, зафіксаванага на фота, з'яўляецца афіцэрам Галоўнага камандавання Сухапутных войскаў УС РФ.

Гэта, аднак, можа быць прыкрыццём і неабходным легендаваннем штатнага супрацоўніка ГРУ Генштаба УС РФ.

Адна з асноўных мэтаў і задач знешнепалітычнага ведамства РФ у дачыненні да краінаў колішняга сацыялістычнага лагеру — правядзенне на іх тэрыторыі стратэгіі «soft power» («мяккая сіла»), з дапамогай якой Расія намагаецца законсерваваць іх у сваёй культурніцкай, гуманітарнай, эканамічнай і сацыяльнай прасторы. Рэалізатарамі стратэгіі з'яўляюцца дыпламатычныя і культурніцкія прадстаўніцтвы, арганізацыі расійскіх суайчыннікаў і рэлігійныя ўстановы, падкантрольныя Маскоўскаму патрыярхату.

У папярэдніх частках расследавання мы распавялі пра дзейнасць, якую праводзяць у гэтай сферы першыя сакратары расійскага дыппрадстаўніцтва Леанід Макураў, Аляксей Маскалёў і трэці сакратар Галіна Лаўрова. Яшчэ адным правадніком «мяккай сілы» ў Беларусі з'яўляецца трэці сакратар Марыя Анатольеўна Данец.



**Марыя Данец.** Фота nesvizh-news.by

Марыя Данец скончыла Маскоўскі дзяржаўны гуманітарны ўніверсітэт імя Шолахава. Дыпламатычную службу ў Беларусі распачала напачатку 2010-х, станам на 2014 год з'яўлялася аташэ па культуры Амбасады РФ у Беларусі. Яе першая дыпламатычная камандзіроўка ў нашай краіне трывала да 2016 года. У 2018 годзе зноў пераведзеная ў дыпламатычны склад расійскага дыппрадстаўніцтва ў Беларусі. Ад пачатку сваёй службы ў Беларусі яна непасрэдна ўзаемадзейнічала з кангламератам арганізацый «русского мира» ў нашай краіне — так званым «Координационным Советом организаций российских соотечественников в Белоруссии» (КСОРС), дзейнасць якіх знаходзіцца пад кантролем расійскай Амбасады.



**Прадстаўнікі Амбасады РФ у Беларусі на тэрыторыі «Братского воинского кладбища» ў Мінску, жнівень 2019 года.** Фота www.sputnik.by




Фота www.church.by

У верасні 2014 года Марыя Данец курыравала арганізаваны на тэрыторыі расійскай Амбасады форум «Первая мировая. Возвращение памяти». У межах мерапрыемства адбылася спроба каардынацыі дзейнасці і намаганняў беларускіх і расійскіх гісторыкаў, краязнаўцаў і грамадскіх актывістаў, якія займаюцца ўвекавечаннем памяці пра Расійскую імператарскую армію на тэрыторыі Беларусі. Вынікам дзейнасці актыву (пра)расійскіх арганізацый у гэтым напрамку сталася стварэнне на месцы «Братского воинского кладбища» ў Мінску мемарыяльнага комплексу з капліцай Маскоўскага патрыярхату. Характэрна, што адным з ініцыятараў стварэння гэтага комплексу выступіла зарэгістраваная ў Мінску МГА «Русь единая».

У кастрычніку 2015 года Марыя Данец удзельнічала ў мітынгу і асвячэнні мемарыяльнай пліты на месцы яшчэ аднаго вайсковага цвінтара жаўнераў Расійскай імператарскай арміі ў аграгарадку Сноў Нясвіжскага раёна. Ініцыятарамі ўсталявання было ГА «Военно-Христианское движение "Вера и честь"» і праект «Цитадель» (А.Дзерман, А.Сінкевіч, А.Шпакоўскі і іншыя). Характэрна, што падчас цырымоніі асвячэння гэтай мемарыяльнай пліты, на якой, апроч іншых, выбітыя словы: «За Веру и Отчество», прысутнічалі і прадстаўнікі мясцовай наменклатуры.

Расія актыўна выкарыстоўвае свае «сакральныя месцы памяці» на тэрыторыях, якія былі акупаваныя Расійскай імперыяй і СССР, а цяпер — суверэнныя дзяржавы. Робіцца гэта перадусім для акцэптацыі мясцовай палітычнай элітай і насельніцтвам міфалагемы «единое Отечество», «единая историческая память», што абумоўлівае выкарыстанне ўжо іншага міфу — «один (разделенный) народ», пакліканага апраўдаць правядзенне агрэсіўнай палітыкі неаімперыялізму і анексію новых тэрыторый.

У лістападзе 2016 года Данец удзельнічала ў адкрыцці так



**Удзельнікі «чытанняў» ля Сіманаўскага каменя непадалёк ад Магілёва.** Фота: ross-bel.ru

« Пачатак на стар. 5

званых «Симоновских чтений», арганізаваных МГА РГА «Русское общество» з дапамогай Амбасады РФ у Беларусі. Гэтыя «чытанні» з'яўляюцца адным з цэнтральных штогадовых мерапрыемстваў «русского мира» на Магілёўшчыне.

У лютым 2018 года Данец курыравала штогадовы конкурс «Души прекрасные порывы», які праводзіцца на базе віцебскай гімназіі №3 імя А.Пушкіна. Як мы зазначалі раней, з дапамогай расійскага МЗС, прадстаўніцтва «Россотрудничество» і ВГА «Русский культурный центр "Русь"» гэтая гімназія фактычна ператварылася ў адзін з цэнтраў расійскай культурна-ідэалагічнай гегемоніі на Віцебшчыне.

Ва ўзаемадзеянні з грамадскімі арганізацыямі ў Беларусі быў заўважаны другі сакратар расійскай Амбасады ў Беларусі Аляксандр Уладзіміравіч Белашэеў. На дыпламатычнай службе ў нашай краіне ён з другой паловы 2017 года.



**Аляксандр Белашэеў.** Фота blr.rs.gov.ru

Аляксандр Белашэеў нарадзіўся ў 1982 годзе ў Валагодскай вобласці. У 2006 годзе скончыў факультэт міжнародных адносінаў СПбДУ. З 2006 года працаваў аташэ Амбасады РФ у Маўрытаніі, станам на жнівень 2008 года быў сакратаром-рэферэнтам. З 2010 года працаваў віцэ-консулам Генеральнага консулату РФ у Таронта. У 2016-м ён быў назіральнікам на прэзідэнцкіх выбарах у Малдове ад АБСЭ/БДІПЧ, а 2018 годзе, як і Марыя Данец, афіцыйным назіральнікам ад Амбасады РФ на выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў Беларусі 28-га склікання.

У сакавіку 2019-га Белашэеў асабіста прысутнічаў падчас сустрэчы ў Полацку прадстаўнікоў партыі «Справедливая Россия» (СР) і Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці (РППС). Сустрэча адбылася ў кантэксце рэалізацыі Расіяй транспамежнай супрацы між суседнімі абласцямі Беларусі і РФ дзеля ўзмацнення інтэграцыі на рэгіянальным узроўні. Паказальна, што ад СР у мерапрыемстве ўдзельнічаў сакратар Прэзідыума Цэнтральнай Рады гэтай партыі Аляксандр Рамановіч, які з'яўляецца палкоўнікам запасу і, меркавана, ёсць выхадцам з сістэмы знешняй вайсковай выведкі СССР. Ад РППС прысутнічаў кіраўнік партыі Васіль Задняпраны. У пасяджэнні таксама ўдзельнічаў Андрэй Герашчанка, які раней ачольваў віцебскую абласную арганізацыю РППС, а цяпер з'яўляецца кіраўніком (пра) расійскага пулу арганізацый «КСОРС» у Беларусі.




**Злева направа: Андрэй Герашчанка, Аляксандр Белашэеў, Алег Брачак (СР, Пскоў), Васіль Задняпраны, Вольга Калістратава (СР, Смаленск), Аляксандр Рамановіч, Аляксандр Лукашок (РППС, Віцебск), Андрэй Мамякоў (РППС, Полацак).** Фота rpts.by

У структуры расійскіх дыппрадстаўніцтваў, як правіла, ёсць супрацоўнікі, якія займаюцца навукова-тэхнічнай выведкай, перадусім у краінах са значным прамысловым і навуковым патэнцыялам. Адным з ключавых адукацыйных цэнтраў у гэтым напрамку з'яўляецца Нацыянальны даследніцкі ядзерны ўніверсітэт «МИФИ» і яго структурнае падраздзяленне — Інстытут міжнародных адносінаў, які мае шчыльныя сувязі са службамі знешняй выведкі РФ. Ганаровым прэзідэнтам інстытуту з'яўляўся колішні дырэктар Службы знешняй выведкі РФ Яўген Прымакоў. Адзін з выпускнікоў гэтай ВНУ быў выяўлены сярод супрацоўнікаў расійскай Амбасады ў Беларусі.

Гэта Кірыл Анатольевіч Плятнёў, з 2018 года аташэ расійскай Амбасады ў нашай краіне. Нарадзіўся ў 1990 годзе ў Маскве. У 2014 годзе скончыў Інстытут міжнародных адносінаў Нацыянальнага даследніцкага ядзернага ўніверсітэту «МИФИ».

**Кірыл Плятнёў**



Праходзіў курс павышэння кваліфікацыі ў Дыпламатычнай акадэміі МЗС РФ па кірунку «Знешняя палітыка Расіі і сучасныя міжнародныя адносіны». У сферу навуковых інтарэсаў Плятнёва ўваходзіць глабальная і рэгіянальная інтэграцыя, двухбаковыя зносіны Расіі і ЗША, пытанні нераспаўсюду і кантролю над узбраеннямі, інфармацыйная бяспека. Валодае англійскай і нямецкай мовамі. Працаваў сакратаром-рэферэнтам Дэпартаменту ў пытаннях нераспаўсюду і кантролю над узбраеннямі МЗС РФ. Эксперт заснаванай дзяржавай недзяржаўнай арганізацыі «ПИР-Центр», якая займаецца вывучэннем глабальнай бяспекі, ядзернага нераспаўсюду, міжнароднай інфармацыйнай бяспекі і глабальнага кіравання інтэрнэтам, супрацьдзеяння новым выклікам і пагрозам.

Кірыл Плятнёў валодае патэнцыялам для навукова-тэхнічнай выведкі перспектыўных і інавацыйных навукаёмістых прадпрыемстваў, у тым ліку прадпрыемстваў ВПК Беларусі. Можа быць звязаны са Службай знешняй выведкі РФ.

Апроч дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Мінску, МЗС РФ мае консульскую ўстанову ў Брэсце. У зону яе адказнасці ўваходзяць Брэсцкая і Гродзенская вобласці. З чэрвеня 2015 года Генеральным консулам РФ у Брэсце з'яўляецца Ігар Юр'евіч Канякін.



**Генконсул РФ у Брэсце Ігар Канякін.** Фота brest.gov.by

Канякін нарадзіўся ў 1967 годзе ў Маскве, служыў у войсках сувязі ў Адэскай вайсковай акрузе. У 1994 годзе скончыў Інстытут краін Азіі і Афрыкі пры МДУ і Дыпламатычную акадэмію МЗС РФ. Кар'ерны дыпламат, агульны стаж працы ў сістэме МЗС складае амаль 30 гадоў. З 2001 па 2006 гады Канякін працаваў у расійскай дыпмісіі ў КНДР у якасці спачатку другога, потым першага сакратара, з 2009 па 2013 гады ён ачольваў консульскі аддзел расійскай Амбасады ў Беларусі, з ліпеня 2013 года быў начальнікам аналітычнага аддзелу консульскага Дэпартаменту МЗС РФ. Мае дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасланніка 2 класа.



**Удзельнікі расійскай акцыі «Бессмертный полк» у Брэсце.** Фота virtualbrest.by



**Брэсцкая фартэцыя ўначы з 21 на 22 чэрвеня 2019 года.** Фота facebook.com/RusConsBrest

Валодае англійскай і карэйскай мовамі.

Горад над Мухаўцом стаў месцам базавання падраздзялення расійскага знешнепалітычнага ведамства не выпадкова. Разам з Брэсцкай фартэцыяй Брэст ператвараўся для расіян фактычна ў другі Севастопаль — горад расійскай вайсковай славы. Расійская імперыякратыя здзяйсняе максімум высілкаў, каб горад знаходзіўся пад іх сацыякультурным і гуманітарным кантролем. На гэты момант, апроч Генкансулата МЗС РФ, у Брэсце праводзіць сваю дзейнасць таксама філія прадстаўніцтва «Россотрудничество», функцыянуе і актыўная мясцовая структура РГА «Русское общество».

Менавіта ў Брэсце (пра)расійскія сілы масава далучаюцца да штогадовага святкавання знаначальных і ключавых для іх датаў — 9 траўня і 22 чэрвеня, якія яны праз актыўнае правядзенне інфармацыйна-псіхалагічных спецаперацый намагаюцца ператварыць у прапагандысцкія акцыі «русского мира». Брэст з'яўляецца першым беларускім горадам, у якім пачынаючы з 2014 года гэтыя сілы арганізоўваюць шэсці так званага «Бессмертного полка», значная колькасць удзельнікаў якіх адмыслова прыязджае з Расіі.

Нягледзячы на афіцыйнае выкарыстанне ў Беларусі сімвалу Перамогі «яблыневая кветка», толькі ў 2019 годзе перад правядзеннем чарговага «Бессмертного полка» Генконсулат РФ правакатыўна і дэманстратыўна раздаў у Брэсце і Гродна больш за 12 тысяч (!) так званых «георгиевских ленточек», якія не толькі не маюць дачынення да ВАВ, але і з'яўляюцца сімвалам ваеннай агрэсіі і тэрарыстычнай дзейнасці РФ на тэрыторыі Украіны.

Вельмі паказальна, што расійскія ўдзельнікі практычна дамінавалі падчас мітынгу-рэквіему ў Брэсцкай фартэцыі, які адбыўся ўначы з 21 на 22 чэрвеня 2019 года.

Нягледзячы на тое, што дата была не круглая (78-я гадавіна пачатку ВАВ), на мітынгу прысутнічалі намеснік старшыні ўраду Інгушэціі Газіеў, старшыня Дзярждумы горада Іжэўска Гарын, кіраўніцтва адміністрацыі горада Серталава Ленінградскай вобласці. Сваіх прадстаўнікоў накіраваў нават Следчы камітэт Расіі. У канцэртнай праграме ўдзельнічалі гурты з Расіі, а ўсё мерапрыемства выглядала амаль як унутрырасійскае.

У красавіку 2019 года Канякін разам з прадстаўнікамі РГА «Русское общество» асабіста сустракаў ля ўваходу ў Брэсцкую фартэцыю ўдзельнікаў мотапрабегу «Дороги Победы — на Берлин», арганізаванага байкерскім клубам «Ночные волки», што знаходзіцца пад асабістай пратэкцыяй Пуціна. Байкеры правакатыўна трымалі ў руках у тым ліку і сімволіку тэрарыстычных утварэнняў «Л/ДНР».

У зону адказнасці Генеральнага консулату РФ у Брэсце ўваходзіць таксама і Гродзеншчына. Штогод з яго дапамогай, а таксама прадстаўніцтва «Россотрудничество», у Гродне ў траўні адбываецца Міжнародны фэст славянскіх баявых мастацтваў. Арганізатарам выступае мясцовае парамілітарнае казацкае фармаванне «Неманские казаки». Удзельнікамі зазвычай з'яўляюцца прадстаўнікі іншых казацкіх груповак, ваенна-гістарычных і праваслаўных ваенна-патрыятычных клубаў, суполкі рэканструктараў, навучэнцы кадэцкіх класаў.



**Будынак Генеральнага консулату РФ у Брэсце.** Фота realbrest.by

Працяг на стар. 19 »

Літаратурная Беларусь

Выпуск №1 (161)
(студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



## Змест



# Такім застаўся

Віктар НЕСЦЯРОВІЧ

**За дзесяцігоддзі жыцця мне выпадала сустракацца, мець зносіны з многімі выдатнымі людзьмі з ліку літаратараў, пісьменнікаў і паэтаў. Самыя блізкія адносіны склаліся з Нілам Гілевічам, земляком па Лагойшчыне, якую ма́ю права называць сваёй другой радзімай.**



**Ніл Гілевіч з пачынаючымі паэтамі ў студэнцкім калектыве. Справа налева Рыгор Барадулін, сядзяць Кастусь Цвірка, Алесь Рыбак, Генадзь Бураўкін, Анатоль Клышка. Аўтар успамінаў стаіць злева. 1954 г.**

Пазнаёміўся з ім і блізка сышоўся з першых месяцаў вучобы ў БДУ. Добра помніцца, як ранняй восенню пяцьдзясят першага года выпраўляліся мы ў прыгарадны калгас – дапамагаць выбіраць бульбу. Працавалі добрага паўдня, пасля чаго вярталіся ў вёску, дзе чакаў падрыхтаваны дбайнымі гаспадынямі сытны абед. Вольнага часу хапала, значную частку яго праводзілі ў сельскім клубе, дзе рыхтавалі сваю мастацкую самадзейнасць. На канцэрце незадоўга да ад’езду Ніл прачытаў свой верш, прысвечаны вяскоўцам, асабліва шчырыя радкі адрасаваў жанкам, якія па-мацярынску дбалі пра нас, часовых пастаяльцаў. Там жа, «на бульбе», Ніл Сымонавіч даверліва прызнаўся мне, што да яго болей чым прыхільна ставіцца адна наша аднакурсніца, і спытаў, што я наконт гэтага думаю. Мне заставалася толькі парадавацца за пачутае, што я і выказаў перапоўненаму шчасцем сябру. Закаханай пары нашы аднакурснікі, асабліва дзяўчаты, употай зайздросцілі і верылі, што справа ідзе да шлюбу. Так яно пазней і сталася.

Летам пяцьдзясят сёмага года, знаходзячыся на радзіме ў горадзе Беразіно, я атрымаў ад Ніла пісьмо такога прыкладна зместу: бяры, маўляў, лыжку-кружку і прыязджай на наша з Нінай вяселле. Запрашэнне я прыняў з пачуццём радасці і ў вызначаны час выправіўся ў дарогу, трапіў без малейшага спазнення на вясельную бяседу.

Сядзець за сталом выпала побач з ганаровым госцем-пісьменнікам Іванам Навуменкам, нашым выкладчыкам літаратуры і куратарам групы, якога мы ўсе вельмі паважалі. Трымаўся Іван Якаўлевіч у застоллі па-простаму, прапаноўваў раз за разам дасціпныя тосты.

Назаўтра вяселле працягвалася ў Нілавай Слабадзе, у бацькоўскай хаце. Весяліў усіх Нілаў дзядзька Аляксандр, гарманіст-самародак, весялун і жартаўнік.

Калі надышоў час разыходзіцца і госці вызначыліся з начлегам, Ніл прапанаваў мне: «А мы з табой, браце, пераспім у прыдатнай пуньцы, на сене». Спалася нам у тую ноч не горш, чым на якіх ложках.

Праз год мне стала вядома, што ў Гілевічаў нарадзіўся сын, і я не мог не павіншаваць іх з такой шчаслівай падзеяй. Прыехаўшы ў Мінск, падаўся на вуліцу Кузьмы Чорнага, дзе Гілевічы на той час займелі кватэру. Ніл Сымонавіч прыняў маё шчырае віншаванне, запрасіў да стала. Праз колькі хвілін да нас далучылася шчаслівая Ніна Іванаўна, прыгубіла кілішак. Пасядзела крыху, падзялілася са мной сваімі ўражаннямі ад паездкі ў Балгарыю. І калі я сказаў, што мне пара выпраўляцца да сястры, на вуліцу Чкалава, Ніл сказаў: «Куды ты пойдзеш, начуй у нас, месца хопіць». І я, падзякаваўшы, прыняў ягоную прапанову. Іхняга сына, названага Сяргеем, я пабачыў, падрослага, падчас адпачынку на возеры Нарач, дзе Гілевічы праводзілі свой вольны час. Ніл Сымонавіч пахваліўся, што сын праяўляе вялікую цікавасць і любоў да акаляючай прыроды. А таму і невыпадкова, што ён пасля заканчэння школы і ўніверсітэта паступіў у аспірантуру, атрымаў званне кандыдата біялагічных навук, уладкаваўся на працу ў інстытут Нацыянальнай Акадэміі Навук. Пры чарговым наведванні Ніла Сымонавіча я застаў яго сына ў пярэднім пакоі, калі той рыхтаваўся да выхаду. Звярнуў увагу, што Сяргей увесь удаўся ў бацьку.

На малой Нілавай радзіме, у вёсцы Слабада, мне выпадала бываць шматразова, заходзіць да яго блізкай радні. Гасцінна сустракала мяне яго старэйшая сястра Ліна Сямёнаўна, якая з універсітэцкім дыпломам (а вучылася яна завочна на філфаку БДУ) многія гады настаўнічала ў Гайненскай школе. Там жа, у Слабадзе, займеў сваё дачнае месца малодшы брат Аляксандр, які доўгі час служыў у авіяцыі і выйшаў у адстаўку ў званні маёра. На бацькавай сядзібе асталяваўся як дачнік і другі Нілаў брат, Мікалай, беларускі пісьменнік, вядомы чытачам пад псеўданімам Мікола Гіль.

Аднойчы, калі я разам з напарніцай, займаючыся зборам экспанатаў для раённага музея, завітаў у Слабаду, на вясковай вуліцы сустрэў Мікалая Сымонавіча. Пасля прывітання ён мяне проста ашаламіў, сказаўшы: «А ў нас, браце мой, такая бяда». У мяне міжволі вырвалася: «З Нілам што здарылася?» Мікола вымучана прызнаўся: «Ніл, слава богу, жывы і здаровы, толькі Ніна цяжка хварэе, баюся, што невылечная яна». Зайшлі, запрошаныя, у хату, паслухалі сумную споведзь паніклага Мікалая Сымонавіча.

Праз нейкія месяцы два прачытаў у газеце «Літаратура і мастацтва» некралог-спачуванне, адрасаваны Нілу Гілевічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора – заўчаснай смерці жонкі Ніны Іванаўны.

Боль страты самага дарагога чалавека Ніл Сымонавіч праз усе астатнія гады насіў у сваім сэрцы. Кожны раз пры наведванні яго звяртаў увагу на партрэт, на якім яна, Ніна Іванаўна, такая, якой была ў далёкія студэнцкія гады.

Ягоную адзіноту развейвалі шматлікія блізкія для яго людзі з ліку творчай інтэлігенцыі. Ледзь не штодня наведвалася малодшая сястра Святлана, якая жыве ў Мінску. Сам ён апошнія гады не выходзіў з дому: быў слабы на нозе.

Вечарам сакавіцкага дня я пачуў сумную вестку аб смерці Ніла Гілевіча. Назаўтра ж паехаў у Мінск, каб развітацца з адышоўшым у небыццё. У храме на Нямізе каля ягонай труны выказаў спачуванні Нілавым сваякам. Пра ўсенароднае прызнанне аднаго з класікаў айчыннай літаратуры сведчыў бясконцы паток людзей, якія ішлі з букетамі ў руках, каб аддаць даніну павагі славутаму сыну беларускай зямлі...



**Бацькоўская хата**

# Дзе сэрца ў кабанчыка



Міхась ЗІЗЮК

**Бабуля Алена ішла сама не свая. От жа нядоля, от жа трэба было нарабіцца. От, мабыць, насніла сёння. Прысніла ўначы, што некалькі пачварных пацукоў круцяцца каля хаты. Круцяцца, пысамі свамі вусатымі вынюхваюць нешта. А яна гоніць іх са двара, гоніць. Ды пацукі не ідуць. Вось і насніла. Гэта ж заўчора дамовілася з Сашам Саволікавым, што заколе кабанчыка. Той адказаў, як заўсёды, калі паракуліць сто грамаў:**

— Гут, Алена Іванаўна, зробім як мае быць! У суботу ранічкай чакай.

Яна ўжо і сыну ў Мазыр патэлефанавала, і дачцэ ў Гомель. Прыедуць у нядзельку, забяруць і сальца, і мяска, і паляндвічкі. Ды і кілбаскі паспее зрабіць. Ат, хай унукі паласуюцца. Бо што яны ў тым горадзе?.. Ядуць гэну хімію. А ў яе ўсё сваё, кабанчыка карміла толькі мукой з бульбачкай, ды малачка падмешвала. Добры кабанчык, спраўны, хлёбаў, аж вушы целяпаліся, папраўляўся хутка.

Ну во, дамовілася з Сашам. Сёння зайшла, а яго няма.

— Ох, бабуля Алена, бяда. Забрала Сашу ноччу хуткая. Дрэнна яму зрабілася ўначы, скруціла яго. Я вызвала хуткую. Прыехалі, забралі. Кажуць, што на апендыцыт падобна. Мо і рэзаць будуць, — са слязьмі ў голасе паведаміла яго жонка Таня.

От жа нядоля, што рабіць? Пайшла да Вані Пракопчыкавага. А той заняты. Сёння дзвюх свінак, казаў, б'е: у Волі Апанасавай ды Ніны Хуцыкавай. Яно і зразумела. Снежань. Усе ўзяліся да Каляд калоць свіней. Бульбы няшмат, на маладых парасят каб хаця хапіла. Да таго ж вёска не вельмі такая ўжо і вялікая. Такіх спраўных байцоў во толькі двое: Саша ды Ваня. А так — у каго гаспадара няма, а дзе адно трутні, што гарэлку жлукцяць, а свінча не разбяруць. Нехта на працы...

Вось што цяпер рабіць? Гэта, каб не патэлефанавала Марыйцы ды Паўліку, то, мо, і нічога. А то тыя ўжо ехаць сабраліся. Ды і кабанчыка звечара амаль не карміла. Як выходзіла, вярнуў зранку лычом дзверы. Вось і йшла бабуля Алена сама не свая. Ішла па рыпучым снезе, глядзела пад ногі, разважала сама з сабою. І ледзьве не сутыкнулася нос у нос з Пецем Гаўрылкіным. Пецян, худы і нядошлы, з рабаціннем на твары, год каля сарака, вядомы ў вёсцы сабутэльнік і хаўруснік, працаваў толькі тады, калі ўздумаецца, ад учарашняга яшчэ нічога не паспеў выпіць. Унутры ўсё круціла, нос свярбеў, вочы касавурыліся.

— О, Алена Іванаўна! Што гэта з вамі? Перад сабой нічога не бачыце. Ці да мужчын сталі заляцацца? То я не стары яшчэ. Магём, — нязграбна паспрабаваў пажартаваць Пецян.

— Эх, Пецечка, мне не да жартаў. Якія мужчыны ў мае гады... Жыў бы мой Ваня, ці ж быў бы ў мяне такі клопат, — паскардзілася бабуля Алена.

— А што здарылася, Іванаўна?

— Дык во, бяда, Пецечка. Гэта ж дамовілася з Сашам Саволікавым, каб кабанчыка забіць. А яго хуткая забрала ўначы. Таня кажа, што апендыцыт. І Ваня заняты. Я ўжо і дзеткам паведаміла, што кабанчыка закалю, заўтра прыедуць. І што мне рабіць? — развяла рукамі бабуля Алена.

— Хм, то не бяда, Іванаўна. Я тых кабанчыкаў заваліў — ого-го. Швагер мой, Калян, не раз дапамагаў. Так што вы толькі загадайце!

— Праўда, Пецечка? — узрадавана пляснула рукамі бабуля. — Ты не хлусіш?

— Што вы, Іванаўна. Калян пацвердзіць. Во, пару тыдняў назад маёй цётцы Сцепанідзе свінню забілі. Вы ж яе ведаеце, у Выселках жыве. Так што мы да абеду справімся, — як бы запэўніваючы яе, Пецян так ляпнуў далонню ў свае худыя, кашчавыя грудзі, што аж закашляўся, — кхе-кхе, у мяне дома і швайка ёсць, і лямпа. Дык што, зваць Каляна?

— Заві, Пецечка, заві, даражэнькі. Я тады пабягу рыхтаваць усё, што патрэбна, — шчаслівая бабуля Алёна паімчала дахаты.

Па праўдзе кажучы, Пецян сам не закалоў яшчэ ніводнага кабанчыка. Дапамагаў не раз, даводзілася, а калоць не калоў. Ды выпіць надта хацелася. Зробіць, што там кабанчыка завраліць... А разабраць швагер дапаможа. З такімі думкамі Пецян паспяшаў да Каляна.

Праз паўгадзіны ў двор бабулі Алены зайшлі Пецян і Калян. Калян, заўсёды нязголены, чырвонатвары мужчына, у адрозненне ад Пеці, нідзе не працаваў. Але заліць за каўнер умудраўся, нейкім дзіўным чынам, штодзень. І пажадана яшчэ з раніцы. Таму, толькі ўвайшоўшы на падворак, ён заявіў:

— Яно б і па сто грам не пашкодзіла. А то што ж калоць на сухую, не тое сальца будзе!

— Так, так, — заківаў Пецян, — вы ж разумееце, Іванаўна.

Іванаўна разумела. Таму яна не пярэчыла, а вынесла з хаты запыленую пляшку вясковай самагонкі, два кілішкі, дзве лусты хлеба, некалькі скрыдлікаў леташняга сала ды міску храбусткіх салёных агуркоў.

— То будзь здарова, Іванаўна, — Пецян з Каляном кульнулі па кілішку.

— Добра пайшла, халера, ага, — раззадорыўся Калян, — давай яшчэ па адной.

Бабуля Алена нядобра пакасілася, але змаўчала. Байцы кульнулі яшчэ па разу.

— Надвор'е някепскае, эх, — хакнуў Пецян, — марозік слабенькі, снегу падкінула. Харашо...

— Ага, сама кабанчыка калоць, — пагадзіўся Калян, — ну, давай яшчэ па адной.

— Што ж вы, хлопцыкі, — ужо зазлавала бабуля Алена, — працаваць прыйшлі ці гарэлку піць?

— Іванаўна, бог троіцу любіць, — умольна загаварыў Калян, — мы па кропельцы, і ўсё.

Яны кульнулі яшчэ па «кропельцы». У пляшцы засталося меней паловы. Бабуля Алена выхапіла недапітую пляшку з рук і панесла ў хату. Пецян і Калян са шкадаваннем паглядзелі ўслед.

— Добра, дзе кабанчык? — рушыў наперад Калян, трымаючы ў руках вяроўку. — На колькі кіль пацягне, Іванаўна?

— Ды невялічкі, Колечка, невялічкі. Мо кіль сто пяцьдзясят будзе. Спакойны такі, рахманы, — затупала наперадзе старая.

Кабанчык не чакаў гасцей, а гаспадыню з вядром. Таму ён скасавурыўся на Пецю і Каляна, сярдзіта тыцнуў лычом у загарадку і гучна рохнуў.

— Ого! — працягнуў Калян і прысвіснуў. — Дык тут жа шмат болей, як дзвесце кіль... А вы казалі... Уга, завалі гэтага дыназаўра...

— Нічога, — бадзёра гукнуў Пецян, якому хмель ужо добра цюкнуў у галаву. — Справімся. Ты толькі добра трымай вяроўку. Я яго торкну — ён і пікнуць не паспее.

Кабанчык не хацеў здавацца. Ён нібы зразумеў, што жыццё пад пагрозай, і замітусіўся па хлеўшку, прадчуваючы нядобрыя намеры мужыкоў.

— Дзюдзька, дзюдзька, — склаў пальцы Калян, падзываючы кабанчыка, — не бойся, ідзі.

Але той баяўся. Ён не даваўся Каляну. Пецян палез дапамагаць, але і ён не змог злавіць кабанчыка. Адно толькі паваліўся і выпацкаўся ў гной. Байцы аж узапрэлі, ганяючы бедалагу, пакуль бабуля Алена не прынесла свінчаку гасцінец. Яна падсунула парсюку вядро, і той задаволена зацмокаў. А Калян у той момант паспеў прасунуць пятлю пад заднюю нагу. Сілком кабанчыка выштурхалі на вуліцу. Ён сярдзіта рохкаў, круціў лычом ды павісквазў. Пецян піхаў яго ў азадак.

— Усё, давай, — загадаў Пецян і схапіў ахвяру за пярэднюю нагу.

Калян падсёк кабанчыка і пацягнуў вяроўку. Вяроўка напялася. Парсюк зваліўся на спіну і заверашчаў на паўвёскі. Дружна, як па камандзе, забрахалі сабакі. Парсюк затурзаўся з усіх сіл, стараючыся вызваліцца. Пецян выхапіў швайку правай рукой, левай трымаючы кабанчыка за нагу. Заліхвацкі асядлаў яго і раптам разгублена павярнуўся да Каляна:

— Слухай, а дзе ў яго сэрца? З якога боку, га?

— У ср...цы! — рыкнуў Калян. Яго твар пачырванеў ад натугі. — Бі хутчэй, бо доўга я не ўтрымаю гэтага быка.

Пецян, не доўга думаючы, усадзіў швайку пад правую лапатку. Кабанчык заверашчаў так, што Пецян з Калянам, здавалася, аглухлі. Ён тузануўся яшчэ мацней, падскочыў і вырваўся з-пад Каляна. Калян спрабаваў схапіць вяроўку, ды дзе там... Кабанчык замітусіўся па надворку, разварочваючы ўсё на сваім шляху. Вось загрымелі вёдры з вадой, тазы, за імі паляцеў на зямлю ўслон з мешанкаю для каровы, мех з мукою ля ганку. Хрупнуў кол, што трымаў вяроўку з развешанай бялізнай...

Бабуля Алена паспела схавацца ў хлеў, да каровы. Адзінае, што аказалася прыдатным, — веснічкі на вуліцу. У іх і кінуўся парсюк.

Гучна рохкаючы, ён пратараніў брамку, зваліў яе набок і з віскам панёсся па вуліцы. За ім цягнулася вяроўка і ружовы след на снезе. Следам, мацюкаючыся адзін на другога, спяшаліся Пецян і Калян. А ўжо недзе адзаду войкала і галасіла бабуля Алена. За кабанчыкам закруціліся, ашчэрыўшы зяпы, суседскія сабакі. Уся працэсія панеслася па нешырокай і заснежанай вясковай вуліцы. У вокны, сям-там, выглядалі здзіўленыя твары. Сёй-той, адзеўшыся, выйшаў на вуліцу. Запалоханы да смерці кабанчык імчаў як алімпійскі чэмпіён. У Каляна і Пеці амаль не было шанцаў дагнаць яго. Але, на бяду парсюка, насустрач яму, з суседняй вуліцы, выехаў трактар з прычэпам сена — і закрыў дарогу. Той ледзь не тыцнуўся носам у страшнае грукатлівае жалеза і павярнуў ад страху назад. Сілы ды імпэт яго аслаблі, бег ён ужо не так хутка. На паўдарозе Пецян з Каляном злаўчыліся схапіць за вяроўку.

— Трымай, хутчэй трымай! — сярдзіта крычаў Калян. — Я сам буду валіць яго!

Пецян залыпаў вачыма і затупаў на месцы, цягнучы вяроўку. Неяк яны ўкоўзалі кабанчыка. Калян выхапіў прыхопленую з сабой швайку і ўсадзіў парсюку пад левую лапатку. Бедалага зноў заверашчаў, растрывожыўшы цяпер ужо ўсіх сабак на вёсцы, затурзаўся і стаў аціхаць. З паўхвіліны кабанчык яшчэ спрабаваў адолець нечаканую навалу, шкроб заднімі нагамі, спрабаваў вішчаць, але дарэмна.

— Ну, кажысь, усё, — выцер змакрэлы лоб Пецян. — От здаровы, халера.

— Ён не такі здаровы, як ты ёлуп! — вылаяўся Калян. — Што, з глузду з'ехаў? Лупіш у правы бок.

— Ды гэта я, нешта, разгубіўся, — спрабаваў апраўдвацца Пецян, — папутаў, дзе правы, дзе левы бок.

— А воечцы, а людцы, што ж гэта робіцца! — загаласіла падаспелая бабуля Алена.

— Ціха, Іванаўна, — абарваў яе Калян, — давай санкі, ды пацягнем кабана на падворак. Нечага тут шпіктаклю разводзіць...



Фота www.oka.fm

**Ледзьве не паўвёскі высыпала на вуліцу. Бабуля Алена па дарозе паспела паскардзіцца сяму-таму з аднавяскоўцаў пра здарэнне. Любая навіна хутка разносіцца па вуліцы, а ўжо гэтакая... Даведаўшыся, многія сабраліся пазубаскаліць.**

За гэты час ледзьве не паўвёскі высыпала на вуліцу. Бабуля Алена па дарозе паспела паскардзіцца сяму-таму з аднавяскоўцаў пра здарэнне. Любая навіна хутка разносіцца па вуліцы, а ўжо гэтакая... Даведаўшыся, многія сабраліся пазубаскаліць. Такога на вёсцы не помнілі: каб гэта кабанчык уцёк з-пад швайкі ды за ім ганяліся па вёсцы!.. Таму, калі Пецян і Калян цягнулі кабанчыка на санках, іх суправаджалі гучны смех, рогат і кпіны:

— Гэй, як дзік? Мо яшчэ жывы?

— Ага, торкні яму швайкай пад зад, гы-гы-гы.

— Ды не, у яго ж сэрца з правага боку, ха-ха-ха.

Сцяўшы зубы ды згорбіўшы плечы, тыя моўчкі цягнулі санкі пад рогат аднавяскоўцаў. Хмель, збольшага, паспеў прайсці. І адчуванні былі не самыя прыемныя. Ды назад нічога не вернеш...

З таго часу па вёсцы і пайшла гуляць пагалоска пра сэрца ў кабанчыка. Калі хто-небудзь занадта «зарываўся», паводзіў сябе вельмі самаўпэўнена, не ведаючы добра таго, што трэба рабіць, у яго пыталі:

— Пачакай, браток. А ты хоць ведаеш, дзе сэрца ў кабанчыка?

# Усё па крузе...



Васіль ЗУЁНАК

### На спачын...

*Дзе рака гайдала плёсы,*
*Стыне хвалісты шурпак,*
*Ледзяную корку носам*
*Выпрабоўвае шчупак.*

*Пад вярбою заінелай*
*Вір суняў свой калаўрот,*
*І крынічка анямела —*
*Як вады набрала ў рот.*

### А першы снег...

*А першы снег —*
*як першы дзень тварэння:*
*Усё без нараджэння і старэння,*
*Усё адвечнае і вечнае.*
*І ўсё*
*Такім датклівым і бясспрэчным*
*стане...*

*І невядомасць у душы нясём,*
*Што знікне ўсё*
*і ў вечнасці растане.*

*Як першы снег...*

### Зімовая рыфма

*Слова бяздумнай снежкай*
*Цаляе ў сэрца зімы,*
*І ў пушчу, цераз паплавы,*
*Туды, дзе зімуюць грамы,*
*Рэха завейнаю сцежкай*
*Коціцца без галавы.*

### Усё па крузе...

*Бяда: няма задзірыстай зімы, —*
*Лясы хірэюць і рыхлеем мы.*
*Слабее гарт у немачы адліжнай,*
*І ў абалоні раскісаюць стрыжні.*

*Не зведаўшыя духу маразоў,*
*Не ў зруб вянцы, а так — адзін назоў:*
*Як хлеб ацеслівы, марнуецца бярвенне,*
*Не абяцаючы ад халадоў збавення.*

*Усё ў прыродзе йдзе па крузе тым:*
*Цяпло марозам творыцца крутым.*

* * *

*У сэрцы кволіцца апошняя крывінка,*
*А ў снах — з-пад снегу —*
*дыхае травінка...*

* * *

*Да зорак вечар адчыняе дзверы, —*
*Гуртуецца касмічная сям'я.*
*Лячу туды — і сам сабе не веру:*
*Я пабрацім там ці выгнаннік я?*

*Былі і да мяне такія ўчора*
*І заўтра будуць...*

*Ды на той мяжы*
*Што скажуць мне ці ўжо сказалі зоры?*
*Ці я раней за іх у свеце жыў?*
*Ці я забыў што і ніяк не ўспомню?..*

*А неба ўсё трымае на замках*
*І на мяне глядзіць халоднай поўняй*
*Са спачуваннем, — як на дзівака...*

*Ну што ж: дзівак, —*
*Няхай і так.*
*А ўсё ж цікава: зоркі, што над хатай,*
*Вяшчуюць мне*
*Знікненне*
*Ці пачатак?..*

### Не трымай...

*Вясна, — перасяленне душ*
*З турмы халоднага чакання.*
*Вясна, — прылёт і звеставанне...*
*І волю крылаў не паруш.*

*Як божы дар яе прымай.*
*Адолей дзён цераспалосіцу.*
*Калі душа ў нябёсы просіцца —*
*То адпусці і не трымай.*

### Як арганы...

*Суняліся зімы скавышы,*
*Сонцам шкляцца аконныя рамы.*
*А са стрэх — ледзяшы, ледзяшы, —*
*Як арганы ў вясновых храмах.*

### Наваселле

*Мы са шпаком замочвалі шпакоўню, —*
*З усходам сонца ўсім было па поўнай,*
*Налітай да краёчкаў, звонкай песні.*
*Яе мы шчодра кожнаму паднеслі:*
*Частуйцеся!..*

*А вы — не каштавалі?*
*Ні кропелькі?!.*

*Ну, значыць, вы праспалі...*

### Дзве прыказкі

*Хіба пачыналася Русь з Масквы?*
*Адкуль той маскоўскі флюгер,*
*Што першародства вяшчуніць правы*
*З дамескам імперскай патугі?*

*Вякоў татара-мангольскі замес*
*Не гасне ў дзяжы славянскай:*
*Форма — ноў хаў, да бляску! — а змест —*
*З водарам выпечкі ханскай.*

*Спялілася семя не век і не два,*
*Пратручвалася ў пакаленнях...*
*Аднак Русь ёсць Русь.*
*А Масква ёсць Масква —*
*Няма ні Дняпра, ні ў Дняпры*
*Хрышчэння.*

*І першародства, ні даць ні ўзяць, —*
*Яно гісторыяй не прадаецца...*
*Тады ў першаўладцы сябе навязаць*
*Выйсце адзінае застаецца.*

*І перша-чыноўны ва ўсім і наскрозь,*
*І перша-саюзнік ратны,*
*І перша-сябра, і перша-госць,*
*І перша-крэўнік братні,*
*І перша-пакутнік за ягамосць,*
*І перша- ва ўсім астатнім...*

*Калі сядзіць у цябе на куце,*
*П'е за здароўе і хваліць стравы,*
*Дружбы густыя сеці пляце,*
*Каб слугавала ўпраўна.*

*Калі ж надарыцца быць бядзе,*
*Падказвае прыказка добрыя дзверы:*
*Язык да Кіева давядзе,*
*А вось Масква і слязам не паверыць...*

* * *

*Паэзія?*
*Гэта хто?*
*(Хто — а не што!)*

*Гэта я —*
*Жыцця трагічным гарэзнікам.*

*Гэта я —*
*Астатняе ўсё за бартом.*

*Я п'ю —*
*Астатняе ўсё ў выцвярэзніку...*

*Паэзія?*
*Гэта не толькі я —*
*Гэта сусветная наша містэрыя.*

*Кожны з існых са мной на паях,*
*І кожны ў мяне ў падмастэр'ях.*

*Як свет ёсць свет,*
*Так кожны ў тым свеце паэт.*
*У тым, а не ў гэтым.*

*У гэтым: трымайся не стаць*
*У геніяў раць*
*Разменнай манетай.*

*«Не служывы*
*Ў свеце нажывы?!» —*
*Сумненнямі аблажылі...*

*І з каранямі вырвалі?..*

*А паэзія?!*
*Як зоры прываражылі:*
*Я з ёй — у выраі.*

*Паэзію*
*Бог у тварцы прыняў —*
*Зямное да неба выйсце нам.*
*Хто ў свеце ілжывым ёй раўня?*
*Толькі яна —*
*Ісціна.*

### Сцяна

*Фарысеі! Замаўзалеена*
*Ўся гісторыя вамі ў труну.*
*Ад цара Майсея да Леніна*
*Вы ўзвялі вашай праўды сцяну.*

*Каб не мог мне аднойчы пабачыцца*
*Сэнс наіўны: «А што там за ёй?»,*
*Каб стаяла яна наглядчыцай*
*Паміж небам маім і зямлёй...*

### Ты прыйшла...

*Юнай іспанцы, якая ўлюбёна вывучыла беларускую мову, піша на ёй вершы, — словы з іх пранямяцца тут паэтычнымі святлінкамі...*

*Год — дзве тысячы дзевятнаццаты,*
*Нумар часопіса — першы:*
*Паэтычная каранацыя —*
*Дэманструюць дзяўчаты вершы.*

*Гэта ў іх задума такая?*
*Ці проста выпадак з хітрынкай:*
*То верлібрам, то рыфму гукаюць*
*Дзве Вольгі і Кацярына.*

*І — «няўзнак»: «Я прыйшла з ніадкуль...» —*
*А дакладней сказаць: прыляцела —*
*Беларусі дажджынкаю на шчаку —*
*Эспіноса Руіс Анхела.*

*«Я прыйшла з ніадкуль мімалётным*
*святлом,*
*І раптоўнай натхнёнай думкай,*
*Лёгкім подыхам, сном — я прыйшла*
*з ніадкуль:*
*Уся вечнасць адным пацалункам...*
*..........................................*
*Я прыйшла з ніадкуль —*
*і твой дождж палюблю,*
*Тваю цемру, балота, туманы...*
*Вось адзіны мой грэх:*
*я прыйшла з ніадкуль,*
*Пакахала цябе я зарана...»*

*Ты прыйшла —*
*Беларускай зямлі паслужыць,*
*Ты прыйшла да першаасновы —*
*Каб забыўлівым сцвердзіць:*
*«Беларусь будзе жыць...*
*...там, дзе памяць, дзе мова...»*

*Ты прыйшла —*
*У стыхіі марской з-пад крыла,*
*«Нібы з грому», — як водгулле*
*землятрусаў...*
*Чыстакроўнай іспанкай з табою прыйшла*
*Беларуская мова да нас, беларусаў.*

*Дабратворнай хай будзе дарога твая —*
*Не пытайся: «Дазволь мне застацца...»*
*Ты на покуць прыйшла — не ў парозе*
*стаяць.*
*Ты нам крэўная — што тут пытацца!..*

*Пачувайся, Анхела, — свая між сваіх!*
*Добры знак над тваім прышэсцем!..*
*І пабольш бы даў Бог нам іспанак такіх —*
*З-пад Гародні, з-пад Менска, Бярэсця!..*

### Час адыходзіць...

*Час адыходзіць, забіраючы ўсё сваё, —*
*Барахло: прызначэнні, абранні,*
*Вокліч гісторыі: «Ё-маё!..»*
*Пад пыху мужоў на тэлеэкране,*
*І абяцанні шчодрых зязюль,*
*Калі ні капейкі ў кішэні,*
*І заляцанні двухногіх казуль,*
*І школьнай задачы рашэнне,*
*І спадзяванні новых сустрэч,*
*І спачуванні даўно мінулых,*
*І самавар — пенсійную рэч —*
*Са ступай і таўкачом агулам,*
*І абшарпаных дарог сакваяж,*
*І неруш грыбоў у мінулым леце,*
*І сувенірны разбіты муляж,*
*І недапітую пляшку ў буфеце... —*

*Усё заграбае час, —*
*Як злодзей, шануючы вас...*

*А што ж застаецца мне?*
*Ці час і мяне не міне?..*

*Маўчанне... — такі адказ.*
*Не думае час пра нас...*

### Прабачэнне

*Такое больш не здарыцца павек.*
*Не зразумець: ці страціў, ці знайшоў.*
*Жыццём пакліканы аднойчы чалавек —*
*Узяў і адгукнуўся. І прыйшоў.*

*І то — быў я. З надзеяй на мяне*
*Жыццё глядзела ў будучынь сваю...*
*Прабач, жыццё, што па тваёй цане*
*Не разлічыўшыся, перад табой стаю...*

*Для паўтарэнняў не даецца шлях...*
*Прабач, жыццё, што я ў цябе гасціў,*
*Раскашаваў на дармавых паях...*
*Прабач, жыццё... А зараз адпусці...*

* * *

*Крадком, крадком*
*Надзор*
*За радком.*
*Саступкі не малю —*
*А раптам ды злаўлю!..*

### Аб велічы

*Хто малы, хто вялікі, не дзелячы,*
*Жывём без пакут аб велічы.*
*Жывём не дзеля прыліку,*
*Жывём, бо нас Бог паклікаў.*
*Жывём, лёс лагодзячы скрушны,*
*Адольваем час завірушны.*
*Жыць напаказ не ўмеючы,*
*Не тоім зайздрасці велічным.*
*Жывём суседзям не ў піку,*
*Між злых не стаім на ўліку.*
*Закон у нас непарушны:*
*Няпомслівы і вялікадушны.*
*Жывём жыццю не ў пазыку.*

*І тым народ наш вялікі.*

### Новаму высакоснаму году

*Хай будзе высакосны*
*Не косны і не посны,*
*Для праўды — бацька хросны,*
*Не ўскосны, не адносны —*
*Галосны ды не злосны.*
*Хай будзе ён укосны,*
*Хай будзе хлебаносны,*
*І росны, і не млосны, —*
*Высокі высакосны!*



Віктар САЗОНАЎ

# Сумная гісторыя

## Урывак з аповесці

**У белым, як Паўночны полюс, пакоі дзесяць на дванаццаць метраў маўкліва і стомлена стаяла такое ж белае, нібы Паўднёвы полюс, інваліднае крэсла. Яно было абцягнутае пяшчотнай, тонкай, мяккай, далікатнай і добра апрацаванай скурай, таксама белай, і нахабна, як вульгарная жанчына ў кампаніі падвыпітых і ўзбуджаных мужчын, размяшчалася пасярэдзіне пакоя, нібыта падкрэслівала тым сваю значнасць і запатрабаванасць у гэтай абмежаванай белымі сценамі прасторы.**

Інваліднае крэсла сваёй дасканаласцю і прадуманасцю разнастайных электрамеханічных прылад адразу з першага ж позірку выдавала кошт самага шыкоўнага і дарагога лімузіна, на якім могуць сабе дазволіць ездзіць толькі кіраўнікі краін, уладальнікі буйнога бізнесу, мільярдэры, дыктатары, босы мафіёзных структур і іншыя фартовыя бандыты. Ну, а ўзроўнем камфорту і ўтулкам тое крэсла, здавалася, перавышала свежыя дзіцячыя памперсы, якія толькі што купленыя ў бліжэйшым супермаркеце і яшчэ не распакаваныя. Хоць па настроі, калі настрой бывае ў крэслаў, яно нагадвала старую, ужываную, паламаную і выкінутую на вайсковы склад для ўтылізацыі салдацкую табурэтку. Зрэшты, падобны кантраст знешняга выгляду і настрою быў не толькі ў інваліднага крэсла.

Сам пакой быў настолькі белы, светлы і чысты, што сваёй дагледжанасцю выклікаў нейкую навіслую над душой таямнічасць і трывогу, якія ў сваю чаргу абуджалі ўнутраныя страхі, нібыта тут знаходзіцца добра прыбранае месца жудаснага злачынства. І нават спакойныя твары навукоўцаў мінулага, якія ў выглядзе партрэтаў віселі на сценах у белых рамках, ні на ёту не змяншалі тых трывожных пачуццяў.

Акрамя партрэтаў бездакорную роўнасць адной са сцен парушаў светлы кандыцыянер. Больш белы пакой, акрамя пераліч аных, не засмечвалі аніякія неадушаўлёныя прадметы. Нават пылу не было. Усё стэрыльна, як у аднаразовым шпрыцы да пачатку яго выкарыстання.

Вось у гэтым крэсле, якое яўна было зробленае ўручную нейкім таленавітым майстрам, задуменна і хмурна сядзеў у самоце стомлены і сумны розум. Прынамсі так, і толькі так ён сам сябе характарызаваў, той розум.

А што яму, ён жа тут галоўны! Розум, усё ж, а не дрэнь з-пад плоту! Як хоча, так і характарызуе сябе. Гэта ён тут усё зрабіў згодна са сваім светапоглядам. І пакой, і ўсё ў пакоі, і ўсё вакол пакою ў радыусе трыццаці пяці хвіліннага ходу яго крэсла на электрычнай цязе. І як загадаў, так і будзе! Гэта ён, той розум, сам вырашыў, што ён чысты, глабальны і касмічны... І голы, што бізун на дажджы...

Насамрэч гэты канкрэтны розум быў не такі ўжо і голы, як той змоклы бізун. Зусім не быў падобны на бізун. А ў дадатак гэты розум меў сваю ўласную чарапную каробку. Чалавечую. І ў ёй ён і размяшчаўся шчыльна і ўтульна, як яму і належыць ад прыроды, у матэрыяльным увасабленні, у выглядзе самых звычайных мазгоў з тымі двума паўшар'ямі, карой, падкоркай і ўсялякімі іншымі рэчамі, пра якія звычайныя людзі і не здагадваюцца. Хоць мазгі, ці, прынамсі, іх падабенствa, ёсць у кожнага.

Ну чалавек як чалавек, мужчына, худы, на выгляд гадоў пад пяцьдзясят, з невялічкім хвосцікам у якісці з бакоў ад гэтай лічбы, з гладка паголенымі ўпалымі і тонкімі шчокамі, апрануты ў светлы, але не зусім белы гарнітур і снежна белую кашулю, каўнер якой далікатна абдымаў і пасля плаўна спаўзаў паверх камізэлькі пад акуратна зашпілены пінжак.

Вось толькі самы звычайны на першы погляд чалавек не пагаджаўся з такой прымітыўнай трактоўкай яго вялікай персоны як самага звычайнага чалавека! Ён сам сябе лічыў у першую чаргу розумам! У другую чаргу таксама розумам! Гэтак жа, як і ў трэцюю, чацвёртую і пятую...

Прычым розумам геніяльным. Адным з самых геніяльных, а можа і самым-самым...

Злева ад інваліднага крэсла і свайго гаспадара ў тым крэсле маўкліва ляжаў пародзісты сабака, аргенцінскі дог, белы, з пастрыжанымі вушамі і з белым нашыйнікам. Нашыйнік упрыгожвалі заклёпкі і шыпы з бліскучага металу. Хутчэй за ўсё срэбраныя. А што?! Гэта ж дарагі сабака, пародзісты! Такога і срэбрам упрыгожыць не шкода.

— Толькі дасканалы мозг і працаздольнасць, адданасць сваёй ідэі і самаахвярнасць могуць прывесці да патрэбнага выніку, — прабубніў уладальнік белага крэсла, белага кабінета, белага сабакі і сабачага нашыйніка з срэбнымі заклёпкамі і шыпамі. — Ёсць толькі мозг. Усё астатняе — гэта дадаткі да яго, задача якіх карміць і перамяшчаць свайго ўладара ў прасторы туды, куды яму трэба, а таксама выконваць усе яго загады і капрызы...

Пасярэдзіне пакоя нясмела прыслухоўваўся да яго слоў падпёрты бакавінамі інваліднага крэсла шырокі стол, які сваім снежным колерам не псаваў агульнай гармоніі белага. Злева ад кампутарнага экрана ў беспарадку нахабна і вульгарна раскінуліся некалькі аркушаў паперы з надрукаваным тэкстам. Сярэдзіну стала займаў ужо акуратна складзены невялічкі стос паперы, на верхнім аркушы якога ляжала чарнільная ручка «Паркер» з залатым пяром. Адзіны чорны прадмет у пакоі, калі не лічыць тэксту на самой паперы.




**Ён геній! І толькі так ён мог раскрыцца ў сваёй геніяльнасці, як раскрываецца лотас ад промняў ранішняга сонца. Ён геній! А геніям дазволена ўсё, у тым ліку і грэблівае стаўленне да звычайных смяротных! Нават калі яны яго сябры.**

А там, на верхнім аркушы, няроўным, як курыца награбала, але дастаткова разборлівым і чытэльным почыркам знайшлі сабе месца пакуль што толькі два кароткія радкі:

«Каханая Наташа!
Я памятаю...»

Радкі яўна ні эстэтычна, ні паэтычна не падабаліся іх аўтару, таму далейшае стварэнне тэксту было часова спыненае на асэнсоўванне гэтых двух радкоў і на іх рэдактарскае паляпшэнне.

— Ніколі не думаў, што гэта будзе так цяжка, — прашаптаў мужчына ў прастору і цішу белага пакоя.

Прашаптаў ён гэтыя словы па-ангельску, хоць незакончаны тэкст на аркушы быў беларускамоўным.

Чалавек адкінуўся на крэсле і паглядзеў у столь. Белы колер столі быў маўклівы і халодны, і не збіраўся дапамагаць чалавеку з тэкстам. Чалавек перавёў позірк на сабаку, але зразумеўшы, што ў гэтай справе і сабака не памочнік, глянуў на сцены.

Сонечнае святло ранняй восені нахабна залівала іх залацістымі хвалямі праз шкляное акно, на якім не было ні жалюзі, ні занавесак. Нічога не было.

— Гэта ўсё казкі пра душу, пра несмяротнасць, і ўвогуле пра ўсё! Ёсць толькі мозг, — зноў парушыла безэмацыйную цішыню белага пакоя істота, якая называла сябе розумам. І дадала: — Вось толькі ён, мозг, і можа забяспечыць чалавеку несмяротнасць! Толькі ён! Ён...

Другая жывая ў гэтым пакоі істота ад чалавечага голасу крыху расплюшчыла вочы і ледзьве бачна павяла правым белым вухам убок інваліднага крэсла. Але праз імгненне, пераканаўшыся, што трывога была надуманай, і вочы і вуха вярнула ў ранейшы стан.

Задуменны чалавек у інвалідным крэсле левай рукой неахайна націснуў на адзін са шматлікіх гузікаў на электроннай панэлі свайго сядалішча, і адна з белых сцен паслухмяна расчынілася такога ж белага колеру дзверы, якія да гэтага моманту нават заўважыць было цяжка. Дакладней, рассунула іх. А ў праёме застукала па светлай падлозе тонкімі абцасамі маладая жанчына ў белым медыцынскім халаце.

— Слухаю вас, прафесар, — сказала яна роўным, вырáзным і прыемным голасам. Хоць прамаўляла з прыкметным акцэнтам, не зусім правільна выгаворваючы некаторыя ангельскія словы.

Візуальна маладая жанчына гадоў дваццаці нічым не саступала характару свайго голаса. Нават сабака пaглядаў на яе неяк не так, як на іншых наведнікаў. Яе цёмныя, густыя, доўгія і бліскучыя валасы, лёгкая смугласць скуры, густоўна кранутыя чырвонай памадай невялічкія пухлыя вусны ды іншыя далікатныя жаночыя рысы ледзьве не сіметрычнага аблічча, гэтак жа, як і акцэнт, выдавалі ў ёй нараджэнку адной з краін Лацінскай Амерыкі. Статная, хоць і не высокая фігура з усімі належнымі выпукласцямі толькі дапаўняла прыгажосць яе твару. Спакойная, цвёрдая і ўпэўненая паходка сведчыла пра прывілеяванасць яе ў гэтым пакоі.

Жанчына паслухмяна выпрасталася перад чалавекам у крэсле і цярпліва чакала ад яго загадаў.

— Марыя, ты была калі-небудзь закаханая ў мужчыну? — спытаў чалавек, які велічаў сябе розумам.

— О, прафесар, што значыць — ці была?! Я і цяпер закаханая, — спакойна адказала жанчына.

— І хто гэты шчаслівец?

— Гэта мой жаніх з Венесуэлы. Праўда, мы даўно не бачыліся, але стэлефаноўваемся кожны дзень. Ён пакуль што не можа атрымаць легальнай магчымасці эміграваць у Злучаныя Штаты да мяне. Бо мáе не самае лепшае мінулае ў сябе на радзіме. Цэлых дзве судзімасці. Але гэтую праблему мы ўсё ж некалі вырашым, і тады нас чакае законны шлюб і шчаслівая будучыня.

Пасля гэтай кароткай справаздачы мілагучнасць яе голаса ў сценах белага пакоя замяніла трывожная ціша. Марыя цярпліва чакала, аніводным рухам або гукам не парушала глыбокай задумлівасці прафесара.

— А ці змагла б ты здрадзіць свайму каханню? — зноў затлела іскарка жыцця ў шэрых вачах прафесара.

— Гэта як? — не зразумела Марыя.

— Проста. Ці магла б ты адрачыся ад свайго кахання дзеля чаго-небудзь іншага. Дзеля чаго-небудзь больш важнага, чым каханне?

— Не, — цвёрда адказала жанчына. — Няма нічога больш важнага, чым каханне.

— Ну так, ну так... А ў мяне было гэтае больш важнае, чым каханне... У мяне яно было... І цяпер ёсць... Я кінуў сваё каханне ў сябе на радзіме, у Беларусі, калі з'язджаў у ЗША. Кінуў, як кепскі гаспадар кідае свайго вернага сабаку, які перастаў быць патрэбным, — патлумачыў ён.

І зноў задумаўся. Цяпер ужо над сказаным. Так яно ўсё і было, як ён распавёў. Ён кінуў сваю дзяўчыну там, на радзіме, як кідаюць цяжкі груз перад тым, як пераплысць імклівую, шырокую і глыбокую рэчку. Кінуў, каб самому пераехаць праз жалезную заслону Савецкага Саюза сюды, у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе яго далёкія

сваякі маглі ў такім разе пакінуць яму невялічкую прыватную медыцынскую клініку...

Медыцынская клініка! Прыватная!!! Гэта была мара яшчэ да ягонага нараджэння. З ёй ён адбываў свой дзевяцімесячны тэрмін ва ўлонні маці! І нарадзіўся ён з ёй, з той адзінай марай, і можа толькі дзеля яе і нарадзіўся! І дзеля яе, дзеля гэтай белахалатнай мары, ён мусіў кінуць і каханне, і сяброўства, і знаёмых...

І меў на тое поўнае права! Так ён думаў. І ў тым быў больш пераканаваны, чым у стэрыльнасці чыстага медыцынскага спірту. Бо ён геній!

Ён не сумняваўся ў тым. Ён геній! І толькі так ён мог раскрыцца ў сваёй геніяльнасці, як раскрываецца лотас ад промняў ранішняга сонца. Ён геній! А геніям дазволена ўсё, у тым ліку і грэблівае стаўленне да звычайных смяротных! Нават калі яны яго сябры, і нават калі сярод іх ёсць каханая...

Яго тагачасны асяродак, уключаючы і сяброў, і каханую, быў цяжкім грузам... А мэта апраўдвае сродкі... Так яго вучылі з дзяцінства... Яшчэ ў савецкай школе так вучылі... І ў сям'і так вучылі...

Ды і сам быў такім вучоным ад нараджэння!

— Ну так, ну так, — задуменна паўтарыў прафесар. — Я хачу параіцца з табой, як з жанчынай. Бо нічога не разумею ў жанчынах. Яшчэ ў маладосці я кінуў сваю адзіную, і больш не меў з вашым полам аніякіх стасункаў. Акрамя працоўных, вядома ж. Таму слаба разумею вашу псіхіку. Не да вас мне было. У мяне была важнейшая задача! Я займаўся навукай.

— Калі я змагу вам нечым дапамагчы, то буду вельмі ўсцешаная з таго, — ветліва адказала жанчына.

Яна ведала, што шэф увесь свой час марнаваў выключна на нейкія медыцынскія псеўдадаследаванні. Яшчэ ведала і тое, што гэты медыцынскі геній, прафесар Міхаіл Шымановіч, таксама, як і яна, эмігрант. А ягоныя даследаванні яна, як шчырая каталічка, лічыла праявай грахоўнай ганарлівасці начальніка. Бо замахваліся тыя даследаванні на самую сутнасць чалавечага стварэння...

Але, нягледзячы на такія глабальныя разыходжанні ў поглядах на навуку і рэлігію, яна яшчэ юнай медсястрой засталася працаваць на яго з дзвюх прычын. Па-першае, яе ніхто нікуды не запрашаў. І хоць першай прычыны было цалкам дастаткова, каб застацца працаваць на звар'яцелага генія, сваю непрынцыповасць у важных для каталічкі пытаннях этыкі і маралі яна апраўдвала яшчэ і другой прычынай: у прафесара з яго даследаванняў нічога ўсё адно не атрымаецца. Таму і не грэх яму патакаць, ды й жыць за нешта ж трэба...

Таму лепш дапамагаць. Бо ў яе вялікая сям'я ў Венесуэле, якой таксама трэба дапамагаць грашыма і якой колькі не прысылай тых грошай, іх усё адно не хапае з прычыны пастаяннага павелічэння сям'і. І адбываецца тое паралельна з павелічэннем Марыіных заробкаў і з такой дакладнасцю, што Марыя ўгледзела ў тым нейкую сувязь, якой, праўда, яшчэ не паспела вытлумачыць.

Там жа, у Венесуэле, бадзяецца з аднаго месца ў другое ў пошуках сродкаў на пражыццё яе каханы з дзвюма судзімасцямі. І тыя судзімасці — не самае горшае ў яго бурнай біяграфіі. І вось гэтага каханага трэба неяк нелегальным шляхам легальна перацягнуць у Штаты. А на ўсё патрэбныя грошы...

Эх, грошы! Не на панэль жа ісці дзеля іх! Ды на панэлі, па праўдзе, яшчэ нікому не ўдалося разбагацець, нават з такімі дасканалымі знешнімі дадзенымі, як у яе...

— Як ты думаеш, ці правільна я раблю, што пішу ліст сваёй былой жанчыне па старынцы ад рукі, а не пасылаю яго, як гэта цяпер прынята, электроннай поштай? — задаў пытанне прафесар Шымановіч.

— Я пакуль што не лаўлю сутнасці праблемы, таму і не бачу розніцы, — шчыра прызналася Марыя.

— А сутнасць такая... Я многа гадоў таму з'ехаў з Беларусі па-англійску, нават не развітаўшыся са сваёй дзяўчынай і не паведаміўшы ёй, што больш мы ніколі не сустрэнемся. А ў беларусаў такія паводзіны лічацца, мякка кажучы, хамствам. Наўрад ці знойдзецца хоць адзін беларус, які возьмецца іх апраўдаць. Можа, толькі за грошы, і то за вочы. Таму я ўпэўнены, што мая былая дзяўчына затаіла на мяне вялікую крыўду. Тым больш, што ў той дзень мы дамаўляліся сустрэцца, і яна хацела мяне парадаваць нейкай прыемнай навіной. Дык вось, з вялікай крыўды яна можа проста выдаліць маё электроннае паведамленне. А папяровы ліст проста адкіне ўбок, а пасля ўсё ж прачытае яго, як астыне ад эмоцый. Як мяркуеш?

— Думаю, вы правільна ўлавілі псіхалагічны момант і ўсё ж такі добра разумееце нас, жанчын. Хоць прыкідваецеся, што не, — незадаволена адказала Марыя, яўна расхваляваная такім цынічным падыходам свайго шэфа хай сабе да былога, але ўсё ж каханага ў мінулым чалавека.

— Не, я добра разбіраюся ў псіхалогіі людзей. Але ў жаночай разбіраюся менш. Катлеты, якія жанчына смажыць свайму мужу, і то больш разбіраюцца ў жаночай псіхіцы, чым я. Хутчэй малпу зразумею, чым жанчыну. Ды і розніцы вялікай паміж імі не бачу...

Шымановіч зноў схаваўся ад рэальнасці сам у сябе. Марыя цярпліва чакала ягонага чарговага абуджэння. Яно неўзабаве надышло...

— Зрэшты, я цябе паклікаў не на гэтую тэму паразважаць.

— Слухаю ўважліва.

— Падкажы, а ўжываць у маім лісце да той жанчыны з мінулага слова «каханая» — не будзе пераборам?

— Не пішыце ёй гэтага слова, — ледзьве не прастагнала Марыя. — Гэта будзе не проста перабор, гэта будзе здзек.

— Ну так, ну так, — задуменна прашаптаў чалавек у крэсле. — Хоць мне цяпер і не да сантыментаў. Я паміраю. Смерць даўно мне глядзіць у вочы і ўвесь час нагадвае, што мае дні лічаныя. Дні заканчваюцца, а справы сваёй я да лагічнага канца не давёў. Таму трэба тэрмінова і рашуча ўдарыць па абодвух кірунках, прыспешыць завяршэнне справы як найхутчэй, і працягнуць мае дні як надаўжэй. А Наташа — гэта той чалавек, які можа паспрабаваць мяне ўратаваць. Калі захоча, вядома ж. Таму вельмі важна правільна скласці тэкст ліста. Каб яна захацела мне дапамагчы...

Электроннае табло інваліднага крэсла нервова заміргала аранжавай лямпачкай. У такт ёй затросся нейкі прыбор у кішэні Марыінага халата. Сабака і вухам не павёў, паказаўшы сваімі паводзінамі, што даўно звыкся з такімі гукамі. А вось жанчына ведала, што ёй трэба рабіць. Яе абцасы дробна, але без прыкмет хоць якой панікі, зацокалі па белай падлозе да выхада, а калі з'явілася ля інваліднага крэсла зноў, у руках Марыі быў шпрыц з медычным прэпаратам. Яна ўвяла яго прафесару праз катэтар на левай руцэ. Той ветліва падзякаваў.

— Ну вось, — усміхнуўся ён. — Цяпер я дараблю запланаванае на сёння. І так кожны дзень. І калі ўсё будзе ісці па плане, то мае вынаходніцтвы і я сам маем нейкі шанц калі не на несмяротнасць, то на прадаўжэнне жыцця. А ты верыш у несмяротнасць, Марыя?

— Я веру ў несмяротнасць душы, — праўдзіва адказала жанчына.

Крывая ўсмешка прабегла па схуднелым і бледным твары Шымановіча. Ён адкінуўся на крэсле і зноў на нейкі час заплюшчыў вочы.

Праклятая хвароба забрала шмат сілаў і часу ды не дала завяршыць яго тэарэтычныя даследаванні практычнымі вынікамі на жывёлах. Каб яна сама захварэла, тая хвароба, і здохла ад таго! Трэба спяшацца. Ён ведае, як працягнуць жыццё... на нейкі час...

Марыя цярпліва чакала вяртання прафесара ў рэчаіснасць. І, калі ён расплюшчыў вочы, сказала, што чарговая ін'екцыя (невядомага ёй прэпарата, які Шымановіч назначыў сам сабе) будзе праз тры з паловай гадзіны. Зрэшты, электронныя датчыкі на панэлі крэсла і ў яе кішэні не дадуць пра тое забыцца.

— Скажы мне яшчэ... — уздыхнуў прафесар. — Як завуць твайго абранніка?

— Антоніо Кастра, — ганарова адказала жанчына.

— Кастра, — усміхнуўся Міхаіл Шымановіч. — Як лідара кубінскай рэвалюцыі Фідэля Кастра. Мы, выхадцы з СССР, гэтае прозвішча, Кастра, можам спалучаць толькі з імем Фідэль. А тут Антоніо!

— А чаму вы смеяцеся?

— Марыя Кастра... гучыць неяк непрывычна, — упершыню за сённяшнюю размову паказаў свае зубы прафесар. — Але ты не крыўдуй... Я не проста так цябе распытваю. Бачыш, злева ад кампутарнага экрана ляжаць паперкі. Гэта варыянты майго пасмяротнага завяшчання. Тваё прозвішча ў тым тастаменце таксама будзе фігураваць.

— Дзякуй, прафесар!

— Няма за што. Ты слухай да канца. Хутка ты станеш такой багатай дамай, што, думаю, зможаш забяспечыць свайго Кастра значна лепш, чым той другі Кастра, каторы Фідэль, забяспечыў сваю Кубу. І ў Штаты зможаш яго перацягнуць. Ты будзеш такая багатая, што і Фідэля ў Штаты зможаш перацягнуць, калі захочаш, канечне ж. Хоць з магілы дастанеш. Адзіная ўмова: ты мусіш яшчэ год папрацаваць у маёй клініцы, незалежна ад таго, буду я юрыдычна існаваць у такім выглядзе, як цяпер, ці маё цела крэміруюць, а клініка будзе дэ-юрэ належыць іншаму чалавеку ці нават гэтаму вось аргенцінскаму догу.

— З гэтым няма праблем, — здзіўлена адказала жанчына. — Толькі...

— Ніякіх толькі, — перабіў яе прафесар. — Ідзі падрыхтуй маю сустрэчу з гэтым дэбілам Казлоўскім. Як толькі ён з'явіцца, далажы мне.

Высокія абцасы зноў паслухмяна зацокалі да выхада. Дзве пары вачэй, прафесара і сабакі, праводзілі іх. Сабака, праўда, выяўляў цікавасць да ўсёй постаці. Чалавек сачыў выключна за рытмікай туфелек. Але перад самымі дзвярыма іх уладальніца нечакана рэзка развярнулася і рашучым голасам спытала:

— Прафесар, а вы ніколі ў жыцці не пашкадавалі, што некалі здрадзілі свайму каханню?

— Не, ніколі, — спакойна праглынуў гэтую дзёрзкасць прафесар.

І дадаў:

— І ніколі не пашкадую.

Белыя дзверы павольна зачыніліся. Прафесар схіліўся над сталом, нервова скамячыў верхні аркуш паперы, на якім спрабаваў нешта напісаць Наташы, і злосна кінуў яго ў смецніцу. Пасля акуратна расклаў перад сабой другі аркуш, задуменна паўглядаўся ў яго белізну, нібыта чакаў, што тэкст сам праявіцца на паперы, і ўзяў «Паркер» з залатым пяром.

«Дарагая Наташа! Хутка мяне не стане на гэтым свеце...»

Але аўтару і пачатак другой спробы свайго літаратурнага тварэння падаўся банальным. Ён рашуча скамячыў і гэты аркуш ды шпурнуў яго на падлогу.

— Ну хто б мог падумаць, што самая важная для чалавецтва справа тармозіцца з-за таго, што адрасат гэтага ліста некалі быў маёй каханай дзяўчынай, — злосна прастагнаў ён сабе пад нос. — Ідыятызм! Дэбілізм, ды й толькі! Вар'яцтва! Калі тое каханне было?! Ужо ўсё быллём парасло! А працягвае псаваць жыццё...

Прафесар зноў адкінуўся на крэсле і заплюшчыў шэрыя вочы. Ён так яўна ўбачыў малюнак з мінулага, што мог пабажыцца: гэта адбываецца цяпер. Вобразы былога паплылі перад вачыма, і невядома, дзе была рэчаіснасць, а дзе ўспамін...

І пачуў словы, сказаныя каля трыццаці няпоўных гадоў таму...

— Міша! Мішка! Шымановіч! Хутчэй сюды! Ідзі хутчэй сюды... — крычаў яго лепшы сябра і аднакурснік Валерка Зязюля і тупаў нагамі. — Першакурсніцы прыехалі!

— Ты што раскрычаўся? — адказаў тады яшчэ юны і здаровы Міхаіл Шымановіч, студэнт апошняга курса Гарадзенскага медыцынскага інстытута. Самы звычайны савецкі студэнт, хоць і выдатнік...

Ён усе пяць гадоў прасядзеў за падручнікамі і свету Божага не бачыў. І вось ён які, той свет, аказваецца... Незвычайны... Бо на гэтым свеце стаяла яна ў светлай сукенцы ў зялёны гарошак і трымала ў руках адламаны абцас. Стаяла на адной назе, і гэтая нага сваім другім неадламаным абцасам балюча наступіла яму... на сэрца.

— Наташа, — нясмела агучыла сваё імя дзяўчына...

«Наташа! Піша табе Міхаіл Шымановіч. Упэўнены, ты яшчэ не забыла. Напачатку ма́ю толькі адну просьбу: дачытай гэты ліст да канца. Я хутка памру, таму можаш маю просьбу лічыць апошнім перадсмяротным жаданнем. Пішу я табе з ЗША, дзе ў мяне вялікі медыцынскі бізнес... Памятаеш, Наташа, як мы марылі з табой пра гэта на ложку ў тваім інтэрнаце?! Дык вось, дзеля здзяйснення гэтых мараў я і выехаў некалі ў Амерыку. На жаль, тады я не змог забраць цябе з сабой. А пасля таго, як Беларусь вырвалася з лапаў СССР і выехаць адтуль стала нарэшце магчымым, ты была ўжо замужам за гэтым паскудным піжонам Валеркам Зязюлем...

Я зрабіў у медыцыне шмат. Гэта праўда. Я апярэдзіў час на доўгія гады. І нават тое, што я пакуль жывы, дамогся таксама я. Бо я існую зараз выключна на створаных мной прэпаратах. Яны яшчэ не прайшлі належнай праверкі, каб іх аддаць у вытворчасць, але ў мяне няма часу на гэтыя нікчэмныя праверкі. Ты сама, як медык, ведаеш, колькі трэба часу, каб афіцыйна зарэгістраваць новы прэпарат. Таму, хутчэй за ўсё, гэта давядзецца дарабіць табе.

Але і гэта не галоўнае. Галоўнае, што табе прыйдзецца зрабіць мне аперацыю, якая можа ўратаваць маё жыццё на нейкі кароткі час. Можа і не, але рызыкнуць варта. Гэта для мяне адзіны і апошні шанец. Таксама, як і для маіх медыцынскіх даследаванняў і вынаходніцтваў. Бо гэты кароткі час мне патрэбны, каб дарабіць тое, пра што мы марылі стварыць у медыцыне.

Памятаеш, Наташа, пра што мы марылі ў Горадні? Гэта можа ажыццявіцца. Падрабязнасці не апішаш. Таму ўсё зноў жа пры асабістай сустрэчы. У Амерыцы ёсць добрыя спецыялісты, якія маглі б тэхнічна выканаць такую аперацыю, але ніхто з іх не возьмецца за яе — з страху згубіць дазвол займацца медыцынай.

Квіток на самалёт і візу, а таксама ўсе грашовыя выдаткі на сябе возьмуць мае людзі. Яны хутка з табой звяжуцца.

І вось яшчэ што. Я ведаю, што твой раўнівы муж Валерка Зязюля будзе супраць твайго прыезду да мяне. І нават будзе перашкаджаць гэтаму. Таму паведамі гэтаму прыдурку, што ён пазней таксама прыедзе. Ён будзе тваім галоўным асістэнтам на аперацыі. Але прасачы, каб ён мяне наўмысна не зарэзаў на той аперацыі. І яшчэ паведамі, што незалежна ад таго, як пройдзе аперацыя, вам дастануцца мільёны маіх амерыканскіх даляраў. Бо ўсе, хто будзе ўдзельнічаць у гэтым працэсе, у тым ліку і ты, станучь мільянерамі. Незалежна ад таго, чым усё закончыцца.

Да хуткай сустрэчы, Наташа!
Твой Мішка Шымановіч».

# Завітаем у вёску

**Беларускія вёскі першай паловы XIX стагоддзя, як і гарады,былі непадобныя да сучасных. Апынуўшыся ў роднай вёсцы або ў вёсцы сваіх дзядоў і бабуляў дзвесце гадоў таму, вы пазналі б у лепшым выпадку старадаўнія царкву ці касцёл, а яшчэ, можа, наваколле: рэчку ці возера, зялёную сцяну лесу на даляглядзе або курганы пасярод поля. Усцяж вуліцы стаялі б драўляныя хаты, крытыя саломай, чаротам або дранкай (гонтай). Прайсці па вуліцы ўвесну ці ўвосень, асабліва ў непагадзь, часта можна было не іначай, як трымаючыся за плот. Вясковая вуліца з абодвух бакоў мела драўляныя вароты, якія звычайна не зачыняліся. Пры варотах стаялі павязаныя ручнікамі крыжы...**


Комплекс маёнтка Рэйтанаў у в. Грушаўка Ляхавіцкага раёна


Уладзімір АРЛОЎ

## Добры дзень у хату!

Хаты ў Літве-Беларусі сяляне здавён будавалі з яловых ці хваёвых бярвёнаў. Ніжняе бярвенне ў зрубе — падруба — было дубовае. Падрубы часта клалі на вялікія камяні або на дубовыя калоды. Вакол хаты цягнулася земляная прызба, што бараніла жытло ад холаду і вільгаці. Ганкам нярэдка служылі шырокая пляскатая калода або такой самай формы камень.

Маленькія курныя хаты адышлі ў мінулае. Цяпер дым ад цаглянай, глінабітнай або каменнай печы выходзіў у комін. У хатах з'явіліся сенцы і адзін ці два жылыя пакоі. Падлога была амаль паўсюль земляная ці глінабітная і называлася токам або долам. Ад печы ўсцяж глухой сцяны на вышыні ў палову чалавечага роста цягнуўся пол — спальны памост. На ім ляжалі напханыя сенам ці саломаю матрацы-сеннікі, падушкі і посцілкі.

Замест даўнейшых выраблеяных скураў ці пухіроў жывёл у невялікіх вокнах з'явіліся шыбы з не надта якаснага шкла з вясёлкавымі разводамі. Добра, калі ў вокны зазірала сонца. А вось у цёмную пару хату крыху асвятляў толькі цьмяны агеньчык ад запаленай лучыны.

Ніжэй вокнаў амаль на ўсю даўжыню сцен цягнуліся лавы. З таго кута, дзе лавы сыходзіліся, глядзелі на людзей з-пад столі Ісус Хрыстос з Маці Божай ды іншыя святыя. Абразы з іх выявамі з любасцю аздаблялі ручнікамі-набожнікамі.

Гэтае надзвычай важнае ў хаце месца называлася покуццю. На засланым саматканым абрусам стале, які стаяў на покуці, звычайна пакідалі накрыты ручніком бохан хлеба. Менавіта на покуці сядаў за стол гаспадар, калі сям'я абедала або вячэрала. На покуць саджалі і ганаровага госця.

## За сялянскім сталом

Беларусы здаўна займаліся насамперш земляробствам, што давала збожжа. Таму асноўным прадуктам харчавання ў вяскоўцаў быў хлеб з жытняй мукі. У яе часта дамешвалі ячменную, пшанічную, грэцкую ці аўсяную. Апрача хлеба з мукі варылі кашы, рабілі клёцкі, пяклі бліны, а на святы — пірагі.

Сялянскія гароды давалі капусту, буракі, моркву, рэпу. Капусту варылі, тушылі і квасілі. З буракоў рабілі смачныя халаднікі. Гаспадыні ведалі, што можна прыгатаваць сям'і з бобу і гароху. У XIX стагоддзі на стале пачалі з'яўляцца разнастайныя стравы з невядомай раней бульбы.

Мяснымі стравамі з свініны, ялавічыны, дзічыны сяляне частаваліся пераважна на святы, асабліва на зімовыя, бо перад Калядамі гаспадары калолі вепручкоў. З мяса і вантробаў выраблялі каўбасы, каўбухі (кіндзюкі), сальцісоны. На святочны стол выносілі вяленыя палянвіцы і вэнджаныя кумпякі. Ды святы хутка міналіся, і заашчаджаныя каўбасы з салам прыхоўвалі да цяжкой летняй працы: сенакосу, жніва, малацьбы.

Як ні дзіўна, малочных страваў у вёсках спажывалі няшмат. Каровы не давалі вялікіх надояў, а ў статках было нямала валоў. Святочным прысмакам лічыўся высушаны тварожны сыр, куды дадавалі кмен. Такі сыр калолі нажом і давалі дзецям смактаць замест цукерак.

Цягам года сяляне трымалі некалькі доўгіх пастоў, калі забаронена ўжываць ежу жывёльнага паходжання. У гэтыя дні незаменнай рабілася злоўленая у рацэ ці возеры рыба, якую смажылі, салілі і вэндзілі. З яе гатавалі посныя клёцкі, варылі юшку. На свята сялянская сям'я магла паласавацца і прывезеным з кірмаша селядцом. Пад час пастоў прыдаваліся нарыхтаваныя загадзя салёныя або сушаныя грыбы.

Сялянскія стравы былі нескладаныя, але сытныя. На стол падавалі з печы свежапрыгатаваную ежу. Ставіць астылую або разагрэтую паводле адвечнага звычаю забаранялася.

Вяскоўцы ў тыя часы ведалі смак і піва, і хмельнага мёду, аднак пілі пераважна квасы, бярозавы і кляновы сокі, узвары з ягадаў і садавіны.

Увесну ў незаможных сялянскіх хатах харчовыя запасы хутка сканчаліся. Даводзілася часам есці крапіву, шчаўе, лебяду, бацвінне і нават маладыя парасткі хвоек. Голад, асабліва ў неўраджайныя гады, быў у беларускай вёсцы частым госцем. Разам з ім прыходзілі і хваробы, а то і пошасці-эпідэміі.

## Саха і фабрычны варштат

У адсталай Расеі вясковы люд цярпеў цяжэйшы, чым у Вялікім Княстве Літоўскім, прыгнёт. Царыца Кацярына II і цар Павел I шчодра раздавалі беларускіх сялян сваім дваранам. За трыццаць гадоў прыгонных расейскіх памешчыкаў зрабілася паўміл ьёна беларусаў. Наогул жа доля прыгонных сялян у беларускіх губернях хутка стала вышэйшай, чым у глыбіні імперыі.

Раней вяскоўцы плацілі гаспадарам за карыстанне зямельным надзелам грашовы аброк — чынш. Пад чужынскім расейскім ярмом на змену чыншу прыйшла паншчына — цяжкая і амаль штодзённая праца на панскіх палях. Апрача яе сяляне выконвалі цэлы шэраг нялёгкіх павіннасцей: згоны (калі ўсіх зганялі на тэрміновыя работы), будаўніцтва і рамонт дарог і мастоў, падводную павіннасць (калі на ўласных падводах трэба было перавозіць панскія грузы). Многім вяскоўцам амаль не заставалася часу абрабляць свае надзелы, і яны хутка абеззямельваліся.

Памешчыкі рознымі шляхамі імкнуліся захапіць самыя ўрадлівыя землі. Дармавую прыгонную рабочую сілу землеўладальнікі выкарыстоўвалі на заснаваных імі прамысловых прадпрыемствах. Працоўны дзень каля фабрычнага варштата быў доўгі і цяжкі, а плацілі за яго столькі, што ледзьве хапала на харчаванне. Беларускіх сялян гаспадары часта адпраўлялі на заробкі ў далёкія чужынскія губерні.

Вяскоўцы не хацелі мірыцца з паднявольным становішчам. У першай палове XIX стагоддзя ў Беларусі адбылося болей за сто сялянскіх бунтаў і хваляванняў.

## «Дзеці прыроды з чулай душой»

Нягледзячы на цяжкую працу, на частыя неўраджаі і нястачу, беларускія сяляне вылучаліся дабрынёй, гасціннасцю і чалавечай годнасцю.

З любоўю і спагадай пісаў пра вясковы люд Уладзіслаў Сыракомля: «Наш селянін — дзіця прыроды. Ён не прывык крывіць сваёй чулай душой. Ёсць вялікая глыбіня пачуццяў у ягоных загарэлых касцістых грудзях, прыкрытых грубай і падранай світкай. Паглядзіце, як паважны гаспадар сям'і ў вольную ад турбот хвіліну бярэ на калені малое і ўрачыста садзіцца з ім на прызбе. Паглядзіце, як шмат у сялян песняў пра тугу маці па сыне, які апынуўся на чужыне ці быў забіты на вайне — ён там і сокал, ён і сонца, і ўся яе ўцеха. А паглядзіце, якая доўгая і ціхая жальба, якая святая памяць пануе ў хаце па нябожчыку!»

Поўныя павагі нататкі пра адметную частку нашага народа — палешукоў — належаць гісторыку XIX стагоддзя Адаму Кіркору: «Палешукі асуджаныя на вечнае змаганне з прыродай, аднак умеюць перамагчы ўсе цяжкасці і перашкоды. Жыхары тых мясцін пабожныя, паважныя, маюць у поглядах на жыццё паэтычны настрой. У норавах і звычаях яны верныя запаветам прадзедаў, што робіць іх мацнейшымі».

Самі ж падарожнікі з Расеі адзначалі, што беларускія сяляне больш ахайныя і працавітыя за іхніх, што яны захавалі шмат «несапсаваных славянскіх рысаў». Вандруючы па Літве-Беларусі, мастак Іван Захараў адзначыў у дзённіку, што беларускія вяскоўцы «кемлівыя і дасціпныя, вызначаюцца спрытам, вясёлым характарам і любяць спраўляць святы, для якіх анічога не шкадуюць». Пабываўшы на адным з такіх святаў, Захараў захоплена пісаў, што кабеты і дзяўчаты ў прыгожых народных строях танцавалі цэлы дзень, а беларускія танцы пераўнаў з італьянскай тарантэлай.

## Казкі, песні, паданні

Каланіяльная ўлада выгнала багатую і мілагучную беларускую мову з храмаў, забараніла яе ў школах і навучальнях, у кнігадрукy. У гарадах большыня жыхароў размаўляла па-польску, па-расейску ці па-габрэйску. Беларускую мову, гэты неацэнны скарб, без якога народ не мае будучыні, зберагала найперш сялянства.

З пакалення ў пакаленне ў сялянскіх хатах перадаваліся даўнія і нараджаліся новыя казкі. Яны напоўненыя народнай мудрасцю, жыццярадасным гумарам і паэзіяй, вераю ў цуды, але перадусім — у сілу і розум чалавека. Волаты-асілкі часта перамагаюць там розных пачвараў. Хто не ведае казкі «Удовін сын», «Каваль-волат», «Ох і залатая табакерка», «Пану навука», «З рога ўсяго многа»?.. Разнастайнасцю сюжэтаў беларускія казкі значна пераўзыходзяць украінскія, расейскія і казкі многіх еўрапейскіх народаў.

Сяляне былі захавальнікамі яшчэ аднаго багацця — беларускіх песняў. Кожная пара года, кожнае свята мела свае песні. З імі сустракалі Каляды, гукалі вясну, шукалі на Купалле цудадзейную папараць-кветку. Народныя песні гучалі на радзінах, заручынах і вяселлях, на талоках, калі людзі збіраліся разам на пільную і цяжкую працу.

У сялянскіх хатах Прыдзвіння і Прыдняпроўя, Паазер'я і Палесся бацькі, бабулі і дзядулі апавядалі дзецям легенды і паданні, праверялі малых на кемнасць загадкамі. Ад хваробаў і неўраджаяў, «ад пустога коласа і рэдкага воласа, ад голаса зычнага і харча нязвычнага» засцерагаліся замовамі. Беларуская мова гучала ў дзіцячых гульнях і дарослых забавах. Яна была з сялянамі ад нараджэння да скону.

**На нашых землях да шляхты належала амаль пятнаццаць працэнтаў насельніцтва. Шляхцічы з'язджаліся на павятовыя і ваяводскія соймікі, а таксама на агульнадзяржаўны Сойм і ўдзельнічалі ў кіраванні краінай. Галоўным абавязкам шляхты, якую называлі «палітычным народам», была абарона Айчыны ад ворагаў. Аднак з шляхецкага асяроддзя выходзілі не толькі славутыя рыцары і ваяводы, але і палітычныя ды рэлігійныя дзеячы,вучоныя і асветнікі, пісьменнікі і мастакі. Калі Літва-Беларусь апынулася ў царскай імперыі, найперш шляхта змагалася за вяртанне дзяржаўнасці. Улады ўсяляк імкнуліся скараціць колькасць шляхцічаў. Тым не менш, і ў XIX стагоддзі яны складалі значную частку жыхароў края. Гісторыкі падлічылі, што шляхецкія карані мае прыблізна мільён грамадзянаў сучаснай Беларусі.**

## Нашчадкі сарматаў

Часам нашу шляхту называюць палякамі. Гэта вялікая памылка, бо шляхта мела мясцовае паходжанне, лічыла радзімай не Польшчу, а Літву-Беларусь, бараніла яе ад захопнікаў, паўставала супроць прыгнёту чужынцаў. Хоць шляхцічы ў тыя часы гаварылі пераважна па-польску, кожны з іх ведаў беларускую мову, паважаў айчынныя звычаі і традыцыі.

Літва-Беларусь не была тут выняткам з агульнаеўрапейскай гісторыі. Адыход вярхоў грамадства ад сваёй мовы адбываўся і ў іншых краінах. Нарвежскія дваране, напрыклад, засвоілі дацкую культуру, чэшскія — нямецкую, а расейскія — размаўлялі па-французску. Але, калі надыходзіла новая гістарычная эпоха, адбывалася вяртанне да ўласных нацыянальных каранёў. Менавіта з шляхты выйшлі стваральнікі новай беларускай літаратуры, дзеячы нацыянальнага Адраджэння і змагары за дзяржаўную незалежнасць Беларусі.

Шляхта па-ранейшаму падзялялася на арыстакратыю, сярэдніх і дробных землеўласнікаў. Але, як і ў часы Жыгімонта Аўгуста або Сцяпана Батуры, кожны беларускі шляхціч лічыў сябе спадкаемцам сарматаў — старажытнага народа, што вызначаўся вайскім майстэрствам, адданасцю роднай зямлі і высокім пачуццём уласнай годнасці.

# Шляхецкі маёнтак

У шляхецкіх сем'ях трымаліся даўніх рыцарскіх правілаў і добра ведалі свае радаводы. Прадаўжальнікам роду — хлопчыкам — бацькі імкнуліся разам з адукацыяй даць уменне абыходзіцца з канём, шаблю і стрэльбай. Дзяўчынак вучылі не толькі добрым манерам, але і коннай яздзе, а часам і абыходжанню з зброяй.

Шляхетныя манеры прадугледжвалі нязменную павагу да жанчын рознага веку. Невыпадкова за святочным «сармацкім» сталом часта гучаў тост-дэвіз: «Славу — Айчыне, сэрца — жанчыне, гонар — нікому!»

Былы «палітычны народ» Вялікага Княства ўпарта не хацеў прымаць мову і культуру каланізатараў. У 1840 годзе віцебскі генерал-губернатар паведамляў міністру ўнутраных спраў у Пецярбург, што ў губерні 26 тысяч асобаў шляхецкага паходжання. Прызнаючы іх адукаванасць, царскі вяльможа заклапочана адзначаў: «На жаль, шчырая прыхільнасць да ўрада і сапраўдныя якасці рускага характара сустракаюцца ў шляхты вельмі рэдка. Пераважная яе частка чужаецца ўсяго нашага».

Словы генерал-губернатара па-свойму пацвердзіў брат паэта Адама Міцкевіча — Францішак. Успамінаючы іхні родавы маёнтак Завоссе на Наваградчыне, ён пісаў: «Ні вялікага багацця, ні тытулаў не мелі, але з дабрачыннасцяў уласных былі слаўныя, са згоды ў сям'і, з любові да бліжніх, з літасці да бедных, з любові да Бога, з шчырасці, з праўды, з гасціннасці, з сумленнасці і гаспадарлівасці, з выхаваных дзетак, а ў цэлым — з любові да каханай Літвы, зямлі мілай, Айчыны нашай».

### «Палацык стары ў атачэнні лістоўніц»

Значная частка беларускай шляхты жыла заможна і мела маёнткі — уладанні, што складаліся з жылых і гаспадарчых пабудоў ды навакольных земляў. Знаны мастак Напалеон Орда часта і з любасцю маляваў гэтыя старасвецкія сядзібы. Ён называў іх астраўкамі ранейшай ліцьвінскай цывілізацыі, якую намагалася знішчыць чужая ўлада, бо маёнткі заставаліся агменямі вальнадумства.

Гаспадар маёнтка з сям'ёю, а часам і са слугамі жыў у вялікім мураваным, але часцей драўляным адна- ці двухпавярховым доме або палацыку. Вакол гэтага будынка, звычайна аздобленага калонамі, разлягаўся парк з цяністымі прысадамі з ліпаў, клёнаў, каштанаў, тапаляў, ясеняў. З-за дрэваў паблісквала люстэрка прыроднай ці штучнай азярыны з белымі лілеямі і жоўтымі гарлачыкамі. Там былі вызначаныя месцы для купання і рыбалкі. Нярэдка азярыну аздабляла зялёная выспа з рамантычнай альтанкаю, куды вёў каменны або драўляны масток. На выспу можна было пераправіцца і на чоўне. Некаторыя сядзібныя паркі лічыліся сапраўднымі творамі мастацтва.

Напярэдадні імянінаў кагосьці з шляхецкай сям'і перад домам ці перад уездам у парк будавалі святочную вітальную браму, упрыгожаную зелянінай і кветкамі. На свята гаспадары запрашалі да сябе суседзяў з усёй ваколіцы. Ім абавязкова паказвалі партрэты продкаў, нярэдка цэлыя карцінныя галерэі. Шляхта наогул вызначалася гасціннасцю і здавён кіравалася прыказкай «Госць у доме — Бог у доме». Для чаканага або раптоўнага госця заўжды трымалі асобны пакой з падрыхтаваным ложкам. Да такога візіту рыхтаваліся і на кухні.

Вось як рамантычна апісвае адзін з гасцей маёнтак Юллянава ў Дрысенскім павеце: «Палацык стары, у атачэнні чорных мяккіх лістоўніц. Побач глыбокае, ажно чорнае ад глыбіні возера. Ганак на магутных калонах і доўгая веранда. У доме старая мэбля і старыя люстэркі ў пазалочаных рамах. На люстэрках матавыя плямы: месцы, запацелыя ад подыху пакаленняў, якія ўжо адышлі. Кабінет гаспадара і два прылеглыя пакоі застаўленыя шафамі, поўнымі кніжак. Гаспадар асвоіў рамяство пераплётніка і сам рабіў да кніг скураныя аправы. Пачасту ён, уладкаваўшыся ў мяккім зручным фатэлі, чытаў суседзям уласныя вытанчаныя вершы пра былыя дні, шчаслівае каханне, разбітыя сэрцы і няспраўджаныя дагэтуль мроі аб вольным краі».



Іван Хруцкі. Плады і свечка. Другая палова 1830-х

### Не ўяўлялі жыцця без кніг

Чытаць любіў не адзін гаспадар маёнтка Юллянава, а ўся шляхта. Сваімі бібліятэкамі ганарыліся многія з маянткоўцаў. Чыталі на розных мовах, але перавагу аддавалі польскамоўнай літаратуры. Праўда, многія з тых кніг, альманахаў і часопісаў нельга было назваць польскімі. Яны друкаваліся ў Вільні, Полацку, Гродні. Аўтары былі патрыётамі і прысвячалі свае творы мінуламу Літвы-Беларусі. У тагачасных выданнях адводзілася месца народным песням, легендам і паданням.

У беларускім Прыдзвінні шмат падпісчыкаў меў альманах «Рубон» (так некалі называлася Дзвіна). У першым нумары альманаха былі змешчаныя вершы, што заклікалі ліцьвінаў-беларусаў абудзіцца ад сну і змагацца за лепшую долю. «Рубон» пісаў, што багатая беларуская мова, на якой размаўляе сялянства некалькіх губерняў, чакае свайго адраджэння. Аўтары альманаха заклікалі маладых навукоўцаў вывучаць народную творчасць, называючы яе бясцэнным скарбам і падмуркам наступных стагоддзяў.

Першымі ластаўкамі новай беларускай літаратуры былі папулярныя ў шляхты творы Яна Баршчэўскага, Яна Чачота, Тамаша Зана, Уладзіслава Сыракомлі. Гэтыя літаратары пісалі па-польску і па-беларуску. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч ствараў пераважна ўжо на нашай мове. Па-беларуску былі напісаныя невядомымі аўтарамі і паэмы «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат».

### Калі ласка, на бяседу!

Неверагодна важным месцам у кожным маёнтку была кухня. Нашчадкі сарматаў любілі шчодрую застоліцу. Шырокі выбар страваў звычайна падаваўся і на сняданак, і на абед, і на вячэру, ну а ў святы сталы ў заможных гаспадароў ледзь не прагіналіся ад разнастайнага смакоцця.

Ганаровае месца ў шляхецкім харчаванні займалі стравы з мяса свойскай жывёлы і здабытай на паляванні дзічыны. Гаспадары і госці частаваліся рознымі каўбасамі і рулетамі, запечанымі шынкамі, галёнкамі і рэбрамі, вэнджанымі кумпякамі і квашанінай, пячонкай з цыбулькаю або часнаком. Ліцьвіны-беларусы ва ўсе часы шанавалі сала. Былі аматары свіных вушэй, хвастоў і лычыкаў. Сярод улюбёных страваў трэба згадаць не раз каштаваныя, напэўна, і вамі мачанку і верашчаку. А ці чулі вы пра такую незвычайную прысмаку, як ласіныя губы ў воцаце? Імі ласуюцца героі гістарычнай аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» выдатнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

На стол неслі вэнджаных і смажаных «паўгусак» і вяленых качак. Цаніліся мяса індыкоў, юшкі з маладых пеўняў або з адных пеўневых грэбняў. Традыцыйнай стравай з птушкі была печаная ці смажаная гусь — з грыбамі, капустай, яблыкамі, кашай.

Шмат каму смакавалі прыгатаваныя з бульбы дранікі са шкваркамі ды рознымі дадаткамі, бабка, калдуны або клёцкі «з душамі» ( гэта значыць, з мясам або з грыбамі). А тым часам «падплывалі» фаршыраваныя шчупакі, смажаныя судакі, вэнджаныя вугры. Госці прыцмоквалі ад асалоды, каштуючы наварыстую юшку з некалькіх гатункаў рыбы. На Полаччыне гатавалі неверагодна смачны малочны суп з ачышчанымі ад костак бакавінамі ляшчоў. Гэтую нечаканую страву, дзякуючы бабуліным рэцэптам, не раз даводзілася пакаштаваць у дзяцінстве і аўтару гэтых радкоў.

Высока цанілі продкі і прыправы: перац, каляндру, часнок, пятрушку, кмен, хрэн, гарчыцу, ягады ядлоўцу. З даўніх часоў на стале гасцявала рысавая каша з шафранам.

А былі ж яшчэ супы і поліўкі, ліцьвінскі халаднік, зацірка, іншыя стравы з мукі і крупаў, з гародніны і садавіны. Каб больш даведацца пра ўсё гэта,трэба прачытаць цэлую кнігу. Адна з іх — «Наша страва», укладзеная сучасным знаўцам шляхецкай і наогул беларускай кухні Алесем Белым.

За бяседнымі сталамі звінелі кухлі, кілішкі і келіхі з півам, хмельным мёдам, вінамі: мальвазіяй з Грэцыі, рэйнскім з Нямеччыны, такайскім — з Вугоршчыны. Шляхта любіла пачаставацца настойкамі і наліўкамі: зуброўкай, вішнёўкай, крамбамбуляй. З гарэлкі, мёду і спецый-прыправаў выраблялі крупнік. Не давалі заганы і розным узварам, квасам і кісялям. Пры канцы застоліцы прыносілі каву.

Дзяцей клікалі за стол, калі падавалі дэсерты. І вы не адмовіліся б пакаштаваць запечаныя ў мёдзе яблыкі і грушы з цынамонам, пірагі з ягадамі і сырам або мядовыя пернікі. На Купалле звычайна гатавалі саладуху — кісла-салодкі прысмак з жытнёвай мукі з суніцамі, чарніцамі і незаменным мёдам.

Дзякуючы шляхце, што захоўвала старыя кулінарныя рэцэпты і стварала новыя, сённяшняя беларуская нацыянальная кухня — адна з самых багатых і разнастайных у Еўропе.

### Персікі ў цяплярнях і арфы з Англіі

Шляхцічы былі пераважна руплівымі гаспадарамі. Яны ўмелі выбраць і дасведчаных сумленных аканомаў, якія кіравалі маёнткамі.

Галоўныя прыбыткі давала земляробства. У Заходняй Еўропе павялічваўся попыт на збожжа, і ў адказ нашы землеўладальнікі-абшарнікі ў некалькі разоў павялічылі плошчу ворнай зямлі. На ёй сеялі жыта, авёс, ячмень. У некаторых мясцінах перавагу аддавалі бульбе, цукровым буракам, льну. У жывёлагадоўлі прыбытковай была гадоўля танкарунных авечак. Некаторыя маянткоўцы нядрэнна зараблялі продажам рыбы і ракаў.

Багатыя маёнткі, апрача гародаў, садоў і вялікіх пасек, мелі аранжарэі-цяплярні, дзе выспявалі абрыкосы, персікі, вінаград, лімоны і апельсіны. Калі будзеце разглядваць нацюрморты з садавіной мастака Івана Хруцкага, ведайце, што ўсе намаляваныя на іх плады паспелі не ў далёкіх цёплых краінах. Яны наліліся сокам у цяплярнях самога мастака і яго суседзяў — прыдзвінскіх маянткоўцаў.

Буйныя абшарнікі будавалі прамысловыя прадпрыемствы — цукраварныя, вінакурныя, суконныя, смалакурныя. Уладальнікі маёнткаў і аканомы сачылі за еўрапейскай эканамічнай літаратурай. Яны пераймалі перадавыя правілы гаспадарання, выпісвалі з Англіі сельскагаспадарчыя машыны: сеялкі, малатарні, арфы (фабрычныя веялкі), заводзілі лепшыя пароды жывёлы. Для вырабу смачных сыроў патрэбныя дадаткі часам замаўлялі ажно з Швейцарыі.

У 1830 годзе Аляксандр Скірмунт у маёнтку Моладава на Піншчыне заснаваў першую ў Беларусі цукраварню, дзе сыравінаю служылі буракі. Гэты дапытлівы гаспадар, выпускнік фізічна-матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта, атрымаў дзяржаўнае пасведчанне на сваю бліскучую вынаходку — паравы апарат для выпарэння цукровага сіропу.

Гаспадарчай дзейнасці ў краі спрыялі створанае ў Віцебску Беларускае вольнае эканамічнае таварыства і Земляробчы інстытут ў Горы-Горках на Магілёўшчыне. Гэта была першая такая навучальная ўстанова ў імперыі. Яе адкрыццём улады прызналі, што на былых землях Вялікага Княства Літоўскага дасягненні ў сельскай гаспадарцы былі значна вышэйшыя, чым у Расеі.

### Новае жыццё даўніх сядзібаў

Цяпер многія былыя маёнткі набываюць новае жыццё.

Некаторыя шляхецкія сядзібы, дзе нарадзіліся і выхоўваліся вядомыя гістарычныя асобы, адноўленыя і ператвораныя ў музеі.

У вёсцы Завоссе Баранавіцкага раёна, дзе нарадзіўся Адам Міцкевіч, цяпер узноўлены цэлы шляхецкі двор продкаў паэта: крыты чаротам аднапавярховы дом з прыгожым ганкам, свіронак, абора і гумно, студня з жоравам і лазня пры стаўку. Вакол двара моцная агароджа, што прымушае ўспомніць даўняе выслоўе: «Шляхціч у загродзе роўны ваяводзе». У двухпавярховым свіронку ўнізе — ва́гі, жорны, бочкі пад гуркі ды капусту, кубельцы для сала і засекі для збожжа. На другім паверсе — летні пакой Адама. Там, як і ў даўнія часы, побач з ложкам ляжыць мядзведжая шкура і стаіць дарожны куфэрак. Экспазіцыя сядзібы-музея прыводзіць на ўспамін неўміручую паэму Міцкевіча «Пан Тадэвуш», якую называюць энцыклапедыяй шляхецкага жыцця.

Кожнаму беларусу абавязкова трэба наведаць і музей-сядзібу класіка нашай літаратуры Францішка Багушэвіча ў вёсцы Кушляны Смаргонскага раёна...

# Залатыя збаночкі груш



Васіль ГАЛАБАРОДЗЬКА



Фота www.24tv

### Залатыя збаночкі груш

*Груш натрэслі з маці ў садку,
і я набраў поўную пазуху
маленькіх залатых збаночкаў,
поўных мёду,
і панёс подбегам у поле,
дзе бацька пшаніцу касіў.*

*Падышоў —
камбайн стаіць
чырвоным бяскрылым птахам.
Падышоў,
клічу бацьку — няма.
Я зазірнуў у пшанічнае калоссе —
няма.
Я зазірнуў на дно дарогі —
няма і следу.
Я зазірнуў пад апратку дрэва —
няма.
Я спытаўся ў шчупака,
які хацеў праглынуць сонца, —
не бачыў.
Я спытаўся ў рэчкі — не бачыла.
Камбайн стаіць
чырвоным бяскрылым птахам,
і няма нідзе бацькі.*

*А бацька ў зямлі яшчэ з вайны:
яго цела стала зямлёю.
Яго грудзі аруць увесну плугамі.
Яго нагамі ходзяць трактары.
Яго рукамі расце каліна ў лузе.
Яго валоссем даўжэюць
сцябліны пшаніцы.
Яго вачыма звіняць крынічкі
пад дрэвамі...*

*«Бацька, а я табе груш прынёс!
Мы з маці натрэслі ў нашым садку.
На, бацька, бяры...*

*А маці цябе, бацька, усё выглядае
ў акно, што ад вуліцы,
кажа: куды пайшоў, адтуль і прыйдзе, —
усё выглядае...
А я ж цябе, бацька, і не бачыў нават,
толькі на павялічанай фотакартцы
ў ручніку,
але хіба гэта ты?..
Вось калі б ты быў дома і касіў,
а я дапамагаў бы табе —
я быў бы тваім памочнікам:
мы ўдвух слухалі б пошум нівы,
шурхат пшанічнага зерня ў бункеры
ды нецярпліва чакалі б зернявозку
з элеватара,
а яшчэ я збегаў бы да крыніцы па ваду
і прынёс бы табе халодненькай.
А ў поўдзень мы палуднавалі б
у зацішку крылаў камбайнавых.
І зноўку касілі б, касілі...*

*А вечарам нас бы сустракала
каля варот маці...*

*Бацька, чаму ты не дома?
Бацька, чаму ты ў зямлі?..*

*Я не арацьму зямлі — бо табе ж
балецьме!
Я не сяду на трактара —
бо табе ж цяжка будзе!
Я не касіцьму пшаніцы —
бо гэта ж тваё валоссе!
А дзяўчаты баяцца хадзіць
па каліну ў луг,
кажуць, што гэта твае рукі.
А крынічкі зарастаюць, бо кажуць,
ты імі глядзіш!*

*Бацька, чаму ж ты ў зямлі?..»*

*Падаюць долу
залатыя збаночкі груш
і разбіваюцца
з ціхім звонам.*

### Засушаныя казакі

*Цар Пётр любіў розныя калекцыі:
ездзіў па немцах і скупляў
розныя карціны і старыя кніжкі.
Захацелася яму сабраць такую калекцыю,
якой яшчэ ніхто не бачыў ва ўсім свеце.
І папрасіў ён у гетмана Палуботка
некалькі казакоў
для таго, каб засушыць іх для калекцыі.
Гетман: не, і зноўку: не.
Цар Пётр і кліча Палуботка да сябе.
Палуботак аж чатыры сотні казакоў
бярэ з сабою
ды наказвае ім:
Глядзіце ж, — кажа, — панове малойцы, —
не пужайцеся!
Не з'есць! Ды і шапак нават перад
ім не здымайце!
Зайшлі яны ў палац, чакаюць,
калі цар выйдзе.
Калі выйшаў, Палуботак яго пераймае:
не дам, — кажа, — казакоў на згубу,
і ўсё.
Выхапіў тады Пётр шаблю з похваў
і прытнуў
Палуботка да сцяны, каб засушыўся.
Зірнуў Палуботак на казакоў сваіх,
а яны ўсе самі
папрыціналі сябе да сцяны і сушацца.
Вось так і прыдбаў сабе Пётр
незвычайную калекцыю —
чатыры сотні ды яшчэ аднаго казака
засушанага:
у шараварах і шапках. Як ёсць.*

### Кружэлка з памылковай хуткасцю

*Кружэлкі з запісамі
ўкраінскіх народных песень
фірма грамзапісу «Мелодия»
памылкова вырабіла
з хуткасцю 78 абаротаў за хвіліну,
хоць на кружэлцы і было пазначана,
што прайграваць
трэба з хуткасцю 33 абароты за хвіліну.
Так і прайгравалі яе.
І падпявалі часам.
У суботнія вечары і ў нядзелю
круцілі каля клуба.
Нават вяселле пад такую музыку
адгулялі.
Калі ж сказана было,
што не з адпаведнай хуткасцю
тую кружэлку прайгравалі,
то ніхто не паверыў.*

*Пракруцілі раз з адпаведнай хуткасцю,
і нікому не спадабалася — ужо звыклі.
Так і круцілі, як раней.
Толькі бракаваныя кружэлкі і куплялі.
Небракаваныя па крамах
непрададзеныя ляжалі.
Фірма толькі бракаваныя і вырабляла,
бо толькі на іх і быў попыт.*

*Пішу гэты верш,
а на мяне з прайгравальніка
паглядвае мёртвае вока кружэлкі,
якое толькі тады і ажывае,
калі прайграеш з абаротамі,
якія не адпавядаюць
патрэбнай хуткасці.*

***

*Тады пусціце яго
не па колах дантавага пекла,
а па штрэках
шахтавых падзямелляў Варкуты —
можа, і з яго будзе Дантэ.*

*Падзякуем усе разам —
тры, чатыры:
«Дзякуй Мікалаю I
за тое, што пасадзіў Шаўчэнку ў вязніцу,
бо там ён стварыў
«Садок вішнёвы каля хаты...»*

### Самазабойцы

*Мы — закарэлыя жыхары Хахляндыі,
мы — хахлы з абвіслымі вусамі,
мы — лайдакі і баязліўцы,
мы — кулакі і падкулачнікі,
мы — бандыты, здраднікі, паліцаі,
мы — мазепаўцы,
мы — пятлюраўцы,
мы — бандэраўцы —*

*нам няма чым абараняцца ад нападаў,
ад розных абраз,
кінутых нам кім не ўздумаецца:*

*наша артылерыя —
чумацкія выпражаныя вазы,
што цэляцца задзёртымі ўгару
аглоблямі
ў ворага, які наступае на нас
ніадкуль і адусюль,*

*наша авіяцыя — ветракі,
сканцэнтраваныя на адзіным
баявым аэрадроме —
у музеі народнай архітэктуры
проста неба.*

*Нам няма месца на сваёй зямлі,
нам няма куды падзецца
ў цэлым свеце:
мы эмігруем толькі
ў старажытную Грэцыю,
разгарнуўшы Гамерава «Іліяду» —
абы выжыць — мы сябе ўбіваем:
сціраем сваё імя — імя ўкраінца —
з твару зямлі,
як уласны плявок,
мы адмаўляемся ад сваёй мовы,
нібы ад нейкага няздзейсненага
злачынства,
у якім нас абвінавачваюць,
мы адмаўляемся ад роднага жытла,
сцены якога нас ужо не абараняюць —
мы — самазабойцы.*

### Геаграфія

*З данецкіх стэпаў
я прыходжу да Дняпра,
каб вярнуцца дадому
з кропляй вады ў далонях
і да смерці
насіць яе з сабою ў ладанцы.*

*Але рэчкі данецкага краю
з пэўнага часу ўпадаюць у Дняпро
вышэй Кіева:
і Данец, і Лугань, і Міус,
і Белая Лугань, і Лазавая, і Альховая —
якраз насупраць Вышгарада.*

*Цякуць у Дняпро
і забруджваюць яго
сцёкавай вадой
прадпрыемстваў-валацуг,
памыямі ад вымытых
акрываўленых па локці рук
нераскаяных ветэранаў-катаў,
пляўкамі пярэваратняў-маларосаў.*

*Забруджваюць чыстую ваду,
каб ніхто не расказаў:
як за гарою
сонейка сядае,
як у Дняпра вясёлачка
ваду пазычае.*

### Закон прыналежнасці

*Падчас першага сеанса самотнасці
даследую закон прыналежнасці.*

*Спачатку прыпушчаюся да аналогіі:
радуюся, пабачыўшы,
што яблык належыць галіне,
галіна — камлю, камель — карэнню.
А яшчэ ж на дрэве расце лісце,
яно таксама належыць яблыку,
як і яблык належыць лісцю.
Карэнне належыць зямлі,
зямля — садку, садок — мне,
вось жа і я належу
яблыку,
галіне,
камлю,
карэнням,
лісцю,
зямлі,
садку,
і ўсё гэта належыць мне.*

*На дрэва сядае птушка,
яна таксама належыць дрэву і садку,
вось жа і мне належыць,
і я ёй належу.*

*Часам аналогіі не прыходзяць у галаву,
тады пачынаю збіраць рэчы,
каб імі валодаць,
каб яны мне належалі:
крэсла, стол, аркуш паперы, аловак.*

*Закаханы,
даследую закон прыналежнасці.*

*Шукаю сваёй прыналежнасці да свету
у кветкавых крамах
на Бессарабцы ў Кіеве,
на Крытым кірмашы ў Данецку,
на аўтавакзале ў Харкаве.*

***

*калі зрэдку прыязджаю
— з інтэрваламі ў шмат гадоў —
у Кіеў
з нешматлікімі жывымі сябрамі
іду на магілы памерлых
на Байкавых могілках*

*потым ідзем
— жменька пяску тых хто застаўся —
у скансен
ходзім паміж ветракоў
дзе даўно ўжо не мелюць
паміж старых хат
дзе ніхто не жыве
ля калодзежаў
з якіх не бяруць ваду*

**З украінскай мовы пераклаў Міхась Скобла**

# Імёны



Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

### Сорак тры

*Не пайшла на заняткі Хрысціна:*
*прыхварэла — няйначай ангіна.*
*Тата звоніць і хоча дазнацца,*
*можа, стала ўжо лепш пачувацца.*
*— Ці баліць што? Як тэмпература?*
*— Сорак тры! Не спрыяе мікстура!*
*— Праўда?! Так паджартоўваць не гожа!*
*— Памыліцца матуля не можа!*
*— Што ж сказала матуля, пястушка?*
*— Трыццаць шэсць і сем!*
*Зноў спі, дачушка!*

### Старанная кухарка

*Вучыла матуля Хрысціну:*
*— Як будзеш варыць нам пяльмені,*
*дык кідай у кіпень няспешна,*
*найлепш па адным, а не гуртам,*
*каб не пазліпаліся раптам.*
*А я праз гадзіну вярнуся...*
*Прыходзіць матуля дадому:*
*— Ну, як наш абед? Ці гатовы?*
*— Рабіла ўсё так, як вучыла*
*мяне, дарагая мамуля.*
*Стаю над каструляй, шчырую,*
*пяльмень я даварваю... пяты!*

### Бліжэй да прыроды

*— Вадзім,*
*надвор'е слаўнае ад рання,*
*а ты ля манітора ад відна!*
*Сходзі ды пагуляй –*
*прыйшла вясна...*
*— Я, мама, вырашыў пытанне файна:*
*свой комп бліжэй пасунуў да акна!*

### Даўжыня ў цюбіку

*— А колькі пасты ў цюбіку зубной,*
*татуля?*
*— Не, нават не ўяўляю, мілая рыбуля...*
*— Мы зараз з Вераю прамерылі!*
*Прыкольна:*
*хапае... з ваннага пакоя да балкона!*

### Імёны

*— Я была народжаная на Палессі,*
*і мяне назвалі наскім іменем Алеся,*
*а сястра мая малодшая названа*
*у сталіцы рэдкім іменем Сюзана!*
*Прызнавайцеся, бацькі, і не круціце –*
*трэцяя сястра ў нас будзе Ніферціці?!*

### Кампаньёнкі

*Спытала мама*
*ў першакласніцы Хрысціны,*
*калі вярнуўся клас*
*з вячэрняй шпацыроўкі:*
*— Сяброўка Вера*
*дзетак крыўдзіць несупынна?*
*— Мы толькі хлопцаў крыўдзім...*
*разам —*
*мы ж сяброўкі!*

### Пакупніца

*Каля вітрыны новай крамы*
*пытаецца дачушка ў мамы:*
*— А ці пажыўная смятана?*
*— Канечне, любая Святлана!*
*— А шмат карысці з зеляніны?*
*— Так. Спажываць яе мы вінны,*
*бо ўсе ядомыя расліны*
*утрымліваюць вітаміны.*
*— А ці карысная цыбуля,*
*што пасадзілі мы з бабуляй?*
*— Вядома, мілая рыбуля!*
*— А кавуны?*
*— Ну так, красуля!*

*— Тады мне снэкаў тры-чатыры*
*купі: «З цыбуляй», «З кропам», «З сырам»,*
*а лепей — чыпсаў восем пачкаў:*
*«Смятана», «Смажаная качка»!..*
*І жуек «Бубль-гум» паўскрыні –*
*са смакам кавуна і дыні!*



Малюнак Алены Карповіч

### Цёзкі

*Днём вераснёвым першы раз*
*сын Леў сходзіў у першы клас.*
*— Ці ёсць яшчэ... у класе Львы? —*
*Спытаў я тонам дзелавым.*
*— Львоў, тата, больш няма!*
*Але*
*ёсць хлопчык з імем крышку, ледзь*
*падобным...*
*— Леанід?*
*Юльян?*
*Лявонцій?*
*Леанард?*
*Багдан?*
*Лявон?*
*Мо Леапольд?*
*Ляван?*
*— Не!*
*Гэты, як яго?!*
*Тыгран!!!*

### Якое надвор'е?

*Вось выпаў першы снег –*
*і радая Хрысціна:*
*— Ура!*
*Зіма прыйшла!*
*Хачу на двор хутчэй!*
*— Патрэбна мне ў кнігарню,*
*хоць не дужа пільна.*
*Збірайся,*
*апранайся, як табе ямчэй...*

*Вярнуліся,*
*і кажа тата:*
*— Мокра, слізка!*
*Надвор'е — дрэнь!*
*Дачушка ўпала тры разы...*
*Заходзіць Хрыся:*
*— Клас надвор'е!*
*Шлях не блізкі.*
*Я грымнулася тройчы,*
*як гады ў рады!*

# Новае слова



Святлана ВАРОНІК

Мой Пецька — гэта мой самы лепшы сябра. Мы з ім стрыечныя браты. Нашы мамы — гэта сёстры. І таму ў нас дзве бабулі: баба Каця і баба Вера. У бабы Веры яшчэ ёсць дзед Міхась. Мы з Пецькам сябруем усё жыццё, хоць раней я думаў: а з кім жа я б сябраваў, калі б Пецькі не было. Бо я на цэлы месяц за яго старэйшы. Я майскі, кажа мама, а Пецька — летні. Ён не любіць, калі я хвалюся сваёй старшасцю. Тады крычыць весела: «А я вышэйшы за цябе! Я — вышэйшы!» І часта тады дадае: «А я помню, як нас хрысцілі. Ты, Васька, спаў, а я — не». Ох, як я шкадую, што спаў тады. Мама з татам толькі смяюцца, калі я ім выгаворваю, што малі б і пабудзіць.

Нашы хаты стаяць не вельмі далёка, і мы ад раніцы ходзім-бегаем ад адной бабулі да другой. Я люблю жыць, абедаць і гуляць у бабы Каці. Баба Каця ніколі не сварыцца на мяне. Залезем на ложак, гуляем, там столькі падушак, мякка. Немагчыма не скакаць. Баба Каця ўвойдзе ў пакой: «Аёечкі! А мой ты Васечка, а чаго ж ты ў сандаліках на ложак залез?» Баба Вера гаворыць іначай: «Вася! Хто ж гэта па ложку гойсае? Пагрэдсаваў усё на свеце!» На Пецьку, калі той хлебча ваду з вядра, што стаіць на вуліцы на лаўцы, кажа: «А мой ты Пецечка, а на вазьмі вось кубачак папіць. Давай я табе малачка дам». Баба Каця ж на Пецьку гаворыць: «А мой Божачка! Усё хлебча-ненахлебчацца... З вядра. Як бязрукі які. Пеця-Пеця...»

Нядаўна так у Пецькі загуляліся... У ложку. Збудавалі цэлую крэпасць з падушак. З вежаю, з акенцамі. На самым версе вежы — малюсенькая падушачка. Я камандзір, бо старэйшы. Пецька не пярэчыць, бо ён танкіст, а танк у нас адзін. Увайшла баба Каця, пляснула ў далоні, а я ж — раззуты: «Ах мае ж вы ўнучачкі, а чаго ж ясічак на падлогу скінулі?» Прыціхлі мы з Пецькам, не чулі ж, каб дзе што ўпала, паспаўзалі з ложка.

— Падымі, Пеця, ясік. Пакладзі на месца, — сказала баба Каця, паказваючы на маленькую падушачку — нашу верхавіну вежы.

— Ясік! Ясічак! — крычалі-смяяліся мы, перакідваючыся падушачкай з ложка на ложак, як баба пайшла на вуліцу.

— Ясічак! — рагоча Пецька. — Добра ў валейбол іграць.

— Ясік! — выдыхаю я, адбіваючы падушачку. — Новае слова ў валейболе!

Дзіўная рэч: падушка, а назвалі ясік, ясічак. «Бо малы яшчэ наш ясічак, не вырас, — гаворыць Пецька. — Не Васіль, а Васічка», — паддражніваецца да мяне. «Не Пятро, а — Пе-е-цічак, — адбарабаньваю яму. — Пецечка-ясічак». — «Васік-ясік», — не адступаецца Пецька.

— А пайшлі да Таіскі папытаем, ці ёсць у яе ясік, — як нешта ўспомніўшы, выкрыкнуў Пецька.

Узялі ясічак і — гайда на вуліцу.

Таіска сядзела на вуліцы ў сваёй забаўлянцы з нейкай сваёй смехатою — лялькамі-міскамі. Мы б, можа, і знайшлі што рабіць у той забаўлянцы, але Таіска рашуча павяла нас у хату, заявіўшы, што яе ясічак лепшы. Я — раззуўся. Але якраз у хаце была Таіскіна бабуля.

— Ці вы спаць прыйшлі да нас? — пытаецца.

— Яны падушкай прыйшлі мерацца, — закруцілася ля ложка Таіска.

— Гэта ясік, — асмялеў Пецька, папраўляючы ясік пад пахаю. — А не проста падушка.

— Ваш толькі зверху іншы, а ўнутры такі ж, — дадаю я.

— А пайшлі да Ленкі! На яе ясік паглядзім, — загарэлася Таіска. — У яе, можа, і няма такога. Нашы пакажам.

— Пасля па твой сходзім, — радасна дадаў Пецька, глянуўшы ў мой бок. — І да Лёнькі сходзім. Бяры свой і — паляцелі.

Ляцець Таісцы з ясічкам бабуля не дазволіла.

Ленка нешта ела на верандзе, адчыніла акно:

— Я не пайду на вуліцу. Мама хутка прыйдзе — і мы паедзем у госці.

— А што ў нас ёсць... — зацягнуў Пецька, хаваючы за спіну ясік.

— Што? — высунулася Ленка ў акно.

— Што-што... — затанцавала Таіска пад акном. — Нештачка. У вас, можа, такога і няма. Мы таксама паедзем хутка ў госці.

— Ясічак! — не стрываў я.

— А ў нас таксама ёсцека, — прагаварыла пакрыўджаная Ленка, прыкрываючы акно. — Яшчэ лепшае.

— А пакажы! Пакажы! Высунь у акно, — закрычалі мы.

— Не пакажу, — Ленка паказала нам язык.

— Значыць, у цябе няма ясіка, — сказала Таіска.

— А вось і ёсць. Проста мама на работу сёння ўзяла.

— На работу? У кантору? — здзівіўся Пецька.

— Навошта? — дадаў я.

— Навошта — таму шта, — адрэзала Ленка і зачыніла акно.

У Лёнькі ясіка не аказалася, але ён вывалак нам на парог вялізную падушку:

— Вось мой ясік. Цэлы Ясь.

Было весела. У Лёнькі машынак на падворку — не тое, што ў Таіскі. Пачалі вазіць пясок з кар'ера і насыпаць дарогу. Таіска была экскаватаршчыцай, загружала нашы самазвалы. А пасля пачаўся дождж. Ды такі спрытны! Пахаваліся ў хаце, шкадуючы, што ў кар'еры будзе многа вады і, можа, дарогу размыла. Прыйшла Лёнькава бабуля.

— Лёнік, а ці табе двара мала для гульбаў, што ўжо падушкі на падлозе ляжаць?

Дождж пераціхаў, і мы пацерабілі дахаты. Не адсапліся яшчэ, а баба Каця пытае:

— А дзе, хлопцы, ясік падзелі? Абы не згубілі. Пеця?

У мяне пачалі гарэць вушы, шчокі, вочы, можа, і нос. Мы анямелі.

— Дзе-дзе... — азваўся Пецька. — Можа, мама, на работу ўзяла.

Не абсохнуўшы, мы скоранька падыбалі назад да Лёнькі. Ясічак наш быў на месцы, ля кар'ера. Праўда, не такі мякенькі, а так — ляпак-ляпяком. Макрусенькі.

— Нясі свой ясічак, во, як вымак, — заперажываў Пецька.

— Мне ўжо дахаты пара, — кажу.

— Ты прынёс, ты і аднясі, — не адступае Пецька.

— Гэта ты хацеў пахваліцца.

— Гэта не я. Гэта ты. Яшчэ ўсё казаў: новае сло-ова...

Так і дайшлі да веснічак, перакідваючы адзін аднаму наш ясічак.

— Харошы валейбол, — сказаў Пецька.

— Угу! — пацвердзіў я.

Баба Каця застукала ў акно. Хуценька забеглі ў двор і паклалі нашага ясіка на лаўку.

— Мыйцеся, хлопцы, і хадзіце вячэраць.

За сталом, сёрбаючы гарачае з міскі, Пецька ціхенька зацягнуў:

— Но-о-вае сло-о-ва... Ясічак...

Я пырскнуў зацікраю.

# Гаючая проза



Васіль ЖУКОВІЧ

**З прозаю Міколы Ільючыка я знаёмы падаўна. Калі чытаў яго апавяданні ў перыядычных выданнях (у «Дзеяслове» і ў «Новым часе»), то суправаджаў многія радкі, абзацы, а почасту — і цэлыя старонкі клічнікамі.**

Гэткім чынам пазначаў асабліва ўдалыя мясціны, уражаны то каларытнаю моваю персанажаў, то іх учынкамі, а галоўнае — праўдзівым паказам складанага народнага жыцця. Мае ўражанні, натуральна, пабагацелі, калі перад вачыма з'явіліся творы пісьменніка, сабраныя разам у ладную кнігу.

У кнізе Міколы Ільючыка «Усмешка анёла» ёсць аднайменнае апавяданне. Нечаканая, загадкавая назва гэтага твора не дае асаблівага намёку на яго змест. Толькі напрыканцы чытач уведае, пра ўсмешку якога анёла ідзе гаворка. На невялікай плошчы аўтару ўдаецца разгарнуць узрушальную жыццёвую гісторыю, глыбокую драму, разам з тым паказаць рэдкаснае душэўнае хараство, непераможную красу і гаючую сілу найдалікатных чалавечых пачуццяў. З кранальнае фабулы магла вырасці аповесць, мог быць і раман. Пісьменнік пайшоў іншым шляхам: стварыў лаканічную і дынамічную рэч. З яго поля зроку не сыходзіць галоўны герой Вадзім, пра чыю трагедыю, жахлівы стан калекі, фізічныя і маральныя пакуты гаворыцца з першай старонкі апавядання. А ў падтэксце праліваецца святло на яго моцную волю, трывалы і мужны характар.

Свае пяцьдзясят Вадзім сустракае ў інвалідным вазку. Ён спяшаецца ў паліклініку на камісію — пацвердзіць інваліднасць. Прынятая даўняя бесчалавечная завядзёнка, відома, бязглуздая: што яшчэ трэба пацвярджаць, калі страчаныя ногі вырасці наноў не могуць! Вадзім іх страціў трыццаць гадоў таму ў цяжкім баі, які ягонае жыццё распалавініў. Да яго ён быў вясёлым юнаком, што цешыўся кожным пражытым днём... Ногі адцяпаў яму спрытны хірург у палявым шпіталі недзе каля Кандагара. Ад таго болю можна было звар'яцець. «А яшчэ быў маральны боль, — піша аўтар, — ад таго, што нікому непатрэбны калека сам змагаецца за кожны рух, за кожнае імгненне жыцця».

Пісьменнік, ашчадна ставячыся да мастацкага слова, па-майстэрску вяртае свайго героя ў мінулае, распавядае пра спатканне юнака і дзяўчыны ў навагоднюю ноч ля галоўнай гарадской ёлкі, дзе ўзаемна зачараваліся іх позіркі і запаліўся святы агмень іхнага кахання. У віхуры пачуццяў страціў Вадзім «тую мяжу, што падзяляе рэальнасць і мрою, яву і мары»...

А далей ім была наканаваная цяжкая разлука. Алена сталася студэнткаю медычнага, а Вадзіма жалезная рука высокае ўлады штурхнула ў пекла Афгана. Вярнуўшыся на радзіму, ён бацькам паставіў умову: калі Алена будзе тэлефанаваць ці пісаць, ні ў якім выпадку не казаць ёй, што з ім здарылася. «Надта вялікім было каханне, каб аддаць яго на такое выпрабаванне», — кажа аўтар. Відаць, яшчэ большаю, чым каханне, была ягоная любоў. Герою апавядання пашчасціла спаткаць каханую і ўжо дарослага сына. Апавяданне хвалюе да слёз, гэтак жа, як усякая высокамастацкая літаратура.

Сярод герояў кнігі Міколы Ільючыка даволі часта чужыя людзі мабілізуюцца на дапамогу, дзеляцца шчодрасцю душы, ахвяруюць немалыя сродкі дзеля перамогі над чыёйсьці бядою. Так, напрыклад, чуйным да болю колішняга сябра Сяргея, на чыіх руках цяжкахворая дачка Марыйка, аказаўся Іван Пятровіч. Ён завітаў у гаротную сямейку з фінансавай дапамогай. «Вось, гэтага хопіць на ўсё, лекуй дачку, Сярожа, — і на стол гучна плюхнулася тоўстая капэрта. («Усё добра, дачушка»).

Запамінаецца апавяданне, размешчанае ў самым пачатку кнігі, — «Пабачыць Парыж і». Пётр Сямёнавіч усё жыццё ў роднай вёсцы выкладаў французскую мову, шмат распавядаў вучням пра Францыю і яе сталіцу, сам марыў туды завітаць. Але жыццё склалася няўдала. Не стала жонкі. «Пакуль выхоўваў чужых дзяцей, упусціў сваіх. Амаль страціў, бо сын з дачкою даўно пакінулі бацькоўскі ганак». Вёску дабівае чарнобыльская бяда. Вось пасля чарговай «хіміі» вярнуўся чалавек у сваю выстылую і сумную хату, якая, толькі пасля таго, як у печы затрашчалі смалістыя дровы, азвалася песняй цвыркуна за комінам... Але адзіноту вяскоўца-інтэлігента парушае ягоная вучаніца Валянціна, некалі кволая дзяўчынка са шматдзетнае сям'і, а цяпер паспяховая журналістка з паважнай сталічнае газеты. Яна з'явілася не дзеля гутаркі і газетнага артыкула (крыху раней была папрасіла ў яго пашпарт) — амаль з парога абвясціла:

— Шаноўны Пётр Сямёнавіч! Адмаўляцца не раю, мы з Вамі едзем у Парыж. Вось шэнген, вось квіткі на самалёт, гатэль, няхай сабе і не самы дарагі і шыкоўны, але з асобным пакоем кожнаму, са сняданкам у рэстарацыі. Усё астатняе будзем бачыць на месцы...

Настаўнік, нібы вучань, «спрабаваў з вэрхалу думак абрацць нейкія словы». Але ад такой шчырай шчодрасці грэх было адмаўляцца. Парыжская вандроўка атрымалася выдатнай. Яна прыўзняла настрой, дадала аптымізму Пятру Сямёнавічу, ён назваў сябе П'ерам поруч з Наташай-Наталі. Іх цёплаю ўсмешкаю і пацалункам завяршаецца рамантычная гісторыя.

Бескарыслівая дапамога людзям з'яўляецца нормаю ў жыцці многіх герояў прозы Міколы Ільючыка. ...Кіроўца-таксовец Лёня ў самым канцы змены атрымаў паведамленне ад дыспетчара: ёсць яшчэ адзін рэйс. Належала адвезці пасажыра з горада ў раён. Малады чалавек нерваваўся, бо яшчэ павінен быў не спазніцца на юбілейны вечар сябра. Як высветлілася, таксоўку замовіла пажылая кабета. Лёню давялося пачакаць яе, апошнюю пасажырку ў той вечар, бо яна збіралася павольна. Таксовец убачыў, якая яна маленькая, худзенькая, кволая, і пранікся павагай ды сімпатыяй да яе настолькі, што выконваў усе ейныя пажаданні. Яна папрасіла Лёню, каб правёз яе цэнтрам горада, ля дарагіх ёй мясцінаў, мабыць, каб моўчкі з імі развітацца, бо кіравала ў прытулак для стомленых жыццём і ў хоспіс адначасна. Не спазніцца на юбілей сябра таксовец ужо не мог, але святы абавязак споўніў: завёз нямоглую бабулю ў хоспіс, прытым грошы з яе не ўзяў. («Апошні пасажыр»).




**«Усмешка анёла», таленавітая, шматгалосая кніга Міколы Ільючыка, дагодзіць самым розным чытацкім густам, у тым ліку і самым вытанчаным, далікатным.**



Фота www.lir-book.tif

Пісьменнік ствараў сваю «Усмешку анёла» ў няпросты час пераменаў у краіне, калі душу гняла горкая рэчаіснасць. Дакладна выпісваецца ў кнізе эвалюцыя чалавечых пачуццяў. ...Савецкі габрэй Сёма, па чыіх родзічах і суайчынніках, земляках жорстка прайшлося гітлераўскае нашэсце, усімі фібрамі душы ненавідзеў усё нямецкае: мову, краіны, дзе на ёй размаўляюць, нават рэчы нямецкай вытворчасці і, вядома, саміх немцаў. Але нянавісць гэтага таўсматага дзівака змянілася на сімпатыю, калі ён з цяжарнаю жонкаю Ларысай апынуўся ў курортных Карлавых Варах, дзе якраз немцы, сямейная пара, выратавалі непрытомную ягоную любімую, вынікам чаго на свет з'явілася сямімесячная дзяўчынка («Сцеражыся заракацца»).

У аповедзе «Заклятыя сябры» вельмі ўдала паказаны жыхары вымiраючай вёскі, іх жыццё-быццё, клопаты і каларытная гамонка ля крамы ў чаканні машыны з харчамі, а галоўнае — кульмінацыя пачуццяў двух адзінокіх суседзяў, якія варагавалі, кранальны эпізод іхнага развітання (адзін з іх памірае), іх узаемная споведзі.

Няцяжка прыйсці да высновы: «Усмешка анёла» нясе вялікі станоўчы зарад чалавекалюбства, ажыццяўляе боскі запавет: палюбі бліжняга, як сябе самога. Але не толькі любоў да людзей выхоўвае і ахоўвае Мікола Ільючык. З якім жа замілаваннем, з якою цеплынёю піша ён пра коней і жарабят, а заадно і пра сваё маленства, калі пачыналася знаёмства з гэтымі добрымі і мудрымі жывёламі. Чытаеш такія творы, і думаеш пра боскае — паэзію прозы. Якраз паэзію ўспамінаў, думак, пачуццяў і неабсяжную прастору для чытацкіх роздумаў і фантазій багатае невялічкае апавяданне «Коні і самалёты».

Таленавіты празаік умее распавесці і шчымлівую гісторыю з сабачага жыцця, што засведчыла апавяданне «Сабачае шчасце». Яно лірычнае. Аўтар так дарэчы піша: «Узгадваю выбітнага француза і ягонага «Маленькага прынца» са славутым: «Мы ў адказе за тых, каго прылашчылі». Бо пераважная гаворка тут ідзе пра заклапочанасць сямейнае пары — пана Януша і пані Асі — лёсам любімага сабакі Анёла, які захварэў на лейкемію. У спецыяльнай клініцы, якая з'яўляецца адначасна і аптэкаю, яму ставяць кропельніцы. Гэта агромністы сабака снежна-белага колеру.

— У яго і жона ёсць, — гаворыць Януш госцю. — Мы яго з Францыі прывезлі, а потым і сяброўку яму купілі.

У вялізнага сабакі ногі ад кволасці трымцелі. У сабачых вачах адлюстраваліся і боль, і смутак, і роспач. Анёл памёр апоўначы. Побач была Дорыс, яна адразу пачала скуголіць. А на досвітку памерла і яна. «А ўсё ж Анёл і Дорыс шчаслівыя! Тут яко без сумневу», — так аптымістычна заканчваецца драматычная гісторыя з жыцця сабак.

У прозе Міколы Ільючыка прыкметнае месца займаюць творы пра людскія здрады і чалавечую вернасць. Думаецца, асабліва тут паказальныя натхнёна пададзеныя гісторыі «Заканасць як норма» і «Усмешка наўздагон». Пахвальна, што аўтар «Усмешкі анёла» заўсёды на баку пакрыўджаных лёсам ці ліхімі людзьмі, што надае ягоным творам гаючую якасць.

Знайшлося ў кнізе і месца для людскога тыпу, які адпавядае трапнаму азначэнню пісьменніка і доктара філалогіі Фёдара Янкоўскага: нелюдзь, гнюсата. Такі дзядок у апавяданні «Мухі», ён хваліцца двум студэнтам-першакурснікам, няспраўджаным ягоным кватарантам, што некалі ў яго была адказная справа пад Смаленскам, дзе даваўся папацець. «Шчыраваў» ён і ў сталіцы. А замест адказу на пытанне, чым жа ён займаўся канкрэтна, ён хлопцам нахаміў, тым і выклікаў цвярозую здагадку: пэўна, рукі былі ў крыві...

Ёсць і аповед пра дзівакаватага чалавека Ігнася (па мянушцы Дарагі), які бясконца пасылаў Брэжневу скаргі і віншаваў генсака з днём нараджэння...

Хочацца звярнуць увагу чытача і на тое, як аўтар умела карыстаецца простымі, ды яскравымі сродкамі, малюючы розныя тыпы герояў. У гнюснага чалавека — «пранізлівыя, як свярдзёлкі, вочы». З рук ён не выпускае самаробную мухабойку. А вось як выглядае Наташа, тая, што забяспечыла настаўніку вандроўку ў Парыж: «З чырвонага аўтамабіля, нібы птушачка з кубла, вылецела прыгожае стварэнне з распушчанымі русявымі косамі».

У мастацкім палатне яркія ніткі малююць патрэбны ўзор. Ва «Усмешцы наўздагон» у Багдана і Аксаны, якія толькі што пазнаёміліся і за знаёмства выпілі выпіць «Колы», «гучна і аптымістычна дзынкнулі чаркі, ад рэзкага, нібы няўмелы пацалунак, дотыку». Не магу не заўважыць: аўтар кнігі дужа назіральны...

Выснова відавочная: «Усмешка анёла», таленавітая, шматгалосая кніга Міколы Ільючыка, дагодзіць самым розным чытацкім густам, у тым ліку і самым вытанчаным, далікатным. Грэх такую літаратуру не чытаць!

# «Сабраць агульнае»

**Прамінуў яшчэ адзін год нашага жыцця, у тым ліку пісьменніцкага і чытацкага.**

Разышліся па сваіх адрасах прэміі, ухвалы і крытычныя папрокі... Напісаліся адметныя творы, з'явіліся новыя імёны, перастварылася на родную мову не адна сусветная класічная глыба, адкрылася нечаканым бокам запыленая мінуўшчына... Раздумаешся, нібыта плённы літаратурны набытак маем. А ў душы чамусьці адчуваецца пэўная незадаволенасць, нейкае адчуванне нацягнутасці ў выбары і недаверу ў ацэнках. Спішам гэта на ўзрост і кансерватыўны погляд на сучаснасць. А каб канчаткова




пазбыцца творчага песімізму, занурымся ў чытанне чарговага нумара часопіса «Дзеяслоў», які адкрываецца нізкай вершаў **Людкі Сільновай.** Публікацыя, як заўсёды, у яе лірычна-экспрэсіўным стылі. Але калі раней яе вершы адпачатку здзіўлялі нечаканай асацыятыўнасцю і эмацыйным узлётам, дык цяпер толькі аддаленым рэхам адгукаюцца яны на свой былы срэбна-чараўнічы голас. Аднак, дай Бог, яшчэ здараюцца ў іх радкі з агнём жыцця і экспрэсіўным супрацівам часу. І такія натуральныя пачуцці абуджаюць чытача да высокіх праяў спагады і душэўнасці ў нашым даволі блытаным і прагматычным свеце.

*Дні прайшлі — і зніклі мары,*
*Слоўнік, пантэон і памяць,*
*Нашы песні пад гітару,*
*Нашых вершаў дробных замець...*

Друкуецца другая, заключная, частка рамана **Андрэя Федарэнкі** «Жэтон на метро». Адмысловая дэтэктыўная гісторыя, фінал якой зададзены папярэдне спланаванымі наступствамі... Напрыканцы ўсё абсалютна нечакана заканчваецца «хэпі-эндам», без ахвяр і злачынцаў; адзінокі пажылы паэт, які спрабуе вярнуцца да лірычных пачуццяў першага кахання і пачаткоўскай творчай узрушанасці, у сваіх кампутарных запісах, зробленых ім адносна распаведзеных у рамане падзей, аказваецца на парадак вышэй службовага вопыту прыватнага следчага... Пры ўсім пры тым, як заўжды ў прозе Федарэнкі, чытача захапляюць яго адметная яснамоўнасць, вытанчаная стылёвасць і адпрыродная філасофская скіраванасць, якія дапамагаюць яму годна выйсці з уласна вытканай павучынай пасткі заблытанага сюжэта. *«У следчага і ў аўтара дэтэктываў адна задача — з дэталяў сабраць агульнае. Але, па-першае, у маім тэксце невядомы не толькі злачынца, а і ахвяра, па-другое — я многа думаў і прыйшоў да высновы, што дэтэктыў — стары добры традыцыйны класічны дэтэктыў, дзе ўсё пабудавана на хітрым злачынстве і непазбежным пакаранні, немагчымы ў нашых цяперашніх варунках. У лепшым выпадку ён будзе ўспрыняты як парадокс, у горшым — як нацягнутасць».*

Як на маё меркаванне, раман «Жэтон на метро» ёсць прыхаванай і па-майстэрску выштукаванай пародыяй на сучасны канвеер штампаваных дэтэктываў. Ну і пэўная спроба самабытнага таленавітага пісьменніка выйсці за межы адведзенай яму крытыкай класічна-традыцыйнай (пераважна тэматычна вясковай) творчай прасторы. І ўсё ж, прызнаюся, як для мяне, яго колішнія слуцкія, разбітыя рэвалюцыйным часам, **«нічые»** былі больш *нашымі*, чым адзінокія суверэнныя калекцыянеры сувенірных жэтонаў мінскага метро...

Аднак шмат чаго, узніклага пры чытанні твора, — шарагова і палемічнага — пераважыла вось гэтая, як бы міжвольна ўстаўленая ў тэкст, экзістэнцыйна-філасофская тэза А. Федарэнкі: *«Дзіўна, што нас палохае будучая смерць, але не палохае мінулая. Нас жа не было раней, да нараджэння, мы ўжо як мінімум адзін раз былі мёртвыя. Колькі часу? Столькі, колькі нас не будзе — вечнасць. Цэлую вечнасць мы былі мёртвыя. Значыць, мы ўжо адзін раз прайшлі бясконцасць і ўваскрэслі з яе».* Мажліва, і дзеля гэтага прымхлівым прыхільнікам краснага пісьменства зрэдзьчас варта чытаць сучасныя дэтэктыўныя раманы.

Следам друкуецца нізка вершаў «Знакі жыцця» **Леаніда Галубовіча.**

Надзённыя, у пэўным сэнсе дзённікавыя, нататкі-разважы, некаторыя з якіх можна было б аднесці і да жанру эсэ, публікуе ў часопісе вядомы паэт **Леанід Дранько-Майсюк.** Погляд на чалавечае жыццё збоку і знутры, яго аналіз і мастацкая рэтраспекцыя ў часе. У прыватнасці ў заяўленай падборцы пераважаюць культурна-гістарычныя знакі Масквы часоў савецкага застою, што кантрастуюць з выявамі Масквы сучаснага «застрою»... Найперш згадваюцца месцы культурнага прызначэння, адметныя выбітной архітэктурай, якія наноў ажыўляюцца і эстэтычна «перадаюцца» цяперашняму і, магчыма, перададуцца іншаму часу. Агулам, лірычна-паэтычная экскурсія па памятных месцах былога студэнта Літаратурнага інстытута. І тут, як заўсёды, таленавіты паэт стварае запамінальныя тэксты:

*«Памятаю, як на мяжы сярэдзіны 1970 — пачатку 1980 гадоў ці не ўсе мае знаёмыя на якія толькі хітрыкі не пускаліся, каб займець таганкаўскі вельмі жаданы квіток на тую ці іншую пастаноўку (тады ў гэты прывідны тэатр было надзвычай цяжка патрапіць!), а я — далёкі ад фікуснай таганкаўскай эстэтыкі — пасмейваўся ў душы са сваіх знаёмых, бо не любіў, калі ў мастацтве шкарпэткі нацягваюць на чаравікі, калі талент жывіцца празмерным самавыстаўленнем. Я люблю (і люблю!) мастацтва, сумежнае з далікатнасцю, таму ў тыя гады меў іншы кірунак, аддаваў перавагу тэатру на Малой Броннай, і з выбарам не памыліўся. Дарэчы, і да сцэны на Малой Броннай звычайнаму гледачу цяжка было дастукацца, амаль немагчыма было ўшыцца ў глядзельную залу, бо і тут квіткі разляталіся ўмомант, ішлі нарасхоп (і перш за ўсё на паказы А. Эфраса!), і мой сябар па інтэрнацкім пакоі С. Казначэеў прапанаваў: «Уладкуемся туды мыць падлогу!» Уладкаваліся...».*

Філасоф па адукацыі і бард па прызванні **Алесь Камоцкі** ў сваёй новай нізцы вершаў разважае над часам і вечнасцю дадзенага чалавеку жыцця:

*Прыходзіў сэнс нясмела і часова,*
*Але нядоўгім быў ягоны век, —*
*Галоўны вораг сэнсу, чалавек,*
*Штораз цынічна пераблытваў словы.*

*Цяпер не так, цяпер усё мудрэй –*
*Сівыя камяні жаданні імітуюць,*
*Згубі сваю душу — дадуць табе другую,*
*Бяры, насі і сам яе чым хочаш грэй.*

Друкуецца ўрывак з рамана «Цялец» аднаго з пісьменнікаў старэйшага пакалення **Уладзіміра Ліпскага,** па стылі, вобразнасці (партрэтнасці) і сюжэтнай канве якога можна ўяўляць родных і блізкіх людзей аўтара, прыгажосць беларускай прыроды і знешнюю зменлівасць цяжкасцяў і прасвятленняў савецкага, у тым ліку і ваеннага, часу. Тэкст чытэльны, пісьмо шчырае і даверлівае. Спецыяльна для «сучасных» дзяўчатак працытую гэты фрагмент:

*«Бацька двужыльным удаўся мужыком. У калгасе — ударнік. Возьмецца касіць, пляжыць да поту, да мазалёў. Калі араў на валах, то хадзіў за плугам, пакуль валы перастаўлялі ногі. А прыцемкам, раніцай і ўвечары, рабіў усё для сваёй гаспадаркі. Карове сена нарыхтуй, плот рамантуй, гной з хлява выкінь, дроў у печ назапась, свінчо абсмалі, разбяры. Яго клопат адзін: даць гаспадыні Марыі Адамаўне ўсё-ўсё, каб было чым карміць і дзяцей, і худобу, і курэй. Ён — здабывала, мама — раздавала. Гэтыя функцыі яны так умела выконвалі, што, выбіўшыся з пасляваеннай галоты, сям'я Майскіх не вельмі жыравала, але ніколі і не галадала, нічога ні ў кога не пазычала, нікому не зайздросціла. Жыць з гонарам, прыстойна і сумленна — вось навігатар іх сэрца».*

Нізка вершаў **Наталлі Русецкай** уяўляе сабой чыста лірычны дзённік колазвароту дзён беларускай паэткі, што жыве ў Любліне. На мой погляд, яе тэксты стылістычна блізкія да паэтыкі Марыі Вайцяшонак і Валянціны Аксак, хіба толькі з менш адчувальнай повяззю аўтара з жывым акаляючым светам у яго лёсавызначальных канструкцыях. Але пры гэтым Н. Русецкая, можа, больш тонкая, датклівая і сцярожкая ў вобразных аддалена-затоеных метафарычных асацыяцыях:

*нясу сябе*
*праз лістапад*
*нібы віна*
*паўнюткі келіх*
*і сонца*
*дастае да дна*
*густой*
*гранатавай*
*купелі*
*і грэе*

Урывак з біяграфічнага рамана «Подых Тэмры» **Віктара Стахвюка** з Беласточчыны выдрукаваны на мясцовым гутарковым дыялекце, які ў сваім сінтэзе з'яўляецца вытворным ад беларускага, польскага і ўкраінскага памежных моўных уплываў. Хоць напачатку і нялёгка даецца чытанне, але пры звыканні адчуваецца, што стылёва, сюжэтна і вобразна тэкст напісаны на добрым мастацкім узроўні, хоць і не без хаатычнай разбалансаванасці. Для чытацкай ацэнкі працытую адзін з заключных фрагментаў рамана:

*«Ліжыш і думаеш, і віэдэш, што нэ спочнэш, покуоль хватіт сіл. Будэш іті стэжкою правды і віэры, стэжкою продкув твоіх зо словяно-арыйськоі расы. Расы русув, найстаршоі на Міргард-зэмліэ, з которої вэдэ напрамкі корні своіэ наш, застывшы в дрымоті, белоруські этнос і гінувшэ Пуляшэ, аж проснэтсе, вкінута в компрадорскі сон сусьвіэтноою большэвіёю, сама Русь Біэла і вспуомніт правдіву родословну свою. А я вэрнусь! Я вжэ ворочаюсь! Сюды, на Родіну».*

Вершы **Андрэя Сцепанюка,** усё з таго ж Падляшша, — гэта суровы, шчыры і бязлітасны суд уласна-вобразнага жыцця, вынесены на людзі, але ў такім таемна-безадказным стылі, дзе змест хаваецца за пачуццямі ды эмоцыямі і канчатковы прысуд штораз адкладваецца:

*Пасля слоў давай сядзем і*
*пакаштуем*
*халоднай гарбаты*
*Маглі б закурыць папяроску*
*але гэта робіцца пасля сексу*
*А ў нас толькі скончыліся словы*
*Нуль слоў*
*Нуль думак*
*Нуль вершаў*
*Змярканне*

Нешта ў стылі сацыяльнага фэнтэзі з іранічна-гумарыстычнай падкладкай пад назвай «Фірма» друкуе **Алесь Бычкоўскі** (назваўшы тэкст «амаль крымінальным ***чытвом***» (вылучэнне маё, — *ЛеГал*), — як бачым, гэты новы жанр паступова ўваходзіць у літаратурную моду). Паколькі я сам былы алкаголік (хоць даводзяць, што такіх не бывае), то магу ўскосна пацвердзіць рэалістычную шчырасць і мастацкую праўдзівасць у падобных даволі жывых і адносна майстравітых апісаннях аўтара.

Вязка-навязлівыя вершы **Марыны Юрчык** у рубрыцы «Дэбют» сваімі разгалінаванымі асацыяцыямі намагаюцца пусціць карэнне ў найбольш адчувальныя сферы чытацкай душы, і здаецца, самым удалым з іх гэта ўдаецца...

На першы погляд, вельмі сентыментальная навела **Элізы Ажэшкі** «Бог ведае хто» (пра надзённыя рэаліі паўстанскага атачэння 1863 года) у сваім нечаканым фінале ўздымае гістарычны і філасофскі сэнс бунтарскай і натуральнай нацыянальнай годнасці чалавека. З польскай пераклад зрабіў Анатоль Бутэвіч. Працытую эмацыйны маналог пана Буракевіча, ладныя часткі кажуха якога дзіўным чынам патраціліся на матэрыяльную дапамогу паўстанцам Каліноўскага: *«Няхай панове будуць ласкавыя пры кожнай патрэбе, такой агульнай... пры кожнай такой аказіі, што да грошай, альбо трохі працы якой патрэбна, звяртацца да мяне... Я хачу... я жадаю... хоць нечым паслужыць... нашай маці... бо і я таксама... сын яе... а што шэльма лёс закінуў мяне ў асяроддзе самых чужых на гэтым свеце, то я і не навязваюся нікому... а толькі... д'ябал ведае, што ў сэрцы сядзіць і не дае спакою...».*

Друкуюцца вершы (цяпер ужо шырока вядомага) паэта **Веніяміна Блажэннага** (1921–1999). Выдатная прадмова і пераклады Насты Кудасавай. Пры чытанні складвалася ўражанне, што паэзія аўтара гарманічна пераўвасобілася ў вершы перакладчыцы. Выбітную прозу нядаўняй набеліянткі **Вольгі Татарчук** «Зялёныя дзеці, або Апісанне загадкавых здарэнняў на Валыні...» цудоўна пераклала Марына Шода. **Валянцін Акудовіч** працягвае занатоўваць і друкаваць асноўныя і найбольш значныя этапы як уласнай творчай біяграфіі, так і грамадска-нацыянальных асветніцкіх ініцыятыў і праектаў суверэннага часу — гэтым разам пра стварэнне і дзейнасць Беларускага калегіюма. **Франц Сіўко** піша пра сямейна-лёсавую драматургію вялікага рускага (яснапалянскага) пісьменніка Льва Талстога. **Міхал Талочка** — пра сваіх вясковых (апошніх і помных) земляхоў, пра паступовае згасанне традыцый і культуры малой бацькаўшчыны. **Леанід Галубовіч** рэцэнзуе зборнік вершаў Георгія Ліхтаровіча «Санеты».

Анатацыі новых кніг — у рубрыцы **«Дзеяпіс».** Таксама напрыканцы нумара выкладаецца змест часопісаў за 2019 год.

Не прамініце прачытаць.

**ЛеГал**

ПРЭМІІ

## Прэмія імя Андрэя Белага

Названыя пераможцы найстарэйшай у Расіі літаратурнай узнагароды – прэміі імя Андрэя Белага, якая ўручаецца за наватарскія паэтычныя і празаічныя творы і за найбольш актуальныя гуманітарныя даследаванні.

Прэміяй у намінацыі «Паэзія» ўганараваны адразу два творцы: маскоўскі паэт Андрэй Таўроў (кніга «Плач па Блэйку») і пецярбургская паэтка Ала Гарбунова («Пакуль дагарае азбука»). Пісьменнік і драматург Дзмітрый Данілаў стаў пераможцам у намінацыі «Проза»; яму ўручылі ўзнагароду за некалькі п'ес, якія апублікаваў часопіс «Новый мир» і якія былі пастаўлены ў тэатры «Современник».

Прэмія імя Андрэя Белага, якая існуе з 1978 года, з'яўляецца найстарэйшай незалежнай літаратурнай узнагародай у Расіі. У розныя гады яе лаўрэатамі былі Уладзімір Сарокін, Віктар Пялевін, Саша Сакалоў, Генадзь Айгі, Барыс Гройс, Юрый Мамлееў ды іншыя. Журы прэміі складаецца з вядомых паэтаў, крытыкаў і экспертаў у галіне літаратуры.

## Расійская «Электронная літара»-2019

У маскоўскай прасторы «Community» адбыўся фінал прэміі ў сферы электронных і аўдыёкніг «Электронная літара». Узнагароду заснаваў сэрвіс «ЛітРес» у 2011 годзе, а з 2017-га яе сталі ўручаць незалежным аўтарам і чытальнікам.

У гэтым сезоне ў конкурсе «Электронная літара» прынялі ўдзел 3001 аўтар і 114 чытальнікаў. У кароткім спісе намінантаў «Электроннай літары» назвалі 6 аўтараў і 10 чытальнікаў. Лаўрэатаў прэміі вызначала адмысловае журы: кіраўнік прадзюсарскай кампаніі «Среда» і тэлевядучы Аляксандр Цэкала, галоўны рэдактар партала «Горкий» Канстанцін Мільчын, пісьменнік і рэктар Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага Аляксей Варламаў ды інш.

Лепшай пісьменніцай журы абрала Людмілу Патапчук, аўтарку кнігі «Не обижайте Здыхлика» («Не крыўдзіце Здыхліка») і ўручыла ёй мільён расійскіх рублёў.

## Конкурс імя Шаўчэнкі: прэзідэнцкія прэміі

39 школьнікаў і студэнтаў, якія сталі пераможцамі Міжнароднага літаратурнага конкурса імя Тараса Шаўчэнкі, атрымалі стыпендыі ад прэзідэнта Украіны.

Указ аб прадастаўленні стыпендый пераможцам зацвердзіў Кабінет Міністраў Украіны. Падпісаў яго прэзідэнт краіны. У фінал конкурсу выйшлі 900 вучняў і студэнтаў. Дыпломы атрымалі 388 чалавек. Стыпендыю ж будуць выплочваць на працягу года штомесяц 39 пераможцам. Памер стыпендыі вучням школ – 1420 грыўняў (каля 110 беларускіх рублёў); 1770 грыўняў – студэнтам вышэйшых навучальных устаноў першага-другога ўзроўню акрэдытацыі і 2600 грыўняў студэнтам вышэйшых навучальных устаноў трэцяга-чацвёртага ўзроўню акрэдытацыі.

Конкурс праходзіў сярод вучняў 5–11 класаў, а таксама студэнтаў у чатыры этапы (школьны, раённы, абласны і фінальны). Удзельнічалі не толькі грамадзяне Украіны, але і ўкраінцы дыяспары. За ўвесь час правядзення конкурсу да яго далучыліся больш за 10 мільёнаў украінцаў. Адзначым, што ў Беларусі падобныя стыпендыі не ўганараваныя імёнамі нацыянальных творцаў, а называюцца проста: прэзідэнцкія...

# Фонд Вольгі Такарчук

**Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі Вольга Такарчук запачаткуе ўласны фонд, які будзе ажыццяўляць культурна-мастацкую дзейнасць, а таксама займацца экалагічнымі праектамі і падтрымліваць развіццё грамадзянскай супольнасці.**

Вольга Такарчук плануе ахвяраваць 350 000 польскіх злотых (амаль 82 тысячы еўра) на фонд. Пра гэта паведаміў сайт горада Вроцлава, дзе будзе знаходзіцца рэзідэнцыя фонда.

«Мэта фонда – падтрымка і прасоўванне польскай і сусветнай культуры і мастацтва ў Польшчы і за мяжой. Падтрымка шырокага разумення аховы навакольнага асяроддзя, правоў чалавека, грамадзянскіх свабод, барацьбы з дыскрымінацыяй, падтрымка правоў жанчын, а таксама падтрымка ўсебаковага развіцця рэгіёна Ніжняя Сілезія», – адзначыла Вольга Такарчук. Яна ўдакладніла, што ў сферы культурна-мастацкіх мерапрыемстваў фонд будзе займацца арганізацыяй стыпендый і рэзідэнцый мастакоў і перакладчыкаў. Экалагічная дзейнасць будзе скіравана на ахову і захаванне навакольнага асяроддзя і прыродных умоў чалавечай дзейнасці, пашырэнне і павышэнне інфармаванасці насельніцтва ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, гуманнае абыходжанне з жывёламі і прасоўванне сучасных экатэхналогій. Дзейнасць, звязаная з падтрымкай грамадзянскай супольнасці, будзе ўключаць падтрымку развіцця няўрадавых арганізацый ды ідэю валанцёрства. Праца ў сферы правоў жанчын будзе ажыццяўляцца праз адпаведныя механізмы падтрымкі ўдзелу жанчын у грамадскім і культурным жыцці, у тым ліку праз падтрымку феміністкіх даследаванняў. Дзейнасць, якая садзейнічае абароне правоў і свабод чалавека, будзе звязана, між іншым, з заахвочваннем свабоды слова, свабоднага выказвання думак, а таксама з прадухіленнем усіх відаў дыскрымінацыі.

Польская пісьменніца Вольга Такарчук стала лаўрэаткай Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2018 год. Цырымонія ўзнагароджання адбылася ў Стакгольме 10 снежня мінулага года. У той дзень вроцлаўскія школы правялі дзень чытання літаратуры, і гэтыя чытанні стануць штогадовым мерапрыемствам.

# Дзесяць найлепшых кніг 2019 года па версіі «The Washington Post»

**Апублікаваны спіс з дзесяці найлепшых кніг 2019 года. Галоўнымі тэмамі ў іх сталі расізм, праблемы міграцыі ды сэксуальны гвалт.**




Натхнёны афрыканскай міфалогіяй, лаўрэат Букераўскай прэміі Марлон Джэймс патрапіў у згаданы рэйтынг з кнігай «Чорны леапард, чырвоны воўк». Яе сюжэт разгортваецца вакол пошукавай групы, якая спрабуе знайсці безыменнага хлопчыка. Групе давядзецца прайсці скрозь джунглі, дзіўныя гарады на небе і сустрэць неверагодных істот: троляў, гіганцкіх кажаноў ды д'ябла-крывасмока. Відавочна, што галівудскія магічныя спецэфекты ўсё яшчэ жывучыя і ў літаратуры.

Кніга Біла Макібена «Запінацца» распавядае аб тым, што чалавецтва зрабіла з планетай і як мы можам гэта выправіць. Аўтар імкнецца, каб фраза «кліматычная пагроза» не знікла з лексікі чалавецтва. Ён сабраў найбольш яркую статыстыку, каб данесці да чытача галоўную думку: нашае існаванне знаходзіцца пад пагрозай.

Адна з пераможцаў Букераўскай прэміі 2019 года Бернардын Эварыста стварыла раман «Дзяўчына, жанчына, іншае», які складаецца з некалькіх частак, аб'яднаных у адно цэлае. Раман паказвае жыццё тузіна жанчын рознага паходжання і вопыту ў Вялікабрытаніі. Эварыста ўмела сплятае гэтыя гісторыі разам, ствараючы захапляльную сімфонію жаночых галасоў і дае агляд сучасных праблемаў.

«Добры пастаўшчык — той, які сыходзіць» Джэйсана Дэпарла — захапляльная гісторыя адной філіпінскай сям'і, рассеянай па ўсім свеце: ад Манілы да Абу-Дабі, да Галвестона, штат Тэхас. Гісторыя пра тое, як бацькі пакідаюць сваіх дзяцей на гады, каб адправіцца на заробкі і дасласць дадому грошы — у шмат разоў большыя за тыя, што яны мелі раней. Паколькі міграцыя стала цэнтрам палітычнага змагання ў эпоху Трампа, гэтая кніга дае неабходнае ўяўленне пра глабальны маштаб, але найперш — пра індывідуальных ахвяраў міграцыі.

Шанэль Мілер, ахвяра сэксуальнага гвалту, у кнізе «Ведай маё імя» свядома і трыумфальна аднаўляе сваю гісторыю, малюючы карціну таго, як цяжка ахвярам згвалтавання дамагчыся справядлівасці. У сваёй прозе Мілер апісвае заганную грамадскую сістэму і высоўвае ў сваёй кнізе адно абвінавачванне за другім. «Ведай маё імя» — гэта ўдар пад дых, які, тым не менш, абнадзейвае.

Дэбютны раман сайгонскага паэта Оўшэна Вонга «На зямлі мы ненадоўга цудоўныя» не з'яўляецца аўтабіяграфіяй, але ў значай ступені абапіраецца на падзеі жыцця аўтара. Смелая сумесь гістарычных успамінаў і сэксуальных даследаванняў аформлена як ліст да маці апавядальніка — жанчыны, чыё жыццё стала магчымым дзякуючы вайне ў В'етнаме (яе бацька быў амерыканскім салдатам). Гатоўнасць Вонга вырашыць пытанне ўласнага існавання — адметная рыса кнігі.

«Нічога не кажы» Патрыка Кіфа Радэна — даследаванне праблем Паўночнай Ірландыі. Яно пачынаецца з забойства ў 1972 годзе Джын Маконвіл, аўдавелай маці дзесяці дзяцей, якая падазравалася ў тым, што была брытанскім інфарматарам. Кіф пераплятае сваю гісторыю з постаццю Далорэс Прайс, дзяячкі Ірландскай рэспубліканскай арміі, якая была ўцягнутая ў гісторыю забойства Маконвіл. «Нічога не кажы» — двайны партрэт малавядомай ахвяры і сумна вядомай рэвалюцыянеркі, павучальная гісторыя пра фанатызм моладзі, наступствы гвалту і палітыку забыцця.

Мудрагелістая гісторыя «Незнаёмцы і стрыечныя браты» Леі Хагер Коэн пра сям'ю, якая плануе вяселле ў разбураным доме, мае ўсе рысы рамантычнай камедыі, але, як адзначыла Коэн, гэтая радасць напоўненая надзённымі праблемамі нашай эпохі. У цэнтры рамана — трагічная гісторыя барацьбы за прыбыванне ўльтраартадаксальных габрэйскіх жыхароў у горад. Коэн сур'ёзна ставіцца да камедыі, і гэта бачна ў яе змястоўнай гісторыі: яна смешная, пяшчотная, правакацыйная і мудрая.

«Школа Топека» Бэна Лернэра — вялікі таленавіты тэкст. Лернэр робіць тое, што могуць толькі сапраўдныя раманісты: даследуе стан усёй краіны праз канкрэтныя гісторыі некалькіх персанажаў у маленькім мястэчку. Лернэр вяртае чытача ў Канзас 1990-х гадоў і вымалёўвае лёсы зоркі школьнай каманды і яго маці, псіхатэрапеўта.

Мемуары Сары М. Брум «Жоўты дом» засяроджаны на ўсходзе Новага Арлеана, часткі горада, якую турысты не наведваюць. Жоўты дом з назвы кнігі — дом сям'і Брум, з'яўляецца гонарам, надзеяй і турмой чорнай працоўнай сям'і. Пасля таго, як ён быў разбураны падчас урагану Катрына, ён таксама становіцца сімвалам сучасных праблем: расізм, карпаратыўнасць і выкыванне працоўнай беднаты.

# Пасол і крадзеж

**Пасла Мексікі ў Аргенціне Оскара Рыкарда Валеро адклікаюць на радзіму з-за абвінавачванняў у спробе крадзяжу кнігі з самай прыгожай у свеце і самай вядомай кнігарні аргенцінскай сталіцы Буэнас-Айрэс – «El Ateneo Grand Splendid».**

Камера назірання, усталяваная ў кнігарні, зафіксавала, як спадар Валеро паспрабаваў скрасці біяграфію Джакама Казановы, загарнуўшы яе ў газету. Але на выхадзе 76-гадовы дыпламат быў спынены ахоўнікамі, пасля чаго дастаўлены ў паліцыю.

Мексіканскі міністр замежных спраў прызнаўся: «Я папрасіў Камітэт па этыцы прааналізаваць справу пасла ў Аргенціне, які абвінавачваецца ў крадзяжы кнігі ў вядомай кнігарні. А пакуль што я загадаў яму вярнуцца дадому. Калі будзе пацверджана, што відэазапіс адпавядае рэчаіснасці, ён будзе неадкладна адхілены ад пасады».

Кошт кнігі, якую пасол хацеў выкрасці з кнігарні, 750 аргенцінскіх песа (каля 13 даляраў ЗША).

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы парталаў polukr.net, «ГодЛитературы», «The Washington Post», novostiliteratury.ru і «El Heraldo de México».**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

« Працяг.
Пачатак на стар. 5–6

Для актыву (пра)расійскіх сілаў Гродзеншчыны гэты фэст з'яўляецца адным з цэнтральных мерапрыемстваў года. Падчас яго правядзення ў 2019 годзе асабіста прысутнічалі генконсул РФ Ігар Канякін і намеснік кіраўніка прадстаўніцтва «Россотрудничество» ў Беларусі Леанід Макураў.

14 траўня 2019 года Канякін асабіста ўдзельнічаў у круглым стале «Крым в истории России», прысвечаным пятай гадавіне акупацыі ўкраінскага паўвострава. Мерапрыемства адбывалася на тэрыторыі брэсцкай філіі прадстаўніцтва «Россотрудничество». Ключавымі пытаннямі былі роля Крыму ў рэактывізацыі «русского мира», узаемадзеянне арганізацый «КСОРС» Беларусі з Асамблеяй славянскіх народаў Крыму, а таксама тэма прапаганды і абароны гісторыі ВАВ.

Паказальна, што для ўдзелу ў гэтым форуме быў адмыслова запрошаны госць з Севастопаля Вадзім Калеснічэнка — у 2006–2014 гадах дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны ад «Партыі рэгіёнаў», цяпер старшыня прэзідыума Міжнароднай рады расійскіх суайчыннікаў.


**Вадзім Калеснічэнка ў брэсцкай філіі прадстаўніцтва «Россотрудничество».** Фота blr-brest.rs.gov.ru

За адкрытыя антыўкраінскія погляды Калеснічэнку шмат хто называе зацятым украінафобам. Падчас Рэвалюцыі Годнасці ён выехаў з Кіева ў Севастопаль, пасля расійскай акупацыі Крыму атрымаў грамадзянства РФ. Паводле Цэнтру «Міратворац», з'яўляецца здраднікам Радзімы, сепаратыстам, непасрэдна спрыяў правядзенню Расіяй спецаперацыі па захопе Крыму. У 2015 годзе Служба бяспекі Украіны абвясціла Калеснічэнку ў вышук, яму інкрымінуюць здзяйсненне крымінальнага злачынства паводле ч. 3 арт. 110 КК Украіны — замах на тэрытарыяльную цэласнасць і недатыкальнасць Украіны, звязаны з гібеллю людзей або іншымі цяжкімі наступствамі.

Калеснічэнка таксама вядомы як адзін з суаўтараў праекту «закону Калеснічэнкі-Ківалава», скіраванага на абмежаванне выкарыстання ўкраінскай мовы на рэгіянальным узроўні. Ён жа з'яўляецца адным з тых, хто галасаваў за дыктатарскія «законы 16 студзеня», якія падчас Рэвалюцыі Годнасці шмат у чым сталі прычынай пераходу ад мірнага пратэсту да сілавога супрацьстаяння.

Запрашэнне ў Беларусь абвешчанага ў вышук памагатага



**Удзельнікі фэсту славянскіх баявых мастацтваў.** Фота tut.by

расійскіх акупантаў для ўдзелу ў прапагандыцкай кампаніі, якая апраўдвае акупацыю Крыму, з'яўляецца інфармацыйнай падрыўной дзейнасцю падраздзялення знешнепалітычнага ведамства РФ, якая скіраваная супраць украінскай дзяржавы і здзяйсняецца непасрэдна з тэрыторыі Беларусі. Звяртаем на гэта асаблівую ўвагу МЗС РБ дзеля прадухілення падобных інцыдэнтаў у будучыні.

Генконсулат РФ у Брэсце актыўна спрыяе захопу Расіяй культурніцкай прасторы Беларусі. Толькі за 2019 год расійскія структуры ўсталявалі ў Брэсце аж два бронзавыя бюсты паэта Пушкіна.

Першы бюст быў афіцыйна адкрыты ў чэрвені 2019 года ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы Брэста, якая названая ў гонар гэтага расійскага паэта. Спрыялі ўсталяванню помніка прадстаўніцтва «Россотрудничество» разам з сваёй брэсцкай філіяй, Амбасада і Генконсулат РФ у Брэсце, а таксама фонд «Диалог Культур — Единый Мир», які непасрэдна рэалізуе расійскую стратэгію «soft power» у частцы сваіх міжнародных праектаў.

Ініцыятарам усталявання другога помніка выступіла РГА «Русское общество», непасрэдным рэалізатарам праекта быў Генконсулат РФ у Брэсце. Адказвалі за праект Расійскае ваенна-гістарычнае таварыства і Брэсцкі гарвыканкам. Трохметровы пастамент з бронзавым бюстам Пушкіна адкрылі 11 кастрычніка 2019 года ў скверы ля Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Пушкіна, які таксама атрымаў назву «Пушкінскі».

Паказальна, што падчас урачыстага мерапрыемства аркестр выконваў кампазіцыю «Уголок России», што цалкам адпавядае сапраўднаму значэнню і сутнасці сацыяльна-культурніцкай экспансіі Расіі ў Беларусі. Словы, сказаныя амбасадарам РФ Дзмітрыем Мезенцавым падчас адкрыцця помніка пра «Наше отечество» і «Союзное государство», дадаткова падкрэсліваюць гэта. Пра важнасць захопу культурніцкай прасторы Беларусі сведчыць прысутнасць падчас цырымоніі адкрыцця расійскіх высокіх чыноў, сярод якіх былі намеснік міністра культуры РФ Аўсіенка, намеснік старшыні Камітэту культуры Дзярждумы РФ Шаргуноў, мэр Калінінграда Сіланаў і іншыя.

У кантэксце правядзення захадаў да пашырэння гуманітарна-адукацыйнага ўплыву ў Беларусі расійскія дыпламатычныя ўстановы відавочна надаюць асаблівую ўвагу ўзаемадзеянню з БрДУ і найперш з філалагічным факультэтам гэтага ВНУ. Карпусы БрДУ знаходзяцца ля вуліцы, названай у гонар Пушкіна. Таксама ў Брэсце яго імем названыя ліцэй і яшчэ адна, дзіцячая бібліятэка. Горад проста перанасычаны помнікамі і найменнямі, звязанымі з Пушкіным, якога любым чынам намагаюцца зрабіць для беларусаў «сваім».

Пад непасрэднай апекай расійскіх структур на Брэстчыне ў Кобрыне знаходзіцца і музей душыцеля вызвольнага паўстання ў Беларусі А. Суворава.

Цікава, што Генконсулат РФ узаемадзейнічае і з камандаваннем 38-й асобнай дэсантна-штурмавой брыгады Сіл спецыяльных аперацый УС РБ, якая дыслакуецца ў брэсцкім мікраёне «Паўднёвы гарадок». Напрыканцы кастрычніка 2019 года супрацоўнікі Генконсулату наведалі завяршальны этап супольных расійска-беларускіх тактычных вучэнняў на палігоне «Брэсцкі» з удзелам вайскоўцаў 38-й АДШБр. Падчас правядзення гэтых вышкалаў на тэрыторыі Беларусі некалькі тыдняў дыслакаваліся больш за 350 вайскоўцаў 137-га парашутна-дэсантнага палка 106-й паветрана-дэсантнай Тульскай дывізіі УС РФ, асабовы склад якога ўдзельнічаў у баявых дзеяннях на Данбасе.

Мы адмыслова раскрылі ключавыя аспекты дзейнасці Генкансулату РФ у Брэсце толькі за 2019 год. Яго дзейнасць на тэрыторыі Заходняй Беларусі за больш чым чвэрць стагоддзя прывяла да значнага павелічэння ўплыву Расіі ў гэтым рэгіёне перадусім у сацыякультурнай і гуманітарна-адукацыйнай сферы. Падобныя дзеянні Расіі ў Крыме, каталізатарам якіх быў Генконсулат РФ у Сімферопалі, сталі адным з галоўных чыннікаў амаль бесперашкоднай акупацыі паўвострава і масавай здрады прадстаўнікоў украінскіх сілавых ведамстваў.



**Афіцыйнае адкрыццё бюста А.Пушкіна. Злева направа: кіраўнік адміністрацыі Ленінскага раёна Брэста В.Мілашэўскі, генконсул РФ І.Канякін і намеснік кіраўніка прадстаўніцтва «Россотрудничество» ў РБ Л.Макураў.** Фота facebook.com/RusConsBrest

З улікам усяго масіву інфармацыі, пададзенага ў чатырох частках расследавання, якое праводзілася цягам некалькіх месяцаў, можна сцвярджаць, што падраздзяленні знешнепалітычнага ведамства Расійскай Федэрацыі, апроч падтрымкі задэклараваных культурніцкіх і навуковых сувязяў, гуманітарнага абмену, праводзяць сваю дзейнасць у нашай краіне як:

- рэзідэнтура знешняй выведкі расійскіх спецслужб — Галоўнага ўпраўлення Генштабу Узброеных Сілаў РФ (былое ГРУ), Службы знешняй выведкі і Федэральнай службы бяспекі, — якая, у сваю чаргу, валодае значным патэнцыялам для:
  - здзяйснення выведвальна-агентурнай дзейнасці, вербавання прадстаўнікоў ваенна-палітычнага кіраўніцтва, рэгіянальнай наменклатуры, бізнес-асяроддзя і ўплывовых персон грамадзянскай супольнасці Беларусі;
  - здзяйснення выведкі, палітычнага шпіянажу і дыверсійнай дзейнасці;
  - правядзення актыўных мерапрыемстваў у межах забеспячэння рэалізацыі «Союзного государства»;
  - каардынацыі і карэктавання інфармацыйна-псіхалагічных аперацый супраць вышэйшага ваенна-палітычнага кіраўніцтва Беларусі, а таксама прадстаўнікоў журналісцкага асяроддзя і грамадзянскай супольнасці;
  - выкарыстання тэрыторыі Беларусі для правядзення інфармацыйнай вайны, інфармацыйна-псіхалагічных спецаперацый, дэзінфармацыі, інфармацыйных атак і іншых дэструктыўных дзеянняў у дачыненні да трэціх краін;
  - правядзення ваенна- і навукова-тэхнічнай выведкі перспектыўных і інавацыйных навукаёмістых прадпрыемстваў, найперш прадпрыемстваў ВПК Беларусі;
  - здзяйснення транснацыянальнай кантрабанды з выкарыстаннем дыпламатычных каналаў;
- адзін з асноўных рэалізатараў стратэгіі «soft power» у Беларусі, з дапамогаю якой Расія намагаецца закансерваваць нашу краіну ў сваёй культурніцкай, гуманітарнай і сацыяльнай прасторы. Стратэгія рэалізуецца ў магістральным напрамку размывання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці і ўмацавання светапогляднай дактрыны «русского мира». Пры гэтым адбываецца:
  - пашырэнне гуманітарна-адукацыйнага ўплыву ў Беларусі;
  - сацыяльна-культурніцкая экспансія Расіі ў Беларусі, сістэмная дзейнасць па захопе культурніцкай прасторы, выкарыстанне «сакральных месцаў памяці»;
  - уздзеянне на фарміраванне беларускай нацыянальнай памяці ў межах рэалізацыі расійскага неаімперскага праекту;
  - актыўнае задзейнічанне міфалагемаў «единое Отечество», «единая историческая память», «один (разделенный) народ»;
  - курыраванне разнастайных ваенна-патрыятычных і парамілітарных фарміраванняў, актыўнае залучэнне ў іх беларускай моладзі;
  - агульная каардынацыя і кантроль актыву (пра)расійскіх грамадскіх і культурніцкіх арганізацый у Беларусі, узаемадзеянне з ветэранскімі арганізацыямі;
  - рэалізацыя транспамежнай супрацы між суседнімі абласцямі Беларусі і РФ дзеля ўзмацнення інтэграцыйнага паглынання на рэгіянальным узроўні.

Разам з тым дыпламатычныя структуры МЗС РФ у Беларусі выконваюць функцыі і задачы па спрыянні эканамічнай экспансіі РФ, якая прадугледжвае правядзенне комплексу дзеянняў дзеля прымушэння да інтэграцыі ў межах «Союзного государства». Размова перадусім пра эканамічнае, а разам з тым і палітычнае паглынанне Беларусі.

Расійская імперыякратыя зацікаўленая ў значным павелічэнні ўразлівасці ўсёй сістэмы нацыянальнай бяспекі Беларусі. Гэта неабходна для мажлівага канчатковага вырашэння «беларускага пытання», у межах якога могуць быць рэалізаваныя любыя сцэнары па дэстабілізацыі і наступнаму паглынанню Беларусі Расіяй. У гэтых умовах неабходнасць агульнанацыянальнай кансалідацыі, аб'яднання ўсіх здаровых патрыятычных сілаў Беларусі набывае стратэгічнае значэнне. Абарону краіны мы павінны здзяйсняць адзіным магутным фронтам.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Гадавіна захопу Штазі

Немцы абмяркоўваюць цікавую дату — 30 гадоў захопу маніфестантамі штаб-кватэры Штазі — Міністэрства бяспекі ГДР. Прычым захоп адбыўся падчас маніфестацыі. Удзельнікі акцыі, што пабачылі абсалютную пасіўнасць ахоўнікаў, прарваліся ўнутр офісу і засталіся там на нейкі час. Праўда, ніякіх вязняў рэжыму і слядоў катаванняў у пакоях Штазі яны не знайшлі. Затое былі знойдзеныя склады з дэфіцытнымі ў ГДР прадуктамі і алкаголем. Адным з парадоксаў захопу штаб-квартэры чэкістаў было тое, што яна планавалася як перформанс. Арганізатары акцыі — у будучым чальцы партыі «Зялёныя», у сваіх пракламацыях выступалі супраць любога гвалту. Усё гэта дае падставу некаторым сучасным гісторыкам казаць, што напад на міністэрства быў арганізаваны агентамі заходненямецкіх спецслужбаў, якія далучыліся да маніфестацыі. Не менш цікавая версія, што апісаная падзея стала сімвалічным знакам для тых апаратчыкаў, хто, нягледзячы на падзенне Берлінскай сцяны ўвосень 1989-га, марыў неяк захаваць ГДР. У гэты час яны намагаліся кансалідаваць дэмаралізаваныя рэшткі вертыкалі. Аднак захоп штаб-кватэры Штазі давёў, што павярнуць ход гісторыі ўжо не атрымаецца.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ЭСТОНІЯ. Антарктыда — зямля эстонцаў?

Расійская патрыятычная грамадскасць гучна святкуе 200 гадоў марской экспедыцыі Фадзея Белінсгаўзена і Міхаіла Лазарава, якая ў 1820 годзе, як лічыцца большасцю гісторыкаў, канчаткова давяла існаванне Антарктыды. Не абышлося і без скандалаў. Манаполію расіян на адкрыццё Антарктыды паспрабавала перахапіць Эстонія. Аказваецца, у Таліне лічаць, што адкрыццё мацерыка — гэта заслуга эстонцаў. Мала хто ведае, што ідэю экспедыцыі распрацаваў адмірал Іван Крузенштэрн — выхадзец з астзейскіх немцаў, ураджэнец эстонскага Рапеля. Кіраўніком экспедыцыі быў іншы астзейскі немец, выхадзец з эстонскага вострава Саарэмаа Фадзей Белінсгаўзен. На падставе гэтых фактаў Эстонія лічыць адкрыццё Антарктыды сваім гістарычным дасягненнем і нагодай для нацыянальнага гонару, што і дэманструе на вышэйшым палітычным узроўні. Напярэдадні юбілею эстонская прэзідэнтка Керсці Кальюлайд выправілася з круізам у Антарктыку, распавядаючы мясцовым палярнікам, што «эстонцы — гэта нацыя маракоў». У рамках візіту яна таксама дадала, што эстонская дзяржава плануе гэтым летам адкрыццё помніка Белінсгаўзену на востраве Саарэмаа, што стопрацэнтна будзе разглядацца ў Расіі як правакацыя.

**Паводле латышскай прэсы**

### ЗША. Сцеражыся Трампамолу!

Прагрэсіўная прэса ЗША падзялілася сенсацыяй. Высвятляецца, што ў шэрагу штатаў працуе моладзевая арганізацыя Border Patrol Explorers. На першы погляд, гэта нешта сярэдняе паміж скаўтамі і гістарычнымі рэканструктарамі, якія цікавяцца часамі Дзікага Захаду. На самай справе, падчас заняткаў чальцы арганізацыі вывучаюць, як змагацца з нелегальнымі мігрантамі або гандлярамі наркотыкаў у гарадскіх умовах. Больш за тое, час ад часу падлеткаў вывозяць на мяжу з Мексікай, каб папрактыкавацца са зброяй у руках лавіць мігрантаў. Прэса таксама піша пра кантакты маладых баявікоў, якіх ужо больш за тры тысячы, і цэнтры, якія, мяўляў, блізкія да штабу цяперашняга гаранта. Як і варта было чакаць, наяўнасць такіх сувязяў падносіцца праз прызму канспіратыўных планаў Трампа дэстабілізаваць сітуацыю ў выпадку пройгрышу на выбарах увосень. Зрэшты, магчыма, гэта толькі пралог сапраўднага скандалу. На пачатку тыдня Трамп анансаваў удзел у акцыі «Марш за жыццё» — буйной маніфестацыі амерыканскіх праціўнікаў абортаў у сталіцы. Яшчэ ніводны амерыканскі кіраўнік не наведваў такое мерапрыемства, сярод удзельнікаў якога традыцыйна шмат радыкалаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Пуціну дапаможа Вуду?

Ёсць у Афрыцы маленькая дзяржава — Рэспубліка Тога, якой кіруе прэзідэнт Фор Эсазімна Гнасінгбе. Ён займае сваю высокую пасаду трэці тэрмін запар у выніку канстытуцыйнай рэформы, якая была праведзеная парламентам пасля захопу прэзідэнтам улады. Аднак у рэгіёне краіна Тога больш вядомая сваімі ведзьмакамі культу Вуду. Зараз навыкі афрыканскіх ведзьмакоў будуць імпартаваныя ў Расію. Лідар бурацкай рэлігійнай арганізацыі шаманаў «Тэнгэры» Баір Цырэндаржыеў падпісаў дамову з вярхоўным святаром Тога наконт абмену вопытам. Дэлегацыя бурацкіх шаманаў таксама наведала рытуал прыхільнікаў Вуду. Па выніках візіту ў Афрыку Цырэндаржыеў заявіў, што вучэнне Вуду будзе выкарыстана ў імя інтарэсаў радзімы. Як ні забаўна гучыць, але перш за ўсё Вуду хочуць прымяніць для паспяховай канстытуцыйнай рэформы, якая цяпер адбываецца ў Расіі. Гэта можа быць смешна, але, як лічаць многія афрыканцы, жрацам Вуду з Тога ў свой час удалося пры дапамозе чараў нават патапіць марскі кацер.

**Паводле расійскай прэсы**



Фота www.barometr.kg

# Гамлет па-казахску

Алег НОВІКАЎ

**Шкада, што Уільям Шэкспір не дажыў да нашага часу. Ён наўрад ці прайшоў міма жарсцяў, якія цяпер пануюць у сям'і першага прэзідэнта Казахстана.**

У аўтарытарных краінах, дзе пры ўладзе знаходзяцца сямейныя кланы, толькі прафан не ведае фігуру пераемніка цяперашняга кіраўніка. Калі не будзе форс-мажору, штурвал улады павінен атрымаць адзін з яго старэйшых дзяцей. Таму ў дачыненні да Казахстана прэтэндэнтам нумар адзін на трон лічылася Дарыга Назарбаева — старэйшая дачка прэзідэнта, якая цяпер займае пасаду спікера сената.

Дарыга ўзначаліла спіс фаварытаў толькі апошнім часам, паколькі раней ёй давялося доўга апраўдвацца за шлюб з алігархам Рахатам Аліевым. Апошні аказаўся настолькі кепскім зяцем, што пачаў зліваць на Елбасы кампрамат, і нават паспрабаваў узначаліць апазіцыю. Скончылася гэта ўцёкамі ў Аўстрыю, дзе Аліеў і памёр, не без дапамогі (так, прынамсі, лічыць шмат хто) казахскіх спецслужбаў. Не дзіўна, што Дарыга трапіла ў няміласць. Спатрэбілася шмат часу, каб бацька забыўся пра былое, вярнуў яе ў блізкае атачэнне і даў пасаду ва ўладзе, якая дазваляла разлічваць на магчымасць працягу дынастыі.

І раптам нешта пайшло не так. Катавасію ў назарбаеўскім доме выклікала серыя допісаў у сацсетках Айсултана Назарбаева — малодшага ўнука Елбасы і сына Рахата Аліева. Таго самага Айсултана, які не так даўно стаў героем брытанскіх таблоідаў: будучы «пад кайфам», ён у Лондане пакусаў паліцэйскага. На бераг Тэмзы ён трапіў як адзін з функцыянераў казахскага футболу. Спроба ўзяць копа на зуб каштавала мажору ўмоўнага тэрміну і курса лячэння ад нарказалежнасці. Цяжка сказаць, ці пазбавіўся пацыент ад залежнасці, паколькі на прыгоды яго пацягнула зноў.

Зранку 22 студзеня ў Фэйсбуку Айсултана пачалі з'яўляцца вельмі дзіўныя допісы. Айсултан пісаў, што доўгі час ён знаходзіўся ў турме, і ў той час яго ФБ-старонкай кіравала маці Дарыга ў тандэме з былым старшынёй Камітэта нацыянальнай бяспекі. Увогуле, наркаманам ён стаў таксама дзякуючы роднай маці, якая прымусіла яго ўжываць наркотыкі з дапамогай нейкіх чараў. А на закуску аўтар

**Дапускаюць, што хлопцам сапраўды рухае матыў помсты за бацьку Рахата Аліева, забойства якога, як лічаць амаль усе, замовіў дзед. Сваімі апошнімі скандальнымі ўчынкамі хлопец дыскрэдытуе дзеда, адначасова ствараючы інфармацыйны фон**

выдаў сенсацыю, напісаўшы, што яго сапраўдны бацька — Нурсултан Назарбаеў. Гэтай таямніцай Дарыга, быццам бы, і шантажуе Елбасы.

Нельга сказаць, што публіка адразу паверыла ў тое, што было напісана. Аднак колькасць скептыкаў значна скарацілася пасля таго, як стала відавочная нервовая рэакцыя ўлады. Напрыклад, тая ж Дарыга адмовілася каментаваць паведамленні сына. Спробы давесці, што Айсултан не можа быць біялагічным сынам Назарбаева, пакуль таксама выглядаюць вельмі цьмяна. Таму і з'явілася падстава шукаць нейкую логіку ў версіях Айсултана.

Агулам карціна, што складваецца, выглядае дзікавата, аднак, як вядома, у багатых свае забабоны. Дапускаюць, што хлопцам сапраўды рухае матыў помсты за бацьку Рахата Аліева, забойства якога, як лічаць амаль усе, замовіў дзед. Сваімі апошнімі скандальнымі ўчынкамі хлопец дыскрэдытуе дзеда, адначасова ствараючы інфармацыйны фон, каб засцерагчыся ад магчымай фізічнай ліквідацыі з боку шматлікіх ворагаў унутры сям'і.

Так ці інакш, пакуль хайп працягваецца. І гэта не дзіўна, бо тэма пра тое, што ў сям'і прэзідэнта былі інцэсты або практыкуюць вядзьмарства, цудоўна пасуе постсавецкай масавай свядомасці. Свой унёсак у раскрутку скандалу робяць і плёткі наконт жудаснай помсты, якую сям'я Назарбаева падрыхтавала для свайго паўліка марозава. Пішуць, што хлопца ўжо забралі з наркалогіі, каб змясціць у дом вар'ята з вельмі суровым унутраным рэжымам.

Незвычайныя метамарфозы казахскай палітыкі апошніх дзён каментуе НЧ прафсаюзны актывіст з Казахстану **Айнур Курманаў**.

«Гэтыя скандальныя прызнанні кажуць пра велізарнае напружанне і супярэчнасці ўнутры кіруючай сям'і Назарбаева, дзе на самай справе няма ніякага адзінства, — мяркуе ён. — Не кажучы ўжо пра вельмі скандальны лад жыцця, які ўласцівы чальцам сям'і. Усё гэта разбурае іканастас Назарбаева і павагу да Дарыгі як яго пераемніка. Пра хуткае падзенне аўтарытэту Елбасы сведчыць новая падзея, якую яшчэ ўчора было цяжка нават уявіць, — ва Уральску людзі публічна запатрабавалі не называць адзін з цэнтральных праспектаў у гонар першага прэзідэнта. Ці не ўпершыню за доўгі час дазволю сабе дапусціць, што дынастыя Назарбаевых хутка не будзе кіраваць Казахстанам».

# Шоу пачынаецца

Алег НОВІКАЎ

**У далёкім штаце Аёва 3 лютага, па сутнасці, пачынаецца галоўная палітычная падзея 2020-га — выбары прэзідэнта ЗША.**

У савецкі час, памятаецца, назва штата Аёва выклікала ў памяці выключна радкі дзіцячага абразлівага вершыка «В штате Айова жизнь... очень хороша!». Па ходзе глабалізацыі стала вядома, што з гэтай Аёвай не ўсё так проста. Нягледзячы на тое, што ўся Аёва — яшчэ той калгас, раз на чатыры гады да яе прыцягнутая ўвага ўсяго свету. Менавіта тут раз на чатыры гады пачынаюцца партыйныя праймерыз прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта ЗША.

Прычым у Злучаных Штатах вельмі папулярны тэзіс, нібы ў Аёве і вырашаецца лёс медыя, падтрымку спонсараў і самае галоўнае — статус лідара гонкі. Апошняе можа паўплываць на рашэнне выбаршчыкаў у іншых штатах.

Няма сумненняў, што ў Элізабет Уорэн і чальцоў яе каманды перад вачыма гісторыя трыумфу Барака Абамы, які на праймерыз у 2008 годзе выходзіў далёка не як без пяці хвілінаў прэзідэнт. Але нечаканы для шмат каго поспех у Аёве даў яму адразу 10 працэнтаў росту папулярнасці, у тым ліку надзяліўшы статусам кандыдата, здольнага прапанаваць краіне сістэмную альтэрнатыву.

Паўтарыць шлях Абамы для мадам Уорэн, а таксама для іншых кандыдатаў другога эшалону будзе далёка не проста. У лідарах гонкі пакуль аксакалы — Джо Байдэн і Берні Сандэрс. Першы дыхае Уорэн у спіну ў Аёве з адрывам у адзін працэнт. Другі, гледзячы па ўсім, атрымае лаўры пераможцы на праймерыз у штаце Нью-Гемпшыр. галасаваць на праймерыз будуць адразу ў 14 штатах.

Гэта галасаванне лічыцца ледзь не фатальным для агульнага зыходу праймерыз, паколькі электарат дэмакратаў у многіх з тых штатаў складаюць афраамерыканцы, іспанамоўныя і дэмакраты-цэнтрысты. Кожная з гэтых груповак можа вызначыць канчатковы вынік на карысць аднаго з прэтэндэнтаў. Напэўна таму штаб Байдэна, калі верыць прэсе, практычна не надае ўвагу Аёве, факусуючыся на штатах, якія галасуюць у Super Tuesday.

Цікава, што 3 лютага свайго кандыдата на нацыянальны канвент абяруць і рэспубліканцы Аёвы. На іх будуць супернічаць не толькі фанаты Дональда Трампа, але і яшчэ двух кандыдатаў — Джо Уолш і Біл Уэлд. Цяжка зразумець, што прымусіла іх падаць заяўкі на ўдзел у праймерыз. Прынамсі, пакуль няма ніякіх прыкмет таго, што хтосьці зможа аспрэчыць у Трампа


Фота Reuters

Элізабет Уорэн, Джо Байдэн і Берні Сандэрс — лідары рэйтынгу сярод выбаршчыкаў-дэмакратаў

усёй прэзідэнцкай кампаніі. З улікам таго, што на мясцовых праймерыз абіраецца толькі адзін дэлегат на нацыянальны партыйны канвент, які высоўвае кандыдата ў прэзідэнты, заява вельмі дзіўная. Справа ў тым, што мізэр дэлегатаў ад Аёвы кампенсуе нейкая містыка, якая, перш за ўсё, тычыцца дэмакратаў. З 1976 года, каб стаць пераможцам праймерыз дэмакратаў, і ў выніку прэзідэнтам, спачатку трэба абавязкова выйграць у Аёве. Выключэннем быў толькі Біл Клінтан у 1992 годзе.

У гэтае павер'е, напэўна, больш за ўсё сёння верыць Элізабет Уорэн, якая карыстаецца найбольшай падтрымкай выбаршчыкаў-дэмакратаў Аёвы. Паколькі ў агульнанацыянальным рэйтынгу кандыдатаў яна толькі трэцяя, поспех 3 лютага для яе вельмі-вельмі важны. Пераможца атрымлівае ўвагу Там 13 лютага адбудуцца наступныя праймерыз.

Увогуле, аналітыкі адзначаюць, што цяперашняя кампанія 77-гадовага Сандэрса праходзіць «з вялікім энтузіязмам». Аднак, як лічаць эксперты, у дэмакрата-сацыяліста, які падабаецца маладзёжнаму электарату, не так шмат шанцаў стаць супернікам Трампа на выбарах. На думку палітолагаў, яго ідэі «занадта левыя» для дэмакратычнага істэблішменту.

Пасля двух праймерыз, думаецца, большасць з 12 жадаючых стаць кандыдатам ад дэмакратаў, пачне паступова пакаваць валізы. Тых, каму ўдасца набраць больш-менш прыстойны ўраджай галасоў (акрамя Уорэн, Байдэна і Сандэрса гэта можа быць Піт Бутыджыч) і застацца ў гонцы, чакае наступнае выпрабаванне — Super Tuesday (суперчацвер) 3 сакавіка, калі намінаванне на пасаду кандыдата ад рэспубліканцаў на прэзідэнцкіх выбарах.

Таму, хутчэй за ўсё, рэспубліканскія праймерыз будуць фармальнасцю. Увага рэспубліканцаў будзе цалкам прыцягнутая да выбараў кандыдата ад дэмакратаў. Пакуль Трамп найбольш баіцца атрымаць у суперніку Джо Байдэна. Лічыцца, што толькі Байдэн з яго рэнамэ вопытнага палітыка можа адкусіць на выбарах частку электарату рэспубліканцаў.

Аднак ужо цяпер ажыятаж вакол будучых выбараў настолькі зашкальвае, што, падаецца, канкрэтнае прозвішча пераможцы асабліва нічога не будзе вырашаць. Хто б ні пераміг на праймерыз дэмакратаў, — ён будзе жорстка крытыкаваць Трампа. Адпаведна, Трамп будзе бязлітасным да любога з дэмакратаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Андэрс Эка


Фота reseaupresidents.eu

Старшыня Вярхоўнага суда Швецыі і яго калегі прынялі, паводле меркавання прэсы, «эпахальнае рашэнне», якое тычыцца саамаў — нешматлікага фіна-ўгорскага народу, які жыве на поўначы краіны.

Доўгі час саамы лічыліся ў Швецыі людзьмі другога гатунку, і ўвесь час намагаліся атрымаць для сваёй грамады годныя правы. Днямі быў зроблены прарыў: суд пад кіраўніцтвам Андэрса Эка прызнаў за саамамі права вызначаць правілы палявання і выкарыстання зямлі на частцы тэрыторыі муніцыпалітэта Gällivare (гэтую зямлю шведы каланізавалі прыкладна ў XVII–XVIII стагоддзі).

Каля дзесяці гадоў таму саамы пачалі судовую цяжбу за вяртанне ім былых правоў. Спатрэбілася 10 працэсаў у трох інстанцыях, каб ім зноў дазволілі самім вызначаць, як паляваць або лавіць рыбу. Пры гэтым канчатковае рашэнне было абгрунтавана агульным правам карэннага насельніцтва, якое па часе пераўзыходзіць шведскае заканадаўства і існуе «з глыбокай даўніны». Такім чынам, упершыню ў Швецыі вынесена судовае рашэнне, якое надае права на ўласнасць або землекарыстанне на падставе гістарычнага прэцэдэнту.

Гэтае рашэнне можа стаць прэцэдэнтам для падобных працэсаў у іншых раёнах краіны. З часам, на думку экспертаў, юрыдычны аргумент, які сфармуляваў Андэрс Эка і яго калегі, можа быць выкарыстаны і ў іншых краінах.

### Нікол Пашынян



Прэм'ер Арменіі, які прыйшоў да ўлады ў выніку перамогі Плошчы ў 2018 годзе, заявіў, што ледзь не стаў ахвярай «гібрыднага дзяржперавароту». Пра гэта больш падрабязна распавёў сакратар Рады бяспекі краіны Армен Грыгаран.

«Магу сказаць, што яго (пераварот) атрымалася прадухіліць. І цяпер гэтае пытанне цалкам знятае. Вядзецца расследаванне, калі раптам паўстане неабходнасць распачаць крымінальную справу, то яна абавязкова будзе распачатая», — распавёў Грыгаран. Хто быў арганізатарам путчу, улады не называюць. Хіба што той самы сакратар Рады бяспекі намякнуў на ранейшыя ўлады: тыя «спрабавалі тарпедаваць дзейнасць урада», які прыйшоў да ўлады ў выніку «аксамітнай рэвалюцыі». Паводле яго слоў, контррэвалюцыйным сілам удалося прыцягнуць на свой бок «людзей, якія ім паверылі», аднак у іх нічога не атрымалася.

Такое цмянае тлумачэнне выклікала недавер у медыя. Тым больш, што ў Службе нацыянальнай бяспекі Арменіі заявілі: яны не валодаюць ніякай інфармацыяй наконт дзяржаўнага перавароту. У гэтым плане заявы Пашыняна разглядаюць, хутчэй, як нейкія пагрозы чальцам палітыкуму і судзейскага корпуса, якія знаходзяцца ў апазіцыі. Не выключаюць, што прэм'ер папросту ўліп у гісторыю з-за аднаго родзіча сваёй жонкі. Той запусціў у СМІ тэму перавароту, у якую маглі паверыць некаторыя сілавікі.

### Жанін Аньез


Фота Reuters

Часовая выканаўца абавязкаў прэзідэнта Балівіі вылучыла сваю кандыдатуру на пасаду кіраўніка дзяржавы на выбарах, якія пройдуць 3 траўня.

Як вядома, у кастрычніку 2019-га апазіцыя аспрэчыла пераабранне прэзідэнта Эва Маралеса, і з дапамогай сілавікоў дамаглася яго выезду з краіны. Аднак поўнаму поспеху путчу перашкодзіла мабілізацыя індзейцаў — прыхільнікаў Маралеса, і дамінаванне яго партыі «Рух да сацыялізму» (MAS) у ніжняй палаце парламента. У выніку было дасягнутае кампраміснае пагадненне пра новыя выбары прэзідэнта з удзелам прадстаўніка партыі MAS. Сёння яе прадстаўнік лідзіруе ў апытаннях папулярнасці кандыдатаў у прэзідэнты з 26 працэнтамі падтрымкі. Апаненты балансуюць на ўзроўні 12–17 працэнтаў, хаця шанцы перамагчы яшчэ не згубілі.

Пахаваць іх канчаткова можа Жанін Аньез. Справа ў тым, што, прымаючы прысягу часовай выканаўцы абавязкаў прэзідэнта, яна абяцала не ўдзельнічаць у выбарах. Тое, што яна парушыла слова, выстаўляе ўсіх арганізатараў перавароту не вельмі сумленнымі палітыкамі. Нездарма ўвесь кабмін Аньез ужо пайшоў у адстаўку. Балаціроўка Аньез таксама садзейнічае фрагментацыі антымаралеўскай апазіцыі і рэваншу Маралеса.

# Нявольнікі Рэйха

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Набор рабочай сілы гітлераўцы праводзілі як пры блакадах, помсцячы за дапамогу партызанам, так і планава. Перапраўляць у Трэці Рэйх працаздольнае насельніцтва аказалася выгадней, чым паліць яго разам з вёскамі. Тым болей, што бліцкрыг не атрымаўся, рэсурсы заканчваліся, і справа хілілася да бясслаўнага канца.**


Яшчэ не аднoўлены Рэйхстаг


Ірына Загорская сярод параненых. Веймар, 1946 год

Людзей забіралі звычайна сем'ямі. З дзядулямі і бабулямі, з малалеткамі-дзецьмі, ахвотней — моладзь. Мая маці расказвала, як да іх у хату (тады Ігуменскі раён) зайшоў немец, які зганяў на вываз маладых. Сёстры цікавалі, высунуўшыся з-за коміна. Немец паказаў рукою: «Хавайцеся», а сам выйшаў, быццам нікога не знайшоў.

Мужчын і падлеткаў аддзялялі і адпраўлялі на рамонтныя заводы, там было цяжэй за ўсё. Кабеты і старэйшыя батрачылі на памешчыкаў-баўэраў і цалкам залежалі ад іх.

Вось як, са слоў «дзяцей вайны», што родам з Лагойшчыны, адбываўся вываз на чужыну

Жыхароў Якубавічаў Гаравых сабралі натоўпам на выгане. Немец пачакаў, пакуль Кляра Саўрыцкая даварыць яйкі (так вымаўлялі ў вёсцы імя Клара. — Г.К.) Немцы адправілі гаспадара прывесці каня з выпасу. Не было дома сына Валодзі — пасвіў карову з цёткай Паўлінай, абое ў выніку засталіся дома. З сабою мусілі ўзяць дачку Надзю і асірацелую пляменніцу Несцера Марыйку Локаць.

Адзін з паліцаяў шапнуў людзям: «Чаго вы стаіцё? Разбягайцеся!», а другі прыгразіў яму аўтаматам. Якубаўцаў калонай пагналі на Лагойск. Саўрыцкія вярнуліся на радзіму без Несцера — той счапіўся са сваім баўэрам і збіў яго ворчыкам ад плуга. Раз'юшаны гаспадар падняў работніка на вілы.

Векавуха-Надзя павінна была ў 1990-х гадах атрымаць кампенсацыю ад ФРГ за прымусовы вываз. Не паспела: цётка памерла ў Бараўлянах, дзе жыла і працавала. Пляменнікі складваліся, каб годна правесці яе ў апошні шлях.

Рацькаўскіх забіралі двойчы: у першую блакаду схапілі чалавек дзесяць. Сярод іх былі Іван Жылянін, ляснічы Марка, брат Маркі каваль Мікола, а яшчэ Трахім — мужык Волькі Жардзецкай, якую забралі пазней і за якою ўвязалася сястра. Марыйка трапіла на чужыну, можна сказаць, за кампанію.

Успамінае Раіса Беразоўская: «Уяўляю, як балюча было бабулі, калі забіралі ў Германію старэйшую дачку. А тут яшчэ малодшая, зусім дзяўчо, не разумеючы, што да чаго, ніяк не хацела разлучацца з сястрой, чаплялася за яе і зацята паўтарала: "Я з Волькай! Я з Волькай!" Так і трапілі абедзве ў батрачкі да баўэраў».

Іх аднавяскоўвец Іван Жардзецкі трапіў у Чэхію, у лагер для ваеннапалонных. Пры наступленні Чырвонай Арміі фашысты планавалі знішчыць вязняў, але чэшскія патрыёты вывелі групу ў бяспечнае месца. Тыя перайшлі праз Судэты, а потым папоўнілі шэрагі чырвонаармейцаў. Вярнуўшыся, Іван з Марыяй узялі шлюб і мелі траіх дзяцей. Іван Нікіфаравіч выкладаў нямецкую мову ў Янушкаўскай сярэдняй школе. Першая яго турыстычная паездка была ў Чэхаславакію, дзе ён адшукаў сваіх ратавальнікаў. Мы, яго вучні, не ведалі падрабязнасцей біяграфіі настаўніка: не надта хваліліся ў пасляваенныя гады як палонным, так і працай на немцаў.

Саша Жылянін асірацеў у сем гадоў. Яго старэйшы брат загінуў на фронце, двое меншых памерлі ад невядомай хваробы. Мачаха ў 1945-м нарадзіла дзяўчынку. Хлопчык бачыў, як дагарала Рацькаўская пачатковая школа, якую невядома хто падпаліў. З сябрам вазіў у лес ежу для партызанаў (у Руднянскім бары атабарыліся два атрады). Да базы яны не дапускалі: забіралі каня з поўным возам, а вярталі з пустым. У хаце Макара Жыляніна жылі радысты: Воля, Марыя і Андрэй, яны звязваліся з Масквой.

У апошнюю блакаду 1944-га сям'я Макара хавалася ў Змяёўшчыне. Карнікі ішлі шарэнгамі, з аўтаматамі напагатове, і выганялі вяскоўцаў з лесу. Ні Кацярыну з дзіцем, ні Макара не ўзялі: мужчына з пакалечанай рукой быў непрыдатны для працоўнай павіннасці. Затое прыгрэблі падлетка Сашу. Сам ён не запомніў, пры якіх акалічнасцях трапіў у лапы ворагаў. А зводная сястра Рэгіна Вярбіцкая лічыць «вінаватай» сябе, бо не ў пару заплакала на руках у маці.

З успамінаў Аляксандра Жыляніна: «Пра блакаду ўсе ведалі загадзя, былі папярэджаныя партызанамі. Рыхтаваліся сур'ёзна: усё, што можна было закапаць, закопвалі, скаціну вялі за сабою. Пабеглі хто куды: хто пад Рудню, хто ў Змяёўшчыну. Памятаю, як да нас у Змяёўшчыне падышоў барадаты, немалады партызан Мінін, пра штось перамовіўся з бацькам. Мінін — чалавек не мясцовы, камуніст. Перад вайною ён прыбыў будаваць камендатуру ў Мачулішчах. Ажаніўся з Волькай Леановіч, ды так у вёсцы і застаўся.

Чуем страляніну, да нас у гушчар шыбуюць немцы. Выгналі яны з лесу чалавек дваццаць, пастроілі ў канцы вёскі. Слабых, старых, нямоглых — налева, астатніх, здаравейшых, направа. Я з Мініным аказаўся ў адной калоне.

Пагналі невялікай групай у бок Гайны, на Жылічы і далей, на Слагавішча. Далі нам палкі са штырамі, каб мы шукалі па дарозе міны, і следам ішлі з аўтаматамі. Так мы чысцілі дарогу да Плешчаніц. Ніводнай міны, на шчасце, не знайшлі, ніхто не падарваўся.

Потым — Мінск, лагер на вуліцы Мэблевай. Адтуль у цялятніках завезлі ва Усходнюю Прусію. Там нас чакалі "пакупнікі": адных бралі баўэры на сельскую гаспадарку, другія ішлі працаваць на прамысловасць. Мы трапілі ў гарадок Штаблак, за 60 кіламетраў ад Кёнігсберга, і па красавік 1945-га рамантавалі пабітую на фронце тэхніку. Увесь час аднавясковец Мінін быў мне за бацьку. Дзе які сухар — сам не з'есць, мне даваў. І строга сачыў, каб я, падлетак, ні ў што не ўляпаўся.

Мне даручылі пераносіць інструмент. Я бег у цэх, гаварыў нумар — і кладаўшчык выдаваў. Горш было тое, што я ніяк не мог запомніць па-нямецку табельны нумар: 29-45. Доўгі занадта. Дык кладаўшчык наводмаш убіваў мне ў галаву гэтую лічбу. Дасюль яе памятаю...»

Калі фрыцам пачало прыпякаць у пяты, усіх лагерных пагналі да Балтыйскага мора — збіраліся тапіць. «Ноччу Мінін, мінскі хлопец Яскевіч і я адарваліся ад калоны і схаваліся ў бліжэйшым хляве. Нам пашанцавала: там набралі ў вядро мукі. На вуліцы ўгледзелі забітага каня, адрэзалі кавалак ад сцягна. На вогнішчы зварылі зацірку, наеліся. І што далей? Куды адтуль збяжыш? Злавілі нас немцы і даставілі ў тую самую калону. А самі грузіліся на баржу для адплыцця ў Германію. Набілася іх, як селядцоў у бочку, усе стоячы, адны афіцэры. А тут наляцела савецкая авіяцыя — і давай бамбіць, страляць з кулямётаў... Злева — кулі, справа — кулі, вакол мёртвыя... Баржа, якая паспела адплыць, — у трэскі, нашы вартавыя хто куды, калона рассыпалася...

"Саша, ты жывы?" — гэта быў голас Мініна. Выкапалі мы траншэю, накрылі жалезам і праседзелі так пару дзён. Харчаваліся глюкозай: знойдзеным рассыпаным цукрам, які дадавалі ў ваду. А праз суткі-двое бачым савецкі танк, за ім ляцiць старшына з ракетніцай у адной руцэ і пісталетам у другой. І крычаў ён, добра помню: "За Родзіну! За Сталіна!"»

Старэйшых аформілі ў рэгулярную армію, а моладзь з месяц выходжвалі ў савецкай санчасцы.

«Адкармілі нас, адмылі, аб'ездзілі вошамі, потым гавораць: "Езжайте, мальчишки". А як, на чым ехаць? Дадому дабіраліся на таварняку, які вёз прамысловае абсталяванне. Сядзелі прама ў выцяжных авіяцыйных трубах. У Маладзечна нас высадзіла міліцыя, затым — Мінск, пешкі дабіраўся да Лагойска. У Гайне, як сцямнела, ісці я ўжо не мог. Чужая бабуля пакарміла і па дабраце пакінула начаваць», — працягвае аповед Аляксандр Макаравіч.

Дома ўжо і чакаць перасталі. Макар атрымаў пахаронку на старэйшага сына. Колькі радасці было, колькі слёз, калі вярнуўся меншы...

Што з Мініным? Той прайшоў фронт і таксама вярнуўся ў вёску. Жылянін працаваў на міжгародніх перавозках, вазіў грузы за Урал, на Каўказ, у Калінінград. У капіталістычныя краіны не кожнаму дазвалялася выязджаць: трэба было мець сем класаў адукацыі плюс партбілет. Жылянін у партыю не рваўся. Планаваў паехаць у ГДР па турпуцёўцы і знайсці гарадок, дзе вывучаў нямецкія лічэбнікі. Ды ўсё адкладваў: пазней, калі-небудзь іншым разам... А там з'явіліся межы і візы. Так і не выбраўся.

Але мірную Германію ён усётакі пабачыў, бо ў 1952–1954 гадах праходзіў вайсковую службу якраз там, дзе пабываў у якасці рабсілы, у ГДР. Служыў у спецыяльным аўтапалку пры штабе акругі. У выпадку ваенных дзеянняў належала падняцца на колы і забраць усё наяўнае: штаб, тэхніку, дакументацыю і маёмасць.

«Ці бачылі вы сляды нядаўняй вайны?» — цікаўлюся я. Не, — адказаў, — краіна выглядала ўжо цалкам мірнай. Дашчэнту зруйнаваныя авіяцыяй і танкамі гарады Германіі, як ні дзіўна, аднавіліся хутчэй, чым у СССР. Паселішчы дагледжаныя, крамы поўныя тавару і ласункаў. Ваеннаслужачыя адпраўлялі дадому багатыя пасылкі. Як сяржант, Саша атрымліваў на рукі 75 марак, а дома ішлі на кніжку савецкія рублі. Перад дэмбелем набыў адрэз на касцюм.

На час службы прыпалі знамянальныя падзеі на радзіме: памёр Сталін. «Нас паднялі ў тры гадзіны ночы і сабралі ў Ленінскім пакоі. Нампацех паведаміў, што адбылося, як і калі. У старшых камандзіраў блішчэлі на вачах слёзы, — Аляксандр Макаравіч падумаў і дадаў: — Мы, камсамольцы, партыі верылі. Сталін быў як Бог».

Дата 17 ліпеня 1953 года запомнілася асабліва. «Усходнія немцы паднялі бунт, і ў групе войск аб'явілі баявую гатоўнасць. Мы па двое сядзелі ў кабінах з аўтаматамі. Нашай задачай было ў выпадку небяспекі вывозіць штабное камандаванне, таму на "ўсмірэнне" нас не пасылалі. Хлопцы бачылі, як цяжкай тэхнікай блакіраваліся вуліцы, каб перакрыць шлях дэманстрантам. Наш набор з-за гэтай заварушкі тармазнулі на сем месяцаў, а мы і так тры гады служылі».

Дакументальны тэлецыкл Леаніда Млечына дадаў звестак пра антысавецкае паўстанне ў ГДР: 125 чалавек загінулі, 48 расстраляныя, многія атрымалі працяглыя тэрміны зняволення. Падзеі ў Венгрыі і Чэхаславакіі былі наперадзе. Немцы не вытрымалі першымі.

***

Уладзіміра Васюкевіча немцы схапілі на пуцілаўскай дарозе. Хлапчаняты ў Гамбургу, за калючым дротам, дапамагалі рамантаваць караблі. Галадалі страшэнна. Не выжылі б, калі б іх не падкармлівалі цывільныя немцы-рамонтнікі. Вызвалілі остарбайтараў амерыканцы, а савецкія пераможцы паставілі знясіленых падлеткаў гнаць элітных коней за Маскву. «Калі Валодзька нарэшце адчыніў дзверы ў родную хату, маці

кажа дачцэ: "Паглядзі, што за хлопчык прыйшоў..." Не пазнала! А той худы, як шкілет, і вош на вошы», — узгадвае Вера Васюкевіч.

На запрашэнні немцаў Валодзя некалькі разоў пабываў у Гамбургу, дзе збіралі на сустрэчу былых малалетніх вязняў. У іх бралі інтэрв'ю, здымалі на відэа. Апавядаючы пра перанесеныя пакуты, дарослы чалавек плакаў. Памаўчу, кажа, набяруся сіл, і зноў расказваю...

Некаторым пашанцавала пазбегнуць вывазу. Сям'і Лявончыкаў дапамагла мінская сваячка. «Калі Міцю было тры з паловай гады, а мне — два, нашу сям'ю схапілі ў Косіна і павезлі ў Мінск на перасыльны пункт, каб адправіць у Германію. У горадзе жыла родная сястра нашай маці. Праз паліцаяў яна перш выкупіла малых пляменнікаў, а потым цяжарную маці і бабулю Насцю. Уратавала ўсіх! У той жа мінскай цёткі мы ў вайну і пасяліліся. Бог даў цётцы доўгае жыццё: пражыла да 92-х гадоў», — распавядае Аляксандр Лявончык.

У Драгуноў з Якубавічаў Гаравых свая гісторыя выратавання. Большыя дочкі паўцякалі, засталася маці з малымі. Суседкі навучылі: «Схавайся. Без цябе не забяруць». Гэлька паслухалася: залезла ў густы куст разынак ды цікавала адтуль, назірала, што ж будзе. Ажно ейны вывадак, чацвёра дзяцей, далучылі да групы і разам з іншымі павялі на Янушкавічы. Хлопчыкі-блізняты толькі навучыліся хадзіць. Сястра то аднаго падніісе, то другога... А цяжкія — падарвацца можна. Выбралася Гэлька з куста і давай даганяць сваіх. Дзе ж яна іх пакіне?

З барысаўскага перасыльнага лагера іх выкупіў муж і бацька. З дапамогай партызанскіх сувязных усіх перавезлі дадому.

З Малых Янушкавічаў пабралі тых, каго не забілі і не спалілі пры карнай аперацыі. У вёсцы знайшлі кулямёт, пакінуты партызанамі на рамонт. Людзей панішчылі, а вёску спалілі цалкам. На мясцовых могілках захаваліся крыжы над сямейнымі пахаваннямі з надпісам: «1943 год».

***

Анатоль Віктаравіч Марцынкевіч адзін з нямногіх, хто расказаў пра ўсе перыпетыі палону ад пачатку да вяртання.

«У Лагойску нас грузілі ў "Студэбекеры" і везлі ў мінскі перасыльны лагер на Шырокую. Некаторых там выкупілі гарадскія сваякі. Далей — вагоны-"цялятнікі" і перасыльны пункт за Кёнігсбергам. Баўэры прыязджалі туды і давалі заяўкі — колькі каму патрэбна рабочых рук. Пасля развозілі падводамі на свае гаспадаркі.

На ферме пана Фінарскага мы аказаліся разам з Анісем Бабкевічам, нашым аднавяскоўцам. Гаспадарка была ладная: 40 свінняў, 20 кароў, каля дзесяці коней, авечкі, гусі... Зранку на хутар прывозілі чатырох палячак, якія адпрацоўвалі з намі змену, а жылі дзесьці асобна.

Пан не забараняў сваім дзецям, — хлопчыку і дзяўчынцы, — гуляць са мной. Два яго старэйшыя сыны ваявалі. Адзін вярнуўся з параненай нагой, падлячыўся, і зноў рушыў на фронт. Занятак знайшоўся і мне, сямігадоваму: даглядаў, ганяў на сажалку гусей. А паколькі я пачынаў кумекаць па-нямецку, то быў перакладчыкам пры маці: даводзіў ёй, што неабходна рабіць, альбо перадаваў заўвагі па зробленым. Мне, як дарослаiму, давяралі каня. Я адвозіў бідончыкі малака ў спецыяльна абсталяванае месца, ставіў іх на пастаменцік, а ў іншы час забіраў адтуль масла з малаказавода».

Нядаўнія калгаснікі, якіх жыццё прывучыла красці, адзначалі строгія маральныя правілы мясцовага цывільнага насельніцтва. Выстаўленае на здачу малако ніхто не ахоўваў. Адзін гайненскі мужык тым адно і выжыў, што падкрадуся і піў цішком гэтае малако. Аднак пакуты сумлення яго ўсё ж наведвалі.

За пару тыдняў да прыходу Чырвонай Арміі пан сабраў на дзве параконкі скарб, прадукты, пасадзіў сваё сямейства і прапанаваў работнікам далучацца: «Як прыйдуць вашы, то вас заб'юць». «А хто ж даглядзіць пакінутую гаспадарку?» — знайшла што адказаць адна жанчына...

«Фронт нарэшце дакаціўся да Германіі. Першымі прыбылі конныя разведчыкі, 12 чалавек. Пяць дзён набіраліся сілы на пакінутай ферме — рабілі рэйды да бліжэйшага спіртзавода. Камандзір нас папярэдзіў: "Не затрымлівайцеся. Збірайцеся і едзьце да граніцы". Мы аб'ядналіся з мамінай сястрой, што працавала з дзецьмі на суседняй ферме. Знайшоўся граматны мужык-украінец, які арганізаваў пару вазоў. Так мы дабраліся ў Беларусь сваім ходам — праз Польшчу, на двух вазах. Па дарозе, праўда, коней у нас рэквізавалі армейцы. Далей на папутных і перакладных дабраліся да Брэста.

Нам, можна сказаць, пашанцавала. Многіх перасыльных затрымлівалі, доўга правяралі і адпраўлялі не дамоў, а ў далёкія вобласці СССР. А хто трапіў пад амерыканцаў, тыя маглі падацца на Захад.

У Мінску, на Камароўскім кальцы, жыла наша цётка. Нас, дзяцей, памылі, і, спаліўшы адзенне, на нейкі час пакінулі ў горадзе. Сёстры на санях праз Паперню выехалі на Янушкавічы», — згадвае Анатоль Марцынкевіч.

***

Вярнуўшыся, забраныя неахвотна расказвалі пра знаходжанне на варожай тэрыторыі. Усе яны праходзілі праверку спецслужбаў і былі на ўліку. Угон быў яшчэ большай плямай на біяграфіі, чым жыццё пад акупантамі. Ніхто з мясцовых мне не прызнаўся, як правяралі і дапытвалі людзі з пагонамі.

Кампазітар Алесь Рашчынскі, ураджэнец Лагойска, толькі пасля смерці бацькоў даведаўся, што маці два гады працавала чорнарабочай на нямецкім авіязаводзе і была вызвалена амерыканцамі. Анастасію Хадасевіч схапілі разам з іншымі дзяўчатамі за тое, што яны хавалі і кармілі на Паненскай гары байцоў-акружэнцаў.

Браты Рашчынскія пачулі пра ўсё гэта выпадкова, ад чужых людзей. Маці, відавочна, баялася за наступствы прымусовага вывазу, бо знішчыла ўсе дакументы. А матэрыяльную дапамогу, між іншым, дэмакратычная Германія выдавала і дзецям вязняў. Рашчынскім надта цікава было б пабачыць той горад, куды звезлі маці, — Эслінген. У гэтым горадзе ў 2000 годзе мне якраз выпала пабываць.



Ірына Загорская (цяпер Бязверхая) з нумарам рэгістрацыі. 1944 год



Іван і Марыя Жардзецкія, 1951 год

***

Сваю драматычную гісторыю распавяла мне мінская жыхарка Ірына Бязверхая, дачка падпольшчыцы Загорскай. Матулю схапілі ў пачатку 1943-га, а дзве дочкі былі вывезены пад Берлін.

Барак быў без вокнаў, з адтулінамі ў столі. Там ужо жылі нявольніцы: палячкі, балгарка, некалькі смаленскіх, а большасць — мінскія. Упраўляючы Глюк дзвюх палячак узяў на кухню, каб яны гатавалі для астатніх. Жылі ў вялікім доме, абнесеным калючым дротам. З аднаго боку цякла рэчка, з другога вялізныя вароты вялі на вуліцу.

«Уранку ўпраўляючы падымаў нас усіх з гумовай плёткай, гнаў вуліцай на працу. Мне далі на ногі драўляныя калодкі, яны страшэнна грукацелі па бруку і звальваліся. З дамоў выходзілі немчыкі — спецыяльна, каб нас перанянць. Паказвалі на мяне пальцам і крычалі: "Русіш швайн!" Рагаталі і плявалі на мяне. Не вытрымаў нават Глюк і адагнаў іх.

Група працавала ў пральні. Туды прывозілі пасцельную бялізну, споднае і верхняе адзенне, мужчынскія кашулі. Цяжкія цюкі на ліфце мы паднімалі наверх, закладвалі ў пральныя машыны. Працавалі дзень без абеду. Калі бялізна памыецца, каляску я цягну ў сушку, потым развешваю. Чыстае валаку ў кладоўку. А там быў другі немец, якому на фронце выбіла вока. Злосны страшэнна! Усё падганяў: "Шнэль! Шнэль!" Мог і па мордзе даць. Адна толькі немка-загадчыца размаўляла па-чалавечы.

Сястра Жэня займалася прасаваннем бялізны. За адзіную складачку яе маглі пабіць. Пад вечар ва ўсіх была адна думка: хутчэй бы на нары! На вячэру маглі даць адну моркаўку. Кожны дзень елі капусту кальрабі і суп са смажўю. У жыхцы траплялiся вострыя кавалачкі ракушак, мы мусілі асцерагацца, каб не парэзаць у роце».

Наступалі войскі саюзнікаў. Горад кожны дзень бамбілі, вязняў заганялі ў асобнае бомбасховішча. Пасля падзення Берліну на праверачным пункце выявілася, што ў меншай сястры кепска з лёгкімі. Абедзвюх Загорскіх адправілі ў шпіталь у Веймар, дзе яны прабылі цэлы год. Найлепшы час для малодшай: яна разносіла раненым салдацікам кніжкі, а яны звалі яе «сястрычкай».

***

Каму выпала ў Нямеччыне займацца сельскагаспадарчай працай, цалкам (паўтаруся) залежалі ад гаспадароў. Сярод іх былі злосныя і скнарныя, але траплялiся і такія, што разам кармілі дзяцей, сваіх і «рускіх», укладвалі іх спаць у адным пакоі, укрывалі пуховымі коўдрамі.

Цікавыя факты паведаміла паэтка Вера Буланда. «Мая барысаўская радня дзядзька Юзя і цётка Маруся (яны са Мсціжа) няшмат мелі гадоў, калі іх схапілі на ўгон. Яны трапілі ў адну групу з зембінскімі і плешчаніцкімі людзьмі. Іх навучылі: калі хочаце застацца разам, то назавіцеся адным прозвішчам. Быццам адна вялікая сям'я. І яны, дзевяць чалавек рознага ўзросту, усе назваліся Буландамі!

Гаспадар ім трапіўся харошы, работнікаў не крыўдзіў. Пры набліжэнні фронту яму паступіла каманда везці вязняў на бліжэйшую чыгуначную станцыю: планавалася іх знішчэнне ў канцлагеры. Тады немец даў людзям інструкцыю: перад пасадкай у эшалон ён дасць знак — махне рукой, і тады трэба бегчы ў катакомбы, прыгінаючыся ды пятляючы. Іх там будуць чакаць».

План спрацаваў. Беларусы кінуліся ва ўказаным кірунку, ім услед стралялі вартавыя. Чалавек пяць здолела ўцячы, у катакомбах іх кармілі бутэрбродамі мясцовыя жанчыны.

***

На радзіму вярнулася пераважная большасць забраных (прынамсі, з Лагойшчыны). Таму можна зрабіць выснову: як бы цяжка ні было на прымусовай працы, на чужыне жыхары акупаванай Беларусі адчувалі сябе ў адноснай бяспецы. З тае хаця б прычыны, што там (да часу) не стралялі і не палілі. Фронт грозна прыкаціў і туды, аднак пры зваротнай дарозе нават конь бяжыць шпарчэй. І зусім нямногія добраахвотна выбралі Захад — калі траплялі пад юрысдыкцыю амерыканцаў.

Аляксандр Жылянін захаваў у Зялёным Лузе прыватны ўчастак са старым, пасля вайны пастаўленым домам. І надумаў займець чатырохлапага сябра і ахоўніка, дзеля чаго выбраўся на Гурскага, у сабачы прытулак. Старога чалавека аглушыў нязмоўчны сабачы лямант. Адлоўленыя бадзяжкі адчайна кідаліся на пруты клетак, і кожны сабака нібыта прасіў-маліў: «Забяры мяне! Забяры мяне!» А той, невялічкі і калматы, каго ён нагледзеў, ціха сядзеў убаку.

Раптам перад вачамі паўстала забытая, сцёртая з памяці карціна, як змучаныя дарогай беларусы чакаюць размеркавання: выглядаюць тых, хто іх возьме на гаспадарку. Негаваркі і стрыманы Аляксандр Макаравіч не тое каб успомніў — ён дзіўным чынам пераскочыў у тыя дні, у момант невядомасці і цяжкага чакання. І ён заплакаў.

**Здымкі з асабістага архіва А.М. Жыляніна**

# Распачаўся прыём заявак на прэмію імя Наталлі Арсенневай

**Распачаўся прыём заявак на прэмію імя Наталлі Арсенневай за найлепшую паэтычную кнігу на беларускай мове.**




Прэмія за найлепшую кнігу паэзіі была заснаваная ў 2017 годзе ў гонар Наталлі Арсенневай — выбітнай беларускай паэткі, зоркі літаратуры Заходняй Беларусі, аўтаркі знакавага верша «Магутны Божа».

У 2019 прэмію атрымала Марыя Мартысевіч за кнігу «Сарматыя», у 2018 годзе — Алесь Разанаў за кнігу «Перавыбранае», а ў 2017-м — Уладзімір Някляеў за кнігу «Толькі вершы».

Арганізатарамі прэміі з'яўляюцца Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр і Згуртаванне «Бацькаўшчына». Літаратурная прэмія імя Наталлі Арсенневай заснаваная пры спрыянні Фонду культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонду Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі.

Крытэры для падачы кніг на прэмію:

1) жанр кнігі — паэзія;
2) кніга выдадзеная ў 2019 годзе (кніга, якая была выдадзеная ў 2018, але па нейкіх прычынах не ўдзельнічала ў мінулагодняй прэміі, можа быць пададзеная ў гэтым годзе);
3) мова кнігі — беларуская;
4) кніга павінна быць выдадзеная ўпершыню ў папяровым ці электронным выглядзе (выдадзенай упершыню лічыцца кніга, палова і больш зместу якой апублікавана ў кнізе ўпершыню).

Каб падаць заяўку на прэмію, трэба запоўніць адмысловую форму, а таксама даслаць электронную версію выдання і вокладку кнігі ў фармаце jpeg на адрас paezija@gmail.com (пазначыўшы ў тэме пісьма назву кнігі і аўтара). Калі кніга выдавалася ў папяровым выглядзе, папяровыя асобнікі (у колькасці ад 2 да 5) трэба перадаць у Саюз беларускіх пісьменнікаў (з 11 да 18 гадзінаў у працоўныя дні, адрас: Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31, пакой 906, на дамафоне набраць 47 і званок, тэлефон +375 17 354 80 91). Заяўкі прымаюцца да 13 лютага 2020 года.

Пераможцу вызначаць вядомыя паэты і літаратуразнаўцы, склад журы будзе неўзабаве абвешчаны.

Сачыць за навінамі прэміі Наталлі Арсенневай можна на старонцы ў Facebook і на сайтах арганізатараў, задаць пытанні можна, напісаўшы на адрас paezija@gmail.com ці па тэлефоне +375 44 7994047.

**Паводле прэс-рэлізу**



# БагатаДата

**Ад Радзівілаў да Фрунзэ, ад Гедройца да Янкоўскага. У гэты тыдзень мы адзначаем круглыя даты з дня народзінаў шматлікіх асобаў, якія пакінулі след у гісторыі краіны.**




Фота ТАСС

Яўген Рэдзькін

## 2 лютага

**Сусветны дзень водна-балотных угоддзяў.**

**1885.** У сталіцы Кыргызстана Бішкеку нарадзіўся Міхаіл Фрунзэ, савецкі дзяржаўны і ваенны дзеяч. У 1916 годзе вёў таемную рэвалюцыйную дзейнасць на Заходнім фронце на тэрыторыі Беларусі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі быў начальнікам народнай міліцыі ў Мінску. У яго гонар з 1926 па 1991 гады Бішкек называўся Фрунзэ, а ў сталіцы Беларусі ёсць вуліца яго імя.

**1970.** У расійскім Ханты-Мансійску нарадзіўся біятланіст Яўген Рэдзькін. Быў сцяганосцам зборнай Беларусі на зімовай Алімпіядзе–1994 — прычым адзіным сцяганосцам нашай краіны на Алімпіядах, які нёс бел-чырвона-белае палотнішча. А двума гадамі раней ён сенсацыйна выйграў алімпійскі залаты медаль у гонцы на 20 кіламетраў у складзе Аб'яднанай каманды СНД.

## 3 лютага

**1950.** У Вільні нарадзілася актрыса Тамара Міронава. Служыла ў Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча, затым у сталічным тэатры «Дзе-Я?», пазней і да гэтага часу — у Купалаўскім тэатры. Цяпер занятая ў спектаклях «Паўлінка», «Вечар», «Людзі на балоце», «Дзве душы» і ў свежапрэм'ерным «Шляхціц Завальня».

## 4 лютага

**Сусветны дзень барацьбы з ракавымі захворваннямі.**

**1515.** У Нясвіжы нарадзіўся Мікалай Радзівіл Чорны — палітычны, ваенны, культурны і рэлігійны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Чорны — мянушка з-за колеру барады (у яго быў яшчэ стрыечны брат-цёзка Мікалай Радзівіл, толькі Руды — па той самай прыкмеце). Канцлер ВКЛ, выступаў за яго суверэннасць у хаўрусе з Польшчай. Першым сярод магнатаў прыняў Рэфармацыю, прапагандаваў кальвінізм. Спрыяў шлюбу сваёй стрыечнай сястры Барбары з вялікім князем ВКЛ і каралём польскім Жыгімонтам Аўгустам (гісторыя «Чорнай панны Нясвіжу»). У выніку гэтага шлюбу Чорны ўзвысіўся: акурат і стаў канцлерам ВКЛ, а Радзівілы — самым уплывовым родам.

## 5 лютага

**1930.** У Адэсе, што ва Украіне, нарадзіўся беларускі акцёр тэатра і кіно, народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі. З 1995 па 2010 гады — старшыня кінафестывалю «Лістапад». Служыў акцёрам у Тэатры імя Максіма Горкага ў Мінску. Здымаўся ў фільмах «Чырвонае лісце», «Служылі два таварышы», «Я, Францыск Скарына», «Руіны страляюць», «Корцік», «Валодзя вялікі, Валодзя маленькі», «Казка пра Зорнага хлопчыка», «Надзейны чалавек», «Пракляты ўтульны дом».



## 6 лютага

**1895.** У сяле Расказава Тамбоўскай вобласці Расіі нарадзіўся беларускі навуковец, неўрапатолаг і фізіятэрапеўт Даніла Маркаў. У другой палове 1940-х гадоў — дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытуту фізіятэрапіі і неўралогіі, у 1954–1976 гадах — галоўны неўрапатолаг Міністэрства аховы здароўя БССР.

## 7 лютага

**1750.** На Браслаўшчыне нарадзіўся ваенны дзеяч ВКЛ, генерал-маёр Рамуальд Гедройц. Сябра Найвышэйшай Літоўскай Рады — часовага рэвалюцыйнага ўраду ВКЛ падчас паўстання 1794 года Тадэвуша Касцюшкі. У расійска-французскую вайну ў 1812 годзе падтрымаў Напалеона, зладзіў паспалітае рушанне супраць маскоўскіх войскаў. Трапіў у палон, быў высланы ў Архангельск, праз два гады пераехаў у Варшаву, дзе і памёр.



**1935.** У вёсцы Валоўшчына Мінскага раёна нарадзіўся дзяржаўны дзеяч БССР Станіслаў Лукашэвіч. У 1977–1980 гадах працаваў старшынёй Мінскага гарвыканкаму.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 168

Падпісана да друку 31.01.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.